Ранкам 26 кастрычніка нас накіравалі на Васільеўскі востраў. Мы ўжо даведаліся, што Керанскі быў на фронце і загадаў арміі ісці на абарону Петраграда ад бальшавікоў. Нас накіравалі ў Царскае Сяло. Паміж Гатчынай і Петраградам, ля чыгункі, мы занялі ў ноч на 26 кастрычніка баявую пазіцыю. Там была выемка. Калі ўвайшоў у яе эшалон з войскам, мы пачалі страляць. Не стралялі аднак у вагоны, дзе былі салдаты. Цягнік затрымаўся, салдаты выскаквалі з вагонаў і ўцякалі назад. Там яны пападалі ў нашыя рукі, мы іх абеззаружвалі, высвятлялі, у чым справа, і накіроўвалі ў Петраград. Такім чынам, 4 эшалоны салдат прайшло праз нашыя рукі.

На другі дзень Керанскі апынуўся ў Царскім Сяле з казакамі, адкуль казакі адкрылі па нас стральбу.

Дзякуючы дапамозе рабочых Пуцілаўскага завода, якія на працягу гадзіны даставілі нам 16 гармат, мы не дапусцілі казакаў у Петраград.

Яшчэ потым цэлыя суткі мы каравулілі, каб ніякія варожыя часці не дайшлі да Петраграда.

Потым мы вярнуліся ў свой порт. Там застала мяне дэмабілізацыя. Я паехаў да сям'і, якая жыла ў Уфе.

У 1921 годзе вярнуўся ў Арэшкава.

**Запісаў М. Л.**

## ЧЫРВОНЫ БРАНЯПОЕЗД

Многа чаго прыйшлося перажыць Максіму Панасюку. Шмат свету давялося ўбачыць. Жыццё яго адлюстроўвае вельмі цікавую частку гісторыі.

Першая сусветная вайна застала яго як артылерыста, ефрэйтара царскай арміі, у Брэсцкай крэпасці.

Неўзабаве часць, у якой быў Максім Панасюк, атрымала загад выехаць бранепоездам да аўстрыйскай граніцы: Сасновец, Кельцы, Скаржыска, Радом, Люблін — гэта былі гарады, дзе не адзін раз даводзілася Панасюку за цара-бацюшку падстаўляць сваю сялянскую галаву пад нямецкія кулі. Прыйшлося аддаць немцам і Брэсцкую крэпасць, адступіць аж пад Ковель.

Тут у 1916 годзе ў франтавых акопах Панасюк упершыню пазнаёміўся з салдатамі — камуністамі і зразумеў, што гэта за вайна і хто яе хоча. Разам з іншымі рускімі салдатамі ўдзельнічае ў братанні з нямецкімі салдатамі, такімі ж, як і ён, працоўнымі людзьмі.

З-пад Ковеля бранепоезд, у якім Панасюк быў артылерыстам, быў накіраваны на румынскі фронт у Румынію. З Румыніі прыйшлося адступіць да Адэсы. Тут у 1917 годзе ефрэйтар Панасюк сустрэў рэвалюцыю. Бранепоезд у першыя ж дні перайшоў на яе бок і верны ёй быў да канца.

У Адэсе Панасюку давялося паваяваць з гайдамакамі. Гайдамацкія недабіткі ў перапалоху ўцякалі ў стэп.

Пасля разгрому гайдамакаў чырвоны бранепоезд накіравалі аж у Латвію пад Рыгу, зноў на нямецкі фронт.

Немцы лезлі ў глыб Расіі. Цяжка з імі было змагацца маладой, толькі што стаўшай на ногі Чырвонай Арміі. Чырвоны бранепоезд вымушаны быў адступіць аж пад Пскоў.

Неўзабаве быў заключаны Брэсцкі дагавор. Канец вайны.

— Аднак для нас, — успамінае Панасюк, — быў гэта пачатак вайны, пачатак барацьбы з контррэвалюцыяй.

На Пецярбург надыходзіла чорная хмара Юдзеніча. Сталіца рэвалюцыі была ў небяспецы. Чырвоны бранепоезд быў накіраваны цяпер на дапамогу Пуцілаўскім рабочым.

Пасля разгрому Юдзеніча не прыйшлося доўга адпачываць байцам чырвонага бранепоезда. З Сібіры, сабраўшы контррэвалюцыйныя сілы, пры падтрымцы капіталістычных дзяржаў, набліжаўся Калчак. Чырвоны бранепоезд накіравалі на Урал, насустрач Калчаку. Пад'ехаў пад Іжэўск. Тут, асабліва каля Іжэўскага зброевага завода, была вялікая групіроўка белых. Байцы бранепоезда атрымалі загад выбіць белых са зброевага завода. Бранепоезд рушыў на завод. Пасля цяжкага бою зброевы завод быў узяты чырвонымі. Іжэўск быў вызвалены. Аднак Калчак яшчэ не быў разбіты. Ён падрыхтоўваў контррэвалюцыйныя сілы да рашаючай атакі.

Сілы чырвоных, на жаль, былі невялікія пад Іжэўскам. Вялікі голад, тыф моцна давалі знаць аб сабе байцам рэвалюцыі. Пад ударамі Калчака яны вымушаны былі пакінуць Іжэўск і адступіць да Казані. Бранепоезд адступіў аж да ракі Вяткі і прыняў абаронную пазіцыю на станцыі Вяцкія Паляны. Было вельмі цяжка. Хвароба і голад сеялі ў радах байцоў паніку, дэзарыентацыю. А Калчак націскаў.

— Ужо здавалася, — успамінае Панасюк, — што ўсё валіцца, не вытрымаем.

Менавіта тады прыехаў да нас таварыш Ленін. Вестка аб гэтым маланкай праляцела па эшалонах. Салдаты высыпалі з вагонаў.

— Ленін выступіць з прамовай! — неслася па радах салдатаў.

Я бачыў, як паміж салдатамі, ветліва ўсміхаючыся, крочыў чалавек невялікага росту ў падношаным паліто і рабочай кепцы.

Гэта быў Ленін!

Узабраўшыся на вагон, Ленін выступіў з палымянай прамовай. У радах салдат нібы макам пасеяў. Усе сціхлі — кожны стараўся не прапусціць ніводнага слова.

— Таварышы! — гаварыў Ленін, — далей адступаць няма куды.

Доўга гаварыў таварыш Ленін. Словы яго ўлівалі нейкую незвычайную моц у салдат — рэвалюцыянераў.

Калі скончыў — салдаты знялі яго з вагона і панеслі на руках.

— З намі Ленін, — крычалі навокал, — разаб'ем калчакоўскую нечысць!

А Ленін праходзіў ад эшалона да эшалона, гутарыў з салдатамі. Вось ён зайшоў у наш браняпоезд. Пачаў распытваць пра нашае жыццё, сямейныя справы. Узяў з рук майго сябры абсмалены салдацкі кацялок і паспрабаваў салдацкай стравы.

У салдат уступіў нейкі вялікі энтузіязм.

Хутка прыйшло падмацаванне, і мы нанеслі Калчаку рашаючы контрудар. Пагналі яго аж да Пермі і тут прыкончылі. Чырвоны браняпоезд пад палымяным сцягам рэвалюцыі вяртаўся назад з перамогай.

Максім Панасюк жыве цяпер у Бельску. Ён мае ўжо 70 год. Аднак, калі ўспамінае рэвалюцыйныя падзеі, вочы яго нейк бліщчаць, а ўся постаць набірае вайсковай рэзкасці і маладосці. Асабліва любіць успамінаць Максім Панасюк сустрэчу з таварышам Ленінам.

Гэтай сустрэчы, гаворыць ён, не забудзе да канца свайго жыцця.

**В. Баршчэўскі**

## У БУДЗЁННАГА

У час першай сусветнай вайны мае бацькі (а разам з імі і я) пераехалі ў Царыцынскі раён і там пасяліліся ў невялічкай вёсачцы. Маючы няпоўных 18 гадоў, я дабраахвотнікам пайшоў бараніць Царыцын перад Дзянікінам, які рыхтаваў на Маскву сваё генеральнае наступленне.

Праз нейкі час мяне назначылі ў кавалерыйскі полк, а ў 1919 г. — у VI конную дывізію Будзённага.

Наша дывізія была накіравана пад Варонеж даваць адпор наступаючым кавалерыйскім атрадам Шкуры і Мамантава. Па сённяшні дзень чую ў вушах словы Будзённага, заклікаючыя да разгрому Дзянікіна.

Быў кастрычнік 1919 г. Снежная завіруха заносіла свет туманамі снегу. Шостая конная дывізія рыхтавалася да контратакі ў напрамку станцыі Касторная (непадалёку ад Варонежа), дзе размясціліся галоўныя сілы контррэвалюцыі.

Памятаю, як бы сёння гэта было, падрыхтоўку да бою. Некаторыя спяшаліся, сядлалі коней, іншыя ізноў нервова зацягваліся дымам папяросаў. Дзесьці паблізу несліся меладыйныя песні.

Праходзілі гадзіны. Я выцер свайго гнядага, зацісную папругі, паглядзеў на шаблю. Няспынна грымела кананада артылерыі, папярэджваючая атаку Мамантава. У галаве мітусіліся думкі, каб як найхутчэй, як найхутчэй. Чаканне ж горш чалавека мучыць, чым бой.

Раптам на маім плячы лягла цвёрдая рука; пачуўся спакойны голас: «Гатовы, таварыш?».

— Гатовы, таварыш камандзір, — адказаў я, падцягваючыся на смірна. — Шабля вострая, паляцяць макаўкі белых. Пакажам ім, дзе ракі зімуюць.

Будзённага любілі і шанавалі ўсе кавалерысты. Салдаты абступілі яго і распытвалі, што робіцца на фронце. Будзённы выняў з кішэні капшук з махоркай і частаваў кавалерыстаў.

— Не хопіць усёй сямейцы — пажартаваў нейкі салдат.

Будзённы зацягнуўся дымам і дакладна, коратка гаварыў аб становішчы Чырвонай Арміі на фронце.

— Трэба разграміць Мамантава — галоўную стаўку контррэвалюцыі, узяць вакзал Касторная, — вось наша баявая задача.

Будзённы размаўляў з намі, як роўны з роўным. Тым часам артылерыя прыціхла.

— Па конях! — пачулася каманда. Усе рушылі скокам. Кулямётчыкі на чале, а за імі доўгім шнурам расцягнулася дывізія.

Удалечыні, як з імглы, высоўваліся сілуэты казачай лавы.

— Кулямётчыкі наперад! — грымнуў голас камандзіра.

Прайшло некалькі секунд, і, калі чорная лава наблізілася на адлегласць выстралу, пасыпаўся агонь, залп адзін, другі, трэці.

Станковыя кулямёты грэлі без перарыву.

Кулямётны агонь затрымаў казацкую лаву. Спалоханыя казакі сталі адступаць.

— Уррра! У пагоню!

— За рэвалюцыю! За зямлю! За свабоду і мір! Смерць белым! — неслася ва ўсе бакі.

Я ўбачыў, як казак выбіў шаблю ў раненага кавалерыста, але той, не маючы іншай зброі, кінуўся яму на плечы, сцягнуў на снег і задушыў. Я скінуў з сядла аднаго, другога, аж тут раптам белагвардзейскі афіцэр намерыўся проста на мяне, на

шчасце, я ў пару прыгнуўся, і варожая шабля з вострым свістам прарэзала паветра, а тым часам я павярнуўся і так пачаставаў ворага, што той кулём паляцеў з сядла.

Некалькі гадзін ішоў заўзяты бой. Снег быў чырвоны ад людской і конскай крыві, а поле заслана трупамі.

Кавалерыя генерала Мамантава была разбіта. Чырвоныя кавалерысты — героі занялі важную вузлавую станцыю, праз якую праходзілі паязды з Данбаса, Курска і Варонежа на Маскву. На станцыі мы здабылі браняпоезды, танкі, гарматы, станковыя кулямёты, шмат патронаў і ўзялі ў палон некалькі тысяч белагвардзейцаў.

Пасля таго яшчэ доўга не сыходзілі мы з коней і не хавалі шабляў — усё яшчэ змагаліся з белагвардзейскімі атрадамі. Прайшоў я каля II тысяч кіламетраў баявога шляху. Каля 40 разоў прымаў удзел у баях з белагвардзейшчынай.

Гэтак вобразна і захапляюча расказвае Ціхан Трафімюк аб памятных днях абароны Кастрычніцкай рэвалюцыі перад контррэвалюцыяй.

Ціхан Трафімюк — энергічны, хоць ужо немалады чалавек. Жыве ён цяпер у вёсцы Клейнікі, Гайнаўскага павета, і разам з сям'ёю працуе на адзінаццацігектаровай гаспадарцы.

Гутарку правёў **Б. Нікіцюк**

## МІХАСЬ ЮЗВЮК З ТРАСЦЯНКІ

Ваенныя падзеі першай сусветнай вайны закінулі мяне як бежанца з вёскі Трасцянка ў Расію, а пасля мабілізацыі — у Арэмбаўмскую вайсковую часць. Да гэтага часу я ўжо паспеў пабываць некалькі год на розных адрэзках заходняга фронту, пазнаць усе няшчасці вайны, убачыць упадак дысцыпліны ў арміі. Салдат цікавіла толькі адно — хутчэйшае заканчэнне вайны. Таму, апынуўшыся недалёка ад Петраграда, мы прыхільна аднесліся да агітацыі рабочых, якія нас наведвалі. Знайшлося сярод нас бадай што некалькі дзесяткаў салдат, якія сталі дапамагаць гэтым рабочым агітаваць за бальшавікоў. Паколькі аднак нашае начальства не дазваляла праводзіць сходы ў вайсковай часці, мы выходзілі ў суседні лес. Хваляванні сярод салдат узрасталі.

Аднойчы ноччу чамусьці ўсе афіцэры паўцякалі. Застаўся толькі адзін камандзір роты па прозвішчу Мацур. Быў гэта даволі добры чалавек, і таму ўсе салдаты аб'явілі яго сваім камандзірам. Пачалі нават дабіраць ніжэйшы камандны састаў з тых салдат, якія былі некалькі год на фронце і былі актыўнымі ў апошні час. У ліку іх быў і я. Большасць з нас аднак не ўмела нават пісаць. Таму мы самі пачалі арганізавана вучыцца. І вось аднойчы камандзір запрапанаваў нам выезд у Петраград на навуку. Зразумела, усе згадзіліся. Апранулі нас у прыгажэйшыя мундзіры і пад гукі аркестра накіравалі на зборны пункт. Адтуль мы ехалі амаль два дні. Пачалі гаварыць, што нешта едзем мы за надта доўга. Высветлілася, што апынуліся мы на фронце каля Сіняўкі. Тут нас акружылі салдаты, а нейкі падпалкоўнік аб'явіў, што мы арыштаваны як бунтаўшчыкі, забойцы, гандляры. «Гэтае быдла трэба спачатку добра абучыць, а пасля прыдзяліць у паасобныя штрафныя батальёны». Зразумела, усё было хутка выканана. Але ваяваць нам як штрафнікам ужо не давялося. Праз некалькі дзён салдаты пачалі пакідаць фронт і разыходзіцца дамоў.

Гэта было нашае шчасце. Інакш «навука» магла б закончыцца трагічна. Начальства Петраграда ўжо не адзін транспарт неспакойных салдат адправіла такім спосабам на фронт.

Запісаў **У. Ю.**

## УСПАМІНЫ КАСТУСЯ ЗУБРЫЦКАГА З БЕЛАСТОКА

Рэвалюцыйныя падзеі 1917 года засталі мяне ў Екацярынаслаўлі. Працаваў я там рабочым Бранскага металургічнага завода. У лютым пасля звяржэння цара мы пачалі ўстанаўліваць рабочую ўладу на заводзе. Выбралі агульны рабочы камітэт і цэхавыя камітэты.

Ажыццяўленне рабочага кантролю не праходзіла лёгка. Уладальнік і адміністрацыя не хацелі ўступаць. У абароне іх выступіла жандармерыя. Былі нават стычкі рабочых з царскай паліцыяй, але паліцыя вымушана была ўступіць 18 тысячам рабочых. Тады супраць рабочых былі накіраваны войскі.

Па ініцыятыве бальшавікоў узнікалі ўзброеныя атрады самаабароны. На чале іх стаялі вопытныя камуністы, якія вярнуліся з Сібіры і турмаў. Рабочыя перамаглі. Пайшла прадукцыя. Прымушаны былі да працы інжынеры і тэхнікі. Але трэба было пастаянна даглядаць іх працу, паколькі яны прабавалі мэтанакіравана асмяшаць і сабатаваць пастановы рабочага камітэта.

Адначасова ішла барацьба за ўладу Саветаў. Пры садзеянні нашых рабочых была ліквідавана жандармерыя і пасада губернатара. Усе адміністрацыйныя функцыі перанялі Саветы рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Я асабіста, прымаў удзел у апанаванні мясцовай пошты, станцыі і турмы.

Асаблівую ўвагу бальшавікі прысвячалі ўмацаванню Чырвонай Гвардыі. Налічвала яна каля 6 тысяч людзей. Сітуацыя была цяжкая. У горадзе было поўна белагвардзейцаў, спекулянтаў, анархістаў і шпіёнаў. У той час былі вялікія клопаты з узбраеннем нашых гвардзейцаў. Зброю здабывалі мы самі. На кожным кроку трэба было асцерагацца, з-за кожнага вугла пагражала смерць.

Над горадам павісла пагроза голаду. Нягледзячы на шматлікія цяжкасці, мы арганізоўвалі зборку жыта, мукі і іншых прадуктаў для рабочых Масквы і Петраграда. У такіх зборах часта і я прымаў удзел.

Памятаю, аднойчы мы зайшлі да заможнага гаспадара. Пачалі з ім размову. Прыняў нас вельмі ветліва. Гаварыў мала, толькі глядзеў спадылба. Нарэшце злосна адказаў, што збожжа няма, а Маскву і Петраград няхай корміць сам Ленін. Гэта ён вінаваты, што пайшла такая суматоха ў краіне. Тады мы станоўча заявілі яму, што маем права канфіскаваць усе збожжавыя рэзервы. Вырашылі зрабіць рэвізію. Пасля доўгіх пошукаў пры дапамозе прадстаўнікоў мясцовай беднаты мы знайшлі вялікую колькасць пшаніцы і жыта, схованыя ў гумне. Калі пачалі даставаць, кулак накінуўся на нас з віламі.

Падобна было і ў іншых мясцовасцях. Часта трэба было здабываць хлеб сілай. Так сабранае збожжа вагонамі адсылалі мы для рабочых асяроддзяў Расіі, якія адчувалі голад.

Нядоўга аднак існавала савецкая ўлада. Горад занялі белыя. Пачаліся рэпрэсіі, арышты камуністаў і іх прыхільнікаў, масавыя расстрэлы. У той час я з атрадам чырвонагвардзейцаў перайшоў за Дняпро. Пры дапамозе рабочых з іншых гарадоў нашыя атрады Чырвонай Гвардыі ачысцілі раён ад белагвардзейцаў. Барацьба аднак не закончылася. Вялася жорсткая барацьба з бандамі Пятлюры, Махно, грыгор'еўцаў, гетмана Шчапацкага і нямецкімі войскамі.

Часам сітуацыя была амаль анекдатычная. На працягу аднаго дня па некалькі разоў мяняліся ўлады, або ў горадзе было па некалькі ўлад. Часта людзі не ведалі, каго слухаць і чые загады выконваць.

1918 год быў цяжкі. Немцы занялі Екацярынаслаў. Стаяла нашае прадпрыемства. Нашыя гвардзейскія атрады ператварыліся ў партызанскія і дзейнічалі рэгулярна. Мы знаходзіліся ў стэпе — стаянкі былі ў ярах і шматлікіх равах. Сюды немцы баяліся паказвацца. Будучы партызанам Бранскага партызанскага атрада, я прымаў удзел у многіх акцыях. Мы ўзрывалі таварныя вайсковыя цягнікі, масты, праследвалі варожыя атрады. Аднойчы, памятаю, як цяпер, наша разведка ранелька перад світаннем данесла, што недалёка знаходзіцца на станцыі нямецкі атрад. Мы хутка сабраліся і смелай атакай ліквідавалі яго. Здабылі мы тады значную колькасць зброі і харчоў. А з харчамі ж было цяжка. Часта даводзілася на працягу двух дзён нічога не есці. Вялікім шчасцем была здабыча нейкай клячы на мяса...

У маёй памяці застаўся таксама малюнак пераправы праз раку Самару па часовым мосце. На гэтай рацэ засталося многа нашых гвардзейцаў. Перапраўляліся мы пад моцным абстрэлам ворага. У суматосе і ціскавіцы я паваліўся і з хвіліны на хвіліну мог быць сапхнуты ў раку. Выратаваў мяне таварыш. Я падняўся і мог ісці далей.

У 1918 годзе я ўступіў у рады рэгулярнай Чырвонай Арміі Спецыяльнага кавалерыйскага палка. Камандзірам быў Бібік, камісарам быў Жданаў. Наш полк ваяваў з бандамі Грыгор'ева, а потым Дзянікіна ў Данбасе.

У арміі я прабыў да канца 1919 г. Пасля я захварэў тыфам і трапіў у шпіталь у Екацярынаслаўлі. Пасля выздараўлення ваяваў ізноў. Аднойчы я атрымаў загад даручыць важную зводку ў штаб. Застаў Варашылава і Сталіна на вакзале. Варашылаў падышоў да мяне і запытаў пра сітуацыю на нашым адрэзку фронту.

Пасля сканчэння палітычных курсаў у Харкаве я быў адкамандзіраваны ў Жытомір у 49 чыгуначны батальён. Трэба было правесці рамонт чыгункі. Я кіраваў рамонтнай брыгадай. Часта трэба было змагацца з бандамі, якія хацелі перашкодзіць у нашай працы. У Польшчу я вярнуўся ў 1920 годзе. Быў членам КПЗБ.

**К. З.**

## ВАСІЛЬ БАРТНІЧУК З МІЛЕЙЧЫЦ

Нарадзіўся я ў 1889 годзе ў вёсцы Мілейчыцы ў сям'і малазямельнага селяніна. У 1911 годзе быў прызваны ў царскую армію і накіраваны як матрос Балтыйскага ваеннага флота на бранявік «Андрей Первозванный». На гэтым бранявіку служыў да студзеня 1918 г.

У лютым 1917 года наш бранявік «Андрей Первозванный» знаходзіўся ў порце Хельсінкі ў Фінляндыі. На гэтым бранявіку было больш тысячы матросаў і афіцэраў. Калі ўспыхнула лютаўская рэвалюцыя, у нас пачалі праводзіць актыўную агітацыйную работу бальшавікі. Нягледзячы на жудасны тэрар з боку камандзірскага састава, бальшавікі агітавалі супраць цара, супраць вайны, у якую тады царская Расія ўлезла, па самыя вушы. Гэта даходзіла да свядомасці кожнага матроса. Таму кожны з нас з радасцю сустрэў вестку аб перамозе рэвалюцыі ў Піцеры.

Аднак аб перамозе лютаўскай рэвалюцыі камандаванне карабля тры дні не аб'яўляла матросам. Аб гэтых падзеях матросы даведаліся ад рэвалюцыйнага камітэта, які дзейнічаў на караблі. Мне добра запомнілася некалькі рэвалюцыйных выступленняў матросаў, калі ўжо ўсім было вядома, што царскае «правіцельства» не існуе. На наш карабель накіраваўся адмірал Небольсін у суправаджэнні царскіх афіцэраў. Калі адмірал Небольсін падышоў да борта карабля, прагучэла каманда ад прадстаўніка рэвалюцыйнага камітэта забіць царскага адмірала. З борта стрэлілі, і адмірал Небольсін, не дайшоўшы да карабля, паваліўся мёртвы. Быў забіты таксама афіцэр вахты, які стараўся падняць вахту карабля супраць паўстаўшых матросаў. Калі ён крыкнуў «вахта ў руж'ё», нехта выстраліў, і афіцэр упаў нежывы. Тады іншы афіцэр хацеў выключыць і сапсаваць электрычнасць на караблі. Ён падбег да электрычнага агрэгата, але ў той момант адзін з матросаў заўважыў гэта і застрэліў яго.

Камандзір карабля і афіцэры пазамыкаліся ў сваіх каютах. Тады рэвалюцыйны камітэт сабраў усіх матросаў на палубе і заявіў, што камандаванне караблём пераходзіць у яго рукі і што рэўком загадвае, каб ад гэтага моманту не было больш ніякіх забойстваў афіцэраў, а замкнуўшыхся ў сваёй каюце камандзіра карабля і афіцэраў выклікаць на палубу. Матросы выклікалі камандзіра і афіцэраў на борт. Спачатку камандзір і афіцэры не хацелі выйсці з кают, думаючы, што матросы іх расстраляюць, але калі пераканаліся, што камандаванне караблём перайшло ў рукі рэвалюцыйнага камітэта і што ён не мае намеру расстрэльваць іх, выйшлі. Тады камандзір карабля заявіў: «Братцы — матросы, я з вамі»! За прыкладам камандзіра карабля пайшлі ўсе афіцэры. Ад імя рэвалюцыйнага камітэта камандзір карабля і афіцэрскі састаў прынялі камандаванне караблём, які застаўся далей у порце Хельсінкі. Там мы прастаялі да 1918 года.

У дні Кастрычніцкай рэвалюцыі на нашым караблі не было ніякіх бунтаў. Усе матросы і камандаванне былі на баку рэвалюцыйнага камітэта бальшавікоў. У 1918 годзе мяне і многіх іншых матросаў рэўком накіраваў на фронт супраць белагвардзейскіх генералаў. Мне тады прыйшлося браць удзел у разгроме арміі Калчака, пасля чаго я быў дэмабілізаваны.

У 1919 годзе Брэсцкі ваенком накіраваў мяне ў якасці ваеннага камісара ў Мілейчыцы. Трэба было ўстанаўліваць уладу Саветаў. У многіх вёсках мне прыйшлося арганізаваць сходы, на якіх выбіралі дэпутатаў у сельскі савет. Аднак гэтая дзейнасць працягвалася вельмі коратка. Калі здраднік Балаховіч перайшоў да Пілсудскага, польскія легіёны занялі раён,



мяне пасадзілі ў турму ў Бельску, дзе я прасядзеў да 1921 года. Так закончыўся мой удзел у Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайне.

У гады санацыйнай улады я быў вымушаны пакінуць роднае сяло Мілейчыцы і з сям'ёй выехаў у Баравікі, дзе працаваў рабочым на чыгунцы. У той час мне прыйшлося ўдзельнічаць у падпольнай рабоце ячэек КПЗБ, аднак членам КПЗБ не быў, а толькі памагаў таварышам разносіць лістоўкі, газеты і г. д.

У час нямецкай акупацыі ізноў прыйшлося хавацца, перажываць пекла на роднай зямлі. Пасля вызвалення я працаваў рабочым у кафлярні ў Мілейчыцах. Ад 1945 года з'яўляюся членам ППР і ПАРП. Ад 1955 года атрымліваю пенсію. З'яўляюся таксама членам БГКТ, часта прыходжу ў наш Аддзел, пачытаць газету, кніжку і паглядзець цікавыя праграмы тэлебачання.

Запісаў **С. Крэйза**

## ЯНКА БАРШЧЭЎСКІ З РЫБАКОЎ

Нарадзіўся я ў 1902 годзе ў Рыбаках (цяпер Беластоцкі павет).

У Расію мы паехалі ў 1915 годзе. Жылі недалёка ад раз'езду Кузаватава (былы Сінгелейскі ўезд Сімбірскай губерні). Там і засталі мяне рэвалюцыйныя падзеі.

Памятаю, часта выступалі ў нас людзі, якія агітавалі за пралетарскую рэвалюцыю. Калі праходзіла Чырвоная Армія праз нашу мясцовасць, пайшоў і я дабраахвотнікам. Разам са мной уступілі ў Чырвоную Армію дваюрадныя браты Восіп і Кастусь Лаўрэшукі таксама з Рыбакоў, толькі ім лепш спадабаўся I Віцебскі полк, а я ўступіў у I Сызранскі рэвалюцыйны стралковы полк.

З гэтага часу пачаліся пераможныя баі з Калчаком. Калчак адступаў на Сызрань, за Волгу. Памятаю, Віцебскі полк захапіў мост, але чэхі паспелі ўзарваць 3 стаўбы. Я стаяў у палявым карауле перад Сызранню. Ранкам мы занялі Сызрань і дайшлі да пасёлка Батракі.

З Батракоў нас пераправілі на правы бераг Волгі, ішлі мы правым флангам аж да Самары. Разам з намі ваявалі петраградскія палкі і фінскі атрад. З Самары накіравалі нас у Багуруслан, дзе рабілі агульны агляд, на якім прысутнічаў Фрунзе.

Паслалі нас на Бузулук, потым на станцыю Сарадзір. З Сарадзіра кінулі ў тыл праціўніка на 100 кіламетраў. Занялі мы тры вёскі, назваў якіх не памятаю. Там разабралі чыгуначны

мост. Ваявалі ў тых месцах доўгі час і ішлі з баямі на горад Белябей. Гэты горад некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. Да Уфы мы не паспелі дайсці. Здалася яна чырвоным раней і нас перакінулі супроць Дзянікіна на Самару, Сызрань, Кузнецк, Пензу, станцыю Гразі. Са станцыі Гразі мы былі перакінуты ў Данскую вобласць.

Пасля прыезду на месца занялі фронт і з баямі ішлі на станцыі: Усць — Белакаліцвенская, Луганская, Ігуменская, Лукаўская, Бальшая і Малая Вяргунка. Ваяваў я пад Харкавам, Белгарадам, Луганскам. З Луганска ішлі з боем на Навачаркаск, адкуль зноў вярнуліся на Луганск, дзе белыя сабралі вялікія сілы.

Луганск пераходзіў 4 разы з рук у рукі. Ад Луганска прыйшлося адступаць на Варонеж. Белыя сціснулі флангі, а мы прабіваліся ў тылах. З боем адступалі 4 сутак.

На Доне Мамантаў сканцэнтраваў кавалерыю і кінуўся ў атаку. Атаку мы адбілі. Здабылі мост і затрымалі лінію фронта. Аднак праз 2—3 дні ён падцягнуў сілы і зноў ударыў. Рушыла кавалерыя.

У рукапашным баі я быў тады моцна паранены, атрымаў 9 ран. З фронта забралі мяне без памяці. Дзе ляжаў 3 сутак, не памятаю. Восенню 1920 г. быў звольнены з Чырвонай Арміі як інвалід.

Адно, што мяне задавальняе — гэта тое, што я як добраахвотнік ваяваў у радах Чырвонай Арміі і што мы ўсё ж заваявалі свабоду для народа.

Запісаў **М. Л.**

## ЯЗЭП КАСІКОЎСКІ З БЕЛАСТОКА

У першыню з рэвалюцыйнай дзейнасцю сустрэўся я ў вучнёўскіх гуртках у 1905 г. Распаўсюджвалі мы брашуры і лістоўкі. У Расію выехаў у першыя дні вайны. Затрымаўся ў Бранску, дзе працаваў рабочым.

Там перажыў памятныя дні Кастрычніцкай рэвалюцыі. Не паспела дайсці вестка аб рэвалюцыі да насельніцтва горада, як ужо рабочая міліцыя заняла пошту і мясцовы пастарунак жандармерыі. Гэта былі першыя дні.

Па загаду партыі я быў назначаны начальнікам бранскай губеранскай міліцыі. Цяжкая гэта была праца. У горадзе ворагі савецкай улады праводзілі сабатаж, развівалася спекуляцыя і хуліганства. Ворагі імкнуліся стварыць атмасферу няпэўнасці, распаўсюджвалі фальшывыя весткі. Міліцыя і чырвонаармейцы самаадданa змагаліся з ворагам. Асабліва цяжкія баі вялі мы з контррэвалюцыйнымі бандамі, якія доўгі час трымаліся ў бранска-карачэўскіх лясах. Грамадныя цяжкасці былі з забеспячэннем харчамі войска і 5 тысяч рабочых прадпрыемства. Даводзілася ездзіць па вёсках і выясняць сялянам, што савецкай уладзе патрэбны хлеб.

Бедната і частка серадняко вітала нас шчыра. Кулакі часта хавалі збожжа. Нягледзячы на цяжкасці, мы змаглі забяспечыць хлебам рабочых і войска.

Пастановай пленума Бранскага губеранскага камітэта РКП(б) з дня 25 лістапада 1920 г. я быў назначаны ваенным камісарам 52 батальёна. 52 батальён, у якім былі рускія, латышы, яўрэі, быў перакінуты ў аколіцы гарадоў: Арол, Курск, Кл нец, — супроць белагвардзейцаў. Пасля ліквідацыі белагвардзейскіх банд я вярнуўся ў Бранск і прыняў абавязкі палітычнага камісара Бранскай губеранскай міліцыі. Нашым заданнем было ўмацоўваць уладу Саветаў. Праз нейкі час я быў высланы на трохмесячныя палітычныя курсы ў Маскву.

Там сустрэўся з Феліксам Дзяржынскім, Феліксам Конам і Юльянам Мархлеўскім.

Вялікае ўражанне зрабіла на мяне прамова Фелікса Дзяржынскага для курсантаў. Трэба адзначыць, што Дзяржынскі ўмеў пераконваць. Яго яснае, поўнае рэвалюцыйнага аптымізму выступленне, заключала ў сабе шэраг парад і ўказанняў, як змагацца за перамогу рэвалюцыі. Яшчэ да сёння памятаю словы: «Мы — салдаты на пасту. Знаходзімся ў танцы жыцця і смерці. Гэта сапраўдная хвіліна крывавай барацьбы, тытанічных намаганняў». Памятаю таксама, як аднойчы на перапынку я стаяў у калідоры, калі падышоў Фелікс Дзяржынскі, прывітаўся і запытаў: «Ну, Касікоўскі, арол рэвалюцыі, што чуваць?..»

У 1922 г. я вярнуўся ў Польшчу. Адразу быў арыштаваны і пасаджаны ў Баранавіцкую турму. Пасля звальнення быў пад надзорам паліцыі. Гэта аднак мяне не заламала і я падтрымліваў кантакт з КПП. Зараз знаходжуся на пенсіі. Грамадска працую ў Ваяводскім судзе.

**Запісаў М. Л.**

## ПЕРШЫЯ ВОДГУКІ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Падзеі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі дасягнулі да паўднёва-ўсходняй часткі сучаснага Беластоцкага ваяводства, як мяркуюць, толькі ў пачатку 1918 года. Дагэтуль у нас яшчэ не праведзены доследы па гэтаму пытанню, а невялікая літаратура міжваеннага дваццацігоддзя

тэндэнцыйна блытае факты, прыпісваючы «Саветам» усё найгоршае, што магло толькі адбывацца ў тыя гады.

Вядома, напрыклад, што ў 1916 годзе немцы пабудавалі ў Белавежскай пушчы пяць лесапільных заводаў. На работу на гэтых заводах, ды і ў лесе прывезлі 700 ваеннапалонных розных нацыянальнасцей — рускіх, французаў, а таксама сагналі з навакольных вёсак мясцовых сялян і яўрэяў. Менавіта сярод гэтых рабочых і былі заснаваны першыя рады рабочых і салдат. Нямецкія ўлады, члены мясцовай аховы, не змаглі ўжо гэтаму супрацьстаяць, таму што і сярод іх пачаліся рэвалюцыйныя хваляванні. М. Арловіч у «Пшэводніку по воевудстве бялостоцкім», выданым у 1937 годзе, на стар. 424 успамінае, што: «Усялякага роду «Саветы», якія ў зімовых месяцах (1918—1919) узніклі ў самой Белавежы і ва ўсіх суседніх з пушчай вёсках, падтрымліваліся марадзёрамі з нямецкай арміі і рэшткамі ваеннапалонных. За сваё асноўнае заданне яны лічылі арганізаванне масавых паляванняў у пушчы. Страляніна была чуваць днём і ноччу, а яе прычынай быў частковы голад, які панаваў у пушчанскіх вёсках». Зразумела, што асноўным заданнем успамянутых М. Арловічам «Саветаў» не былі паляванні, але палітычная дзейнасць, захапленне ўлады і грамадскае вызваленне.

Вельмі блытана характарызуецца ў кніжцы Г. Масціцкага, выданай у 1933 г., пачатак Вялікага Кастрычніка ў другім цэнтры рэвалюцыі нашага ваяводства — Беластоку.

Тым больш каштоўнымі для даследчыкаў будуць успаміны аднаго з першых мясцовых удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, жыхара Нарвы, Гайнаўскага павета, Кастуся Смактуновіча:

«Нарадзіўся я ў 1900 годзе ў Нарве ў сялянскай сям'і. Я быў наймалодшым дзіцём, але ў 1909 годзе за адзін тыдзень ад дыфтэрыту памерла пяцёра маіх сясцёр і братоў, а я нават не захварэў. Бацьку ў 1914 годзе мабілізавалі ў армію, а сям'я пакуль сабралася ў бежанства, то немцы нас і перахапілі. Ва ўсёй аколіцы людзей было мала — усе паўцякалі ў бежанства. На месцы засталіся старыя, хворыя або заможныя сяляне, якім цяжка было пакінуць гаспадарку. Многія з іх усе гады І-ай сусветнай вайны былі захоплены выкарыстаннем пакінутага іншымі сялянамі багацця і мала цікавіліся сусветнымі падзеямі. Мяне немцы прымусілі працаваць у лесе, пасля пры сплаве лесу па рацэ Нарве. Менавіта тут я ўпершыню пачуў сярод лясных рабочых словы «свабода», «Саветы», «рэвалюцыя», хоць часта не разумеў іх сэнсу. Гэтыя рабочыя пасля працы збіраліся на сходы, гаварылі, што неабходна здабыць зброю. Паколькі я знаў мясцовых сялян і любіў збіраць ваенныя трафеі, рабочыя пачалі запрашаць мяне на гэтыя сходы і прасіць дапамагчы. Нешта са зброі я ім перадаў. Але недзе ўлетку пачалі гаварыць, што немцы ўжо хутка ўцякуць. Мы перасталі хадзіць на работу ў лесе.

У гэтым часе да мяне прыйшоў Внушынскі Міцька з Трасцянкі, хлапец год 25, які служыў у царскай арміі памочнікам ветэрынара і летам 1918 года як малады камуніст быў накіраваны ў тыл ворага (у родныя мясціны) для рэвалюцыйнай дзейнасці. Зразумела, што астаўшаяся ў вёсках група сялян сустрэла яго даволі варожа. Мабыць, сваёй неразважнасцю ён выклікаў у сваёй вёсцы перастрэлку, у выніку чаго быў моцна паранены і толькі дзякуючы маёй дапамозе застаўся жывы. Але ўдалося яму ўсё ж стварыць невялікую зборную ячэйку з моладзі Нарвы, Трасцянкі і Васькоў. Немагчыма ў той час было праводзіць нейкія мітынгі — не было людзей. Таму мы самі збіраліся, спявалі савецкія рэвалюцыйныя песні, рыхтаваліся дапамагчы наступаючай Чырвонай Арміі.

Восенню 1918 года немцы пакінулі пушчу, а зімою паявіліся ўланы польскага войска, якіх мы называлі галерчыкамі. Яны даведаліся аб існаванні маладзёжнай ячэйкі, хацелі схапіць Внушынскага, але той уцёк у Расію. Тады прыехалі ў Трасцянку і моцна катавалі некалькіх прыхільнікаў рэвалюцыі, у тым ліку нават мясцовага музыканта Плашкевіча Адама.

Я аднак быў мабілізаваны ў польскае войска. З мясцовых сялян ніхто ваяваць супраць Саветаў не хацеў. Адны ўцякалі дадому, іншыя — у Расію. Аднойчы нас выслалі ў разведку і мы ўсёй групай некалькі дзён ішлі на ўсход. Некаторыя пасля вярнуліся, а я з таварышам трапілі ў рэўком Заходняга фронта, дзе засталіся як дабраахвотнікі.

Шмат яшчэ прайшоў я дарог. Служыў у Часовым польскім урадзе ў Мархлеўскага ў Беластоку, быў пастаўшчыкам хлеба, ваяваў у II-ую сусветную вайну супроць гітлераўцаў. Але неяк найцікавей успамінаецца самы пачатак рэвалюцыі».

Несумненна, нам яшчэ прыдзецца вярнуцца да постаці Кастуся Смактуновіча ў календары на 1970 год.

**У. Ю.**

## Я АХОЎВАЎ ДЗЯРЖЫНСКАГА

«— Быў 1919 год, — пачаў свой расказ Кастусь Смактуновіч. Урад буржуазнай Польшчы абвяшчае мабілізацыю ў армію. Мяне таксама мабілізавалі ў армію Пілсудскага, назначаючы ў 42-гі полк пяхоты. Неўзабаве пасылаюць нас на ўсходні фронт для барацьбы з рускімі рабочымі і сялянамі. Я разумеў, што вайна мае агрэсіўны і несправядлівы характар. Супраць каго выступаць? Супраць свайго брата — рускага рабочага?

Аднойчы ноччу я і 5 маіх таварышаў уцяклі да чырвонаармейцаў. Прынялі нас вельмі сардэчна. Назначылі мяне ў ахову штаба арміі заходняга фронта, дзе знаходзіліся Фелікс Дзяржынскі, Юліян Мархлеўскі і Кон.

Быў ліпень. Затрымаліся мы ў палацы графа Браніцкага ў Беластоку.

Аднойчы я меў магчымасць пабываць на сходзе на адной з тэкстыльных фабрык. На сход прыбыў Дзяржынскі. Рабочыя сур'ёзна і ўважліва слухалі яго выступленне. Дзяржынскі гаварыў аб новай рабоча-сялянскай Польшчы. Усе аднадушна падтрымалі рэвалюцыйны камітэт і яго праграму. Здаецца, бачу і чую, як сёння, размову рабочага з Дзяржынскім.

— Хто будзе валодаць фабрыкамі? — пытае рабочы.

— Вы, рабочыя.

— Мы згодны з гэтым, сэрцам і душою падтрымліваем тое, аб чым вы гаварылі, тав. Дзяржынскі, — падхапіў другі рабочы, — але скажыце, ці зможам мы абараніцца перад ворагамі?

Хвіліну было ціха.

— Калі рабочыя Польшчы з'яднаюцца, тады нашу справу абаронім, — сказаў цвёрда Дзяржынскі.

На заканчэнне спаткання з тав. Дзяржынскім рабочыя задэкларавалі рэвалюцыйнаму камітэту сотні метраў матэрыялу на мундзіры для салдат.

У палацы Браніцкага амаль штодзённа сустракаўся я з Дзяржынскім. Дзяржынскі працаваў звыш чалавечых магчымасцей. Цэлымі днямі прабываў на нарадах, пасяджэннях, сходах і размовах.

Прыходзіла да яго вельмі многа людзей. Рабочыя і сяляне, выходзячы ад Дзяржынскага, гаварылі: «Душа — не чалавек, паслухае, параіць, растлумачыць. Іменна такі правадыр нам патрэбны».

Аднойчы таварышы мае сядзелі ў пакоі, я збіраўся ўжо адпачываць, раптам адчыніліся дзверы, і ўвайшоў таварыш Дзяржынскі.

— Добры вечар, — сказаў ён.

— Добры вечар, — адказалі мы ўсе хорам.

— Як вам жывецца, таварышы?

— Так сабе, — адказалі мы.

— А становішча ў нас усё яшчэ нялёгкае, нялёгка здабыць уладу, — сказаў Дзяржынскі, падыходзячы да салдата.

Размаўлялі мы з ім, як з самым блізкім сябрам. Яго словы былі простыя і змястоўныя. Потым ён устаў з крэсла, падышоў да акна і загледзеўся ў бясконцую цемру.

— Так, Беласток, — вымавіў ціха, але раптам адвярнуўся і сказаў: — Люблю гэты горад, яго скромныя простыя вулічкі, яго геройскіх і працавітых людзей.

— А вы адкуль самі? — звярнуўся да мяне.

— З Нарвы, Бельскага павета.

— Зямляк?

— Зямляк, таварыш Дзяржынскі.

— Беларус? — пытаў далей Дзяржынскі.

— Беларус, — ізноў адказаў я.

— Знаю нашых паноў, — гаварыў Фелікс, — гордыя і злыя гэта людзі. Ніхто так не біў і не мучыў беларусаў, як яны.

Аднойчы мне паведамілі, што трэба прыбыць у штаб. Згодна з паведамленнем я неадкладна з'явіўся там.

За сталом сядзеў Мархлеўскі і нешта пісаў. Відаць было, што ўвесь аддаваўся рабоце. Хвіліну так прастаяў я насупраць яго.

— Выбачайце, хацеў дакончыць работу, — перарваў цішыню Мархлеўскі, устаў з крэсла, падышоў, паціснуў мне руку і запрасіў сесці побач сябе.

— Таварыш Смактуновіч, — звярнуўся да мяне, — мы лічым, што вы павінны паехаць у сваю мясцовасць і арганізаваць міліцыю. Людзі вам знаёмыя, думаем, што справа пойдзе даволі добра.

Доўга яшчэ навучаў мяне, што трэба рабіць і ад чаго пачынаць.

На развітанне пажадаў мне самых лепшых поспехаў.

А праз некалькі дзён у Нарве ўжо дзейнічала дабраахвотная народная міліцыя. Пастарунак яе змяшчаўся ў тым самым будынку, дзе змяшчаецца пастарунак сённяшняй міліцыі.

Першымі ўступілі ў рады міліцыі: Шымко, Кур'яновіч, Антон Плясковіч, Якуб Смактуновіч, Пятро Смактуновіч, Аляксандр Смактуновіч і іншыя. Сабралося нас больш 15-ці чалавек.

Мы збіралі зброю, утрымлівалі лад і парадак, арганізоўвалі дапамогу чырвонаармейцам. Мясцовае насельніцтва да нас вельмі прыхільна адносілася і аказвала нам падтрымку на кожным кроку. Але нечакана прыйшоў дзень, калі трэба было адступаць. Разам з Чырвонай Арміяй адступіў і я.

25 гадоў служыў я ў радах Чырвонай Арміі. Прымаў удзел у змаганні з белагвардзейскімі і японскімі бандамі, потым працаваў афіцэрам — пагранічнікам. У час другой сусветнай вайны дайшоў я ў радах Савецкай Арміі аж да Берліна».

Гутарку правёў **Б. Нікіцюк**

## ДЭЛЕГАТАМ V З'ЕЗДУ БГКТ

Мы не раслі ў раскошах у палацах,
Аркестры не ігралі нам мелодый.
Мы не жылі з чужой, нявольнай працы,
Нікому не стапталі мы свабоды.

Таму ў нас чыстыя, як сонца, рукі,
Таму сумленне наша без дакору.
Няма на ім слядоў чыёйсці мукі,
Няма на ім пятна чужога гора.

Мы праз стагоддзі адкрывалі грудзі
І клікалі усіх, усіх у госці;
І розныя прыходзілі к нам людзі,
З дабром прыходзілі і з злосцю.

І чуліся панамі ў нашай хаце.
Мячом і крыжам з года ў год вучылі,
Як узвясці айчыну на распяцце
І як абрэзаць роднай песні крылы.

І многа хто на век зрачыся мусіў
Сваёй зямлі і гукаў свайго слова
Адрокся ад айчыны — Беларусі —
І выкінуў у сметнік маці мову.

І ў гэтым ёсць няшчасце наша, гора,
Таму нам трэба раскапаць сталецці,
І словы з попелу выгортваць, як зоры,
І падаваць іх з хлебам родным дзецям.

І навучыць пашаны да народаў,
Да тых усіх, хто нас шануе сёння,
Да тых усіх, хто словы аб свабодзе
Прыносіць разам з сэрцам на далоні.

**Алесь Барскі**



# V З'езд БГКТ

26 лютага 1966 года споўнілася 10 год з дня заснавання Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У гэты дзень пачаў сваю працу V юбілейны з'езд БГКТ, які падсумаваў




дасягненні ў працы за 10 год і ўказаў напрамкі дзейнасці нашай арганізацыі.

У гэтым 2-дзённым з'ездзе прымала ўдзел 145 дэлегатаў, а таксама запрошаныя госці — прадстаўнікі цэнтральных

і ваяводскіх улад і братніх таварыстваў, якія прадстаўлялі м. інш. Уладзіслаў Скшыпчак — інспектар ЦК ПАРП і сакратар Нацыянальнай Камісіі пры ЦК ПАРП, Зыгмунт Арлоўскі — дырэктар грамадска-адміністрацыйнага дэпартаменту



*Момант уручэння кветак Прэзідыуму V З'езду БГКТ прэз вучняў Ліцэя з бел. мовай навуч. у Бельску.*

Міністэрства ўнутраных спраў, Станіслаў Шумоўскі — кіраўнік грамадска-адміністрацыйнага аддзела МУС, Валянцін Авер — кіраўнік аддзела прапаганды ВК ПАРП, Ян Рызнар — пасол у Сейм, сакратар ВК ЗСЛ, Антоні Рошка — кіраўнік Аддзела ўнутраных спраў ВРН, Кастусь Лашчук — старшыня ГП УТСК, Яўген Петрашкевіч — сакратар ГП ЛТСК, Станіслаў Роман — намеснік куратара БША, Васіль Федэнчук — намеснік кіраўніка адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП і іншыя.



З прычыны дзесяцігоддзя і V з'езду на адрас ГП БГКТ прыйшло шэраг тэлеграм і лістаў з віншаваннямі і пажаданнямі плённай працы ад арганізацый і ўстаноў у краіне і за граніцай, якія з намі супрацоўнічаюць, а таксама ад вучоных і пісьменнікаў з БССР. У дакладзе, які прачытаў старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі, былі шырока прадстаўлены дасягненні таварыства на працягу 10 год і закрануты важныя праблемы, якія хвалююць беларускае асяроддзе.

Выступаючыя ў дыскусіі многа ўвагі прысвяцілі далейшаму развіццю асветы, стварэнню лепшых умоў для навучання, справам падручнікаў на роднай мове, справе пабудовы ліцэя ў Гайнаўцы і інтэрнатаў у Бельску і Гайнаўцы.

Сярод спраў культурных асаблівая ўвага звярталася на развіццё самадзейнага руху, на працу гурткоў БГКТ і супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. Звярталася ўвага на недахоп кваліфікаваных кадраў у галіне культуры.

Многа ўвагі прысвячалася працы і далейшаму развіццю творчых аб'яднанняў: літаратурна — мастацкага аб'яднання «Белавежа» і навуковага гуртка БГКТ.

На з'ездзе быў зацверджаны новы статут, выбраны ўлады таварыства і прынята пастановы.

Пасля заканчэння першага дня працы з'езду вечарам дэлегатаў чакаў прыемны адпачынак на ўрачыстым канцэрце, прысвечаным дзесяцігоддзю БГКТ.

Выступалі самадзейныя калектывы БГКТ: хор Бельскага аддзела, драматычны гуртак Мілейчыцкага аддзела, акардэаністы і балетная група Беластоцкага аддзела, эстрадная група «Лявоніха», а таксама артысты ліцэяў з беларускай мовай навучання: духавы аркестр з Бельска і эстрадная група з Гайнаўкі.

Праграму вёў былы кіраўнік эстрады Васіль Кардзюкевіч.

Выступленне кожнага з калектываў суправаджалі працяглыя апладысменты.

Добра былі ўспрыняты гледачамі дасціпныя сатырычныя нумары, апрацаваныя членамі літаб'яднання. Паэты А. Барскі і В. Швед выступалі са сваімі вершамі, прысвечанымі дзесяцігоддзю і з'езду.

## ДАКЛАД НА V З'ЕЗДЗЕ БГКТ

(скарочаны)

Паважаныя дэлегаты, дарагія сябры!

Сённяшні з'езд — не звычайная арганізацыйная ўрачыстасць. Сабраліся мы роўна ў X гадавіну з таго радаснага для ўсіх беларусаў у Польшчы дня, калі тут, у Беластоку, на па-

добным да сённяшняга з'ездзе заснавана была наша нацыянальная арганізацыя — Беларускае грамадска-культурнае таварыства.

Дзесяцігадовая гісторыя нашай арганізацыі з'яўляецца для нас вельмі каштоўнай перш за ўсё таму, што мы самі яе стварылі, што многія з нас прысвяцілі ёй дзесяць год свайго жыцця і што не быў гэта марна страчаны час. Падсумоўваючы дасягненні таварыства на пройдзеным шляху, мы можам смела і з гонарам сказаць, што ў гэтых дасягненнях ёсць цаглінка многіх і многіх з нас, паколькі велізарная частка працы была выканана грамадскімі дзеячамі таварыства.

Мы жывём і працуем у той шчаслівы час, калі ўпершыню ў гісторыі інтарэсы дзяржавы не толькі не стаяць уразрэз з інтарэсамі нацыянальных меншасцей, а наадварот, калі ў інтарэсе самой дзяржавы з'яўляецца поўнае развіццё гэтых меншасцей.

Беларусы, актыў Беларускага таварыства супольна з польскім народам грамадскім чынам будуюць дарогі, школы, вясковыя крамы, меліяруюць сенажаці, а гэтым самым спрыяюць росквіту нашай краіны, значэнне якой з кожным годам узрастае на міжнароднай арэне.

Сабраліся мы сёння ў асаблівы час. Уся наша краіна святкуе тысячагоддзе Польскай дзяржавы. І мы, беларусы, грамадзяне Польскай Народнай Рэспублікі, разам з усімі грамадзянамі нашай дзяржавы ўрачыста адзначаем гэтую дату. У тысячагадовай гісторыі Польскай дзяржавы розныя былі адносіны яе да беларусаў.

Рознымі былі таксама і адносіны беларусаў да Польшчы. Але на працягу ўсёй гэтай гісторыі як у адной, так і другой нацыі заўсёды былі сілы, якія імкнуліся да дружбы і братэрства. Асабліва яскрава гэта відаць ад моманту з'яўлення на арэне рабочага руху. З рэвалюцыйнай барацьбой польскіх і беларускіх працоўных мас звязаны найпрыгажэйшыя старонкі польска-беларускіх узаемасувязей. Найбольш высокай стадыяй інтэрнацыянальнай дружбы польскіх і беларускіх працоўных мас была слаўная дзейнасць Камуністычнай партыі Польшчы, якая неразрыўна звязвала вызваленне польскіх працоўных з вызваленнем нацыянальных меншасцей, і гераічнае змаганне КПЗБ, якая неразрыўна звязвала вызваленне беларусаў з вызваленнем польскіх працоўных мас. Аб гэтай жа дружбе і аб гэтым жа братэрстве расказвае нам і гісторыя найбольш масавай беларускай арганізацыі ў міжваенных гадах — Беларускай сялянска-работніцкай грамады, 40-вую гадавіну якой мы ўрачыста адзначылі ў мінулым годзе супольна з польскім грамадствам.



А колькі яркіх прыкладаў польска-беларускага братэрства мы можам знайсці ў супольным змаганні з гітлераўскай навалай, а пазней у пасляваенныя гады, — у супольнай барацьбе за народную ўладу! Гэтыя менавіта традыцыі, традыцыі найлепшыя, ляжаць найбліжэй нашага сэрца і святкаванні 1000-годдзя займаюць у нас асаблівае месца. І ўрэшце самым дарагім і непаўторным перыядам у гісторыі польскай дзяржаўнасці з'яўляюцца для нас сучасныя гады — гады народнай улады. На працягу ўсёй гісторыі беларусы Беласточчыны яшчэ ніколі не мелі такіх вялікіх магчымасцей развіцця і не мелі такіх праў, як у гэты кароткі гістарычны перыяд. Можам ад шчырага сэрца падзякаваць нашай партыі і ўраду за спрыяльныя ўмовы, створаныя для нашай дзейнасці, за клопаты, якія мы адчуваем у штодзённай працы і жыцці.

Сённяшні з'езд завяршае 10-гадовы перыяд дзейнасці Бе-



*Дэлегаты V З'езду БГКТ у зале.*

ларускага грамадска-культурнага таварыства. Усе гады дзейнасці знамянаваліся пошукамі найбольш эфектыўных форм працы, імкненнем стварыць матэрыяльную базу, гуртаваннем актыву вакол рэалізацыі пастаўленых перад БГКТ заданняў. У кожнай галіне яго працы ў паасобныя гады былі свае дасягненні і былі недахопы. Пэўным ёсць аднак факт вялікага, сталага ўздзеяння таварыства на грамадска-культурнае жыццё беларускай нацыянальнай меншасці ў Польскай Народнай Рэспубліцы. Гэты ўплыў нам трэба пашыраць. Трэба ўдасканальваць формы нашай дзейнасці, імкнуцца мабілізаваць насельніцтва да павышэння культуры ў штодзённым жыцці, да павышэння зацікаўленасці дзейнасцю нашай арганізацыі. Як палепшыць, як удасканаліць працу БГКТ, многа гаварылася ў перадз'ездаўскай дыскусіі на старонках «Нівы». Дыскусія гэта была вельмі плённая — многа праблем закранула яна, было ўнесена шмат канкрэтных прапаноў.

У сучасны момант, Беларускае грамадска-культурнае таварыства налічвае 5 550 членаў, аб'яднаных у 154 гуртках, якія падпарадкаваны 8 праўленням аддзелаў БГКТ. Колькасць гэта даволі вялікая, аднак недастатковая, калі ўзяць пад ўвагу колькасць беларускага насельніцтва ў Польшчы.

Найбольшымі аддзеламі, налічваючымі па 1500 членаў, з'яўляюцца аддзелы ў Гайнаўцы і Бельску, 1000 членаў налічвае арганізацыя ў горадзе Беластоку, іншыя аддзелы меншыя, але таксама маюць перспектывы развіцця. І хоць усюды ўлады прыхільна адносяцца да нашай арганізацыі, праца ў іх на працягу 10 год вялася па-рознаму і прыносіла розныя вынікі.

Адзін з найбольшых аддзелаў БГКТ — аддзел у Гайнаўцы, які працуе ў выключна спрыяльных умовах, развівае сваю дзейнасць раўнамерна, без больших узлётаў і ўпадкаў. Бельскі аддзел першыя гады працаваў даволі энергічна, пасля аднак наступіў заняпад і толькі ў апошні год там пачалі працаваць лепш. Гарадскія аддзелы ў Беластоку і Варшаве працуюць са зменным шчасцем, адзін год лепш, другі горш. Сакольскі, Дуброўскі і перанесены з Гарадка Міхалоўскі аддзелы выказваюць даволі павольны ўзрост, а Мілейчыцкі залічваецца да найбольш дынамічных і проста хочацца ставіць яго за прыклад іншым аддзелам.

У чым жа ляжаць прычыны поспеху або няўдач у працы? Адказ просты — у працы актыву, у сувязі з іншымі арганізацыямі, у ступені рэалізацыі прынятых пастаноў.

Беларускае таварыства мае добры актыў як у аддзелах, так і пры Галоўным праўленні. Многія з гэтых людзей выконваюць абавязкі з вялікай ахвярнасцю і добрасумленна. Прыкладам могуць служыць у гэтым выпадку: член Галоўнага праўлення, старшыня аддзела ў Мілейчыцах тав. Сяргей Крэйза, Вінцук Склубоўскі, які грамадскім чынам вядзе юрыдычны пункт пры рэдакцыі «Нівы», член ГП Аляксандр Барышчэўскі, які грамадскім чынам кіруе працай літаратурнага аб'яднання «Белавежа», робіць у год дзесяткі аўтарскіх сустрэч у вёсках і гарадах Беласточчыны, член ГП і праўлення аддзела ў Гайнаўцы Васіль Дзун, які з'ўляецца заснавальнікам многіх гурткоў на Гайнаўшчыне.

Вялікія заслугі ў развіцці нашай арганізацыі маюць такія людзі, як Яраслаў Кастыцэвіч, Рыгор Семянюк, Язэп Альшэўскі, Аляксандр Харкевіч, Янка Вішанка, Анатоль Мартыновіч, Янка Азябла, Янка Палоцкі, Янка Кіндзюк, Уладзімір Навіцкі, Язэп Маркоўскі, Лявон Другавец, Рыгор Скарынкевіч, Уладзімір Куршаль, Кастусь Масальскі, Юрый Туронак, Хведар Галёнка, Піліп Кізевіч і іншыя. Ад імя Прэзідыума Галоўнага праўлення гэтым і ўсім іншым дзеячам таварыства складаю шчырую падзяку.

Нашае Галоўнае праўленне асабліва ў першыя гады сваёй дзейнасці шмат увагі прысвяціла стварэнню базы для дзейнасці арганізацыі, якая не мела спачатку, уласна кажучы нічога. Зараз мы маем уласнае памяшканне, прыстасаванае да патрэб культурнай працы таварыства, поўнае абсталяванне ГП і ўсіх аддзелаў БГКТ, у тым ліку сучаснае клубнае абсталяванне ў Беластоку, Варшаве, Гайнаўцы; маем аўтамашыны, кінаапаратуру, тэлевізары, дзесяткі каштоўных музычных інструментаў і сотні народных убораў. Усё гэта дазваляе нам пашырыць і актывізаваць працу.

Найбольшае ўздзеянне на насельніцтва аказвае прэсавы орган ГП — штотыднёвік «Ніва», які рэгулярна выходзіць ужо 10 год. Рэдакцыя «Нівы» добра выконвае свае асноўныя заданні — мабілізуе беларускае насельніцтва да актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным пераўтварэнні краіны, ва ўмацаванні братэрскіх адносін паміж беларусамі і палякамі, папулярызуе прагрэсіўныя традыцыі беларускага народа і яго культуры. Уважліва сочыць яна за агульна-дзяржаўнымі мерапрыемствамі, такімі, як, напрыклад, выбары ў Сейм і рады нарадовыя, XX-цігоддзе Народнай Польшчы, З'езды ПАРП, гадавіны БГКТ і г. д., і адводзіць ім належнае месца ў публікацыях. «Ніва» выпрацавала свой профіль, дзякуючы чаму чытач лягчэй знаходзіць цікавячы яго матэрыял. Бясплатны дадатак «Зорка» мае велізарны ўплыў у навучанні і выхаванні дзяцей беларускай нацыянальнай меншасці.

Базай распаўсюджвання «Нівы» з'яўляецца ў асноўным паўднёва-ўсходняя частка Беласточчыны. Газета гэта мае

таксама сваіх падпісчыкаў ва ўсіх ваяводствах Польшчы і ў 13-ці замежных краінах. Характэрна, што на працягу 10-ці год падпіска на газету «Ніва» амаль падвоілася. Тыраж яе зараз набліжаецца да 6-ці тысяч. Ёсць яшчэ аднак неабмежаваныя магчымасці ў пашырэнні падпіскі. Трэба толькі, каб увесь актыў БГКТ, штатныя работнікі рэдакцыі і таварыства прыклалі максімум намаганняў, каб адзіны ў Польшчы часопіс на беларускай мове трапіў у кожную сялянскую хату і каб свайго часопіса не цуралася наша інтэлігенцыя ў гарадах.

Другой галіной дзейнасці БГКТ, якая за гэтае 10-цігоддзе аказала на беларускае насельніцтва вялікае ўздзеянне, прынесла арганізацыі папулярнасць і аўтарытэт, была выдавецкая дзейнасць. За гэты час было выдадзена 18 кніжак, а менавіта 10 календароў, 2 навуковыя зборнікі і 6 зборнікаў паэзіі і прозы мясцовых аўтараў: «Рунь», «Дзядзька Лявон», «Белавежскія матывы», «Мой родны кут», «Прамень думкі» і «Літаратурны альманах «Белавежа» № 1. Агульны тыраж усіх выданняў склаў 74 600 экземпляраў.

На выданнях ГП БГКТ насельніцтва вучылася чытаць па-беларуску, а таксама адчула патрэбу карыстання бібліятэчнымі кніжкамі. Выданні гэтыя маюць трывалы выхаваўчы ўплыў на насельніцтва. Выдавецтва нашае з кожным годам пашырае свае магчымасці, становіцца ўсё больш рознакірунковым. Трэба заўважыць, што запатрабаванні на нашыя выданні павялічваюцца з кожным годам. Вакол выдавецтва групуецца літаратурна - мастацкае аб'яднанне «Белавежа» і навуковы гурток.

Сярод шматкірунковай дзейнасці БГКТ ад пачатку стварэння арганізацыі выдзяляецца прапагандова - лектарская праца: гутаркі, даклады, радыёгутаркі. Кароткія гутаркі праводзяцца найчасцей на актуальныя тэмы перад кінасеансамі, выступленнямі эстрады «Лявоніха», аматарскіх калектываў і г. д. За 10 год былі праведзены 1564 гутаркі.

Даклады праводзяцца найчасцей членамі лектарскай групы, якая існуе пры ГП і налічвае каля 15 чалавек. На працягу 10 год існавання таварыства праведзена каля 440 дакладаў на розныя тэмы, між іншым, аб міжнародным становішчы, аб дасягненнях ПНР у паасобных галінах яе жыцця, аб польска-беларускіх культурных сувязях, гісторыі БССР, аб працы БГКТ, на сельскагаспадарчыя тэмы і іншыя. Лік дакладаў павялічваўся ў сувязі з рознымі гадавінамі і агульнадзяржаўнымі мерапрыемствамі. Карысная гэта праца. Нашыя лектары праводзілі даклады нават у найбольш далёкіх і глухіх вёсках, уключаліся ў план заняткаў народных універсітэтаў, клуба-кавярняў, утрымліваліся сталыя лектарскія пункты.



З 1959 года радыёвузламі паўднёва-ўсходняй Беласточчыны пачалі праводзіцца 15-мінутовыя гутаркі. Гутаркі гэтыя падрыхтоўваюцца ў ГП, на месцы зацвярджаюцца і перасылаюцца ў паасобныя радыёвузлы. Тэматыка іх вельмі разнастайная. На працягу амаль 7 год было прачытана 1230 такіх радыёгутарак.



*Настаўнікі-актывісты БГКТ Оля Паўлючук і Сяргей Філіпюк падчас перапынку.*

Шмат месца ў працы нашай арганізацыі займалі асветныя справы, хоць непасрэдна за іх адказваюць школьныя ўлады. Аднак школы працуюць у беларускіх асяроддзях, у школах вывучае родную мову 12 тысяч дзяцей, таму БГКТ лічыць сваім абавязкам супрацоўнічаць з імі і аказваць ім усялякую




*Дэлегаты V З'езду каля выстаўкі «X год БГКТ».*

дапамогу. За гады народнай улады, як ніколі дагэтуль на Беласточчыне, развілася сетка школ з беларускай мовай (185 пачатковых школ, чатыры ліцэі, а таксама кафедра беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце).



Ад пачатку існавання нашай арганізацыі на з'ездах, пленумах, пасяджэннях Прэзідыума ГП і ў штодзённай працы справе асветы прыдавалася вялікае значэнне. Актыў ГП, аддзелаў і штатныя працаўнікі ГП часта наведваюць школы, прысутнічаюць на школьных урачыстасцях, бацькоўскіх сходах, на канферэнцыях ЗНП. На кошт БГКТ кожны год праводзяцца канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы, адбываюцца сустрэчы з кіраўніцтвам ГП, з нашымі пісьменнікамі, арганізуюцца для школьнікаў на выгадных умовах экскурсіі аўтобусам таварыства. Наша арганізацыя заўсёды ўрачыста адзначае Дзень настаўніка, дапамагае ў забеспячэнні школ падручнікамі, у наборы моладзі ў паасобныя школы, імкнецца ўздзейнічаць на кадравую палітыку.

Істотным момантам у асветнай працы з'яўляецца чытальніцтва. Нашае насельніцтва карыстаецца кніжкамі на трох мовах — польскай, беларускай і рускай — з трох крыніц: дзяржаўных бібліятэк, школьных бібліятэк і бібліятэк БГКТ. У чытанні кніжак на польскай мове мы крыху адстаем ад агульнадзяржаўных паказчыкаў, але не многа кніжак чытаем і на роднай мове. Зараз у 56 дзяржаўных бібліятэках ваяводства, у 180 школьных бібліятэках і 7 бібліятэках БГКТ ёсць каля 40 тысяч беларускіх кніжак, а прачытаных (без школьных бібліятэк) было ў мінулым годзе ўсяго 16 тысяч. Гэта значыць, што кожны дарослы беларус за дзесяць год прачытае адну кніжку на беларускай мове з гэтых бібліятэк. Чаму ж такі нізкі паказчык чытання беларускіх кніжак? У першую чаргу таму, што няма чаго чытаць. Увесь кнігазбор, апрача бібліятэк БГКТ, устарэлы, перачытаны і ўжо 3 гады амаль не папаўняецца.

Характэрнай рысай беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы з'яўляецца цяга да мастацкай самадзейнасці. Часта нават гавораць: «Што вёска, то і калектыў». Таму, здаецца, невялікія заслугі ўсіх арганізацый, а ў тым ліку і БГКТ, у галіне развіцця масавага самадзейнага руху. Некаторыя мастацкія гурткі (у Гарадку, Белавежы, Орлі, Кленіках) дзейнічалі яшчэ да заснавання Беларускага таварыства. Аднак ад 1957 года лік іх значна павялічыўся, а ў 1962 годзе дасягнуў амаль ста. У апошнія гады, мабыць, у сувязі з увядзеннем тэлебачання, колькасць іх крыху зменшылася.

Ужо дзесяць год БГКТ забяспечвае самадзейны рух рэпертуарам на беларускай мове. Былі перавыдадзены спачатку ўсім ужо вядомыя п'есы: «Прымакі», «Паўлінка», «Суд», было адбіта на шапіраграфе звыш 40 сцэнічных твораў, былі таксама надрукаваны пастаноўкі ў некалькіх дадатках да «Нівы», выдадзены дзве п'есы сваіх аўтараў, а некалькі на-

ступных знаходзяцца ў падрыхтоўцы. Можна сказаць, што першыя патрэбы ў рэпертуары задаволены.

Значна горш выглядае справа з інструктарскай дапамогай. Тут мы як не мелі апрача настаўнікаў ніякіх кадраў, так і не маем іх далей. Аднак нягледзячы на непадрыхтаванасць, з большымі ці меншымі здольнасцямі многія настаўнікі бяруцца за дырыжорскую і рэжысёрскую працу і даб'ваюцца вялікіх поспехаў. Вось, напрыклад, настаўнікі з Паўлаў, а асабліва Сяргей Філіпюк, вядуць драмгуртох і харавую групу, якая выкарыстоўвае фальклорны матэрыял Беласточчыны. Драмгурток і харавы калектыў з Вілянова пад кіраўніцтвам Анатоля і Ніны Мартыновічаў таксама дабіліся вялікіх поспехаў. Настаўніца Зіна Кахановіч з Бялявіч з'яўляецца здольным рэжысёрам. Развіццю мастацкай самадзейнасці многа ўвагі прысвячаюць настаўнікі з Рыбалаў, Ляшукоў, Скупава, Сухініч і многіх іншых вёсак. Мастацкімі кіраўнікамі ў некаторых мясцовасцях з'яўляюцца маладыя людзі — не настаўнікі. (Напрыклад, Яўген Сапёлка з Масева, Рыгор Панасюк з Чарэмхі, Рыгор Семянюк з Раек і іншыя).

Важным мерапрыемствам у галіне пашырэння самадзейнага руху былі агляды, якія праводзіліся таварыствам супольна з іншымі ўстановамі краіны.

Ад 1 чэрвеня 1956 года да канца 1964 года дзейнічаў пры ГП БГКТ калектыў песні і танца. За восем год даў каля 140 канцэртаў. Праходзіў ён перыяды ўздыму і ўпадку. Вельмі цікавыя формы працы ўвялі ў ім Людміла Панько і Тацяна Гіжэўская. Кульмінацыйным пунктам працы быў 1960 год, калі калектыў выступаў 35 разоў. Але аднначасова ўзрасталі кошты яго ўтрымання. Пры іх нават частковым абмежаванні калектыў пачаў раскладацца і дайшоў да такога становішча, што самастойна, без эстрады канцэртаваць не змог. 15 ліпеня 1964 года па рашэнню Прэзідыума ГП калектыў перастаў дзейнічаць, а замест яго пачалася арганізацыя падобных калектываў пры кожным аддзеле БГКТ. Арганізаваўся хор у Бельску, які на працягу 1965 года даў 13 выступленняў, пасля балетная група ў Беластоку.

Ад 15 лістапада 1960 года дзейнічае эстрадная група «Лявоніха», якая на працягу 5 год працы дала 1160 канцэртаў, у тым ліку звыш 80% на вёсках, якія часта не наведала ў іх гісторыі нават кіно.

Умовы для выступленняў тут выключна цяжкія, а кажучы больш праўдзіва, няма іх зусім. Апрача Беластоцкага ваяводства «Лявоніха» наведвала сталіцу, па месяцу паспяхова выступала ў Жэшоўскім, Келецкім і Альштынскім ваяводствах.



Не малая роля Беларускага таварыства ў пашырэнні дружалюбных адносін да народаў СССР, да суседа нашай краіны — Савецкай Беларусі. Садзейнічаюць гэтаму бясплатныя савецкія фільмы, якія дэманструюцца сваёй кінаперасоўкай



*Хор Аддзела БГКТ у Бельску.*

у памяшканні Галоўнага праўлення, у вёсках і мястэчках Беласточчыны. Садзейнічаюць гэтаму ўрачыстыя вечары, прысвечаныя гадавінам Кастрычніцкай рэвалюцыі, дню Савецкай Арміі, дню перамогі над нямецкім фашызмам, важнейшым гадавінам класікаў беларускай і рускай літаратур і г. д.




У 1965 годзе было ў асноўным закончана стварэнне разам з ГС-ам у Белавежы грамадскага этнаграфічнага музея, які зараз мае звыш 280 экспанатаў, падрыхтаваных для наведвальнікаў. Нашыя вёскі захавалі яшчэ выключнае багацце экспанатаў, якіх з кожным годам аднак будзе ўсё менш і менш. Калі мы далей будзем сістэматычна праводзіць збор гэтых экспанатаў нашай матэрыяльнай культуры, а ўлады акажуць нам дапамогу ў атрыманні новага, большага памяшкання, узнікне ўнікальны этнаграфічны музей.

Неабходна таксама сказаць аб супрацоўніцтве нашай арганізацыі з паасобнымі ўстановамі ў краіне і за граніцай. Вядзецца яно з ГП і ВП ТППР (абмен савецкімі фільмамі, прапагандовымі матэрыяламі, удзел у нарадах, камісіях, выкарыстоўванне залаў, запрашэнне гасцей з БССР і г.д.); з Домам савецкай культуры ў Варшаве, адкуль таксама атрымліваем фільмы; з Міністэрствам культуры; з аддзеламі культуры ПВРН; з ВДК і ПДК (дабор рэпертуару, кансультацыі); з «Рухам» (выкарыстанне клуба-кавярняў, арганізаванне фотавыставак, распаўсюджванне выданняў і прэсы ГП); з ваяводскай бібліятэкай і іншымі бібліятэкамі (справа падбору літаратуры, арганізавання семінараў, лектаратаў), са школьнымі ўладамі і настаўнікамі; з радамі нарадовымі і партыйнымі арганізацыямі ў справах арганізацыйных. Асабліва добра выглядае супрацоўніцтва з Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з заграніцай. БГКТ атрымлівае бясплатна 90 газет і 119 часопісаў, кніжкі, фотамантажы, даклады, плёнкі з беларускімі песнямі.






*Выступленне духавога аркестра Агульнаадукацыйнага Ліцэя з бел. мовай навучання ў Бельску на V З'ездзе БГКТ.*

Надзвычай карыснымі былі прыезды выкладчыкаў беларускай філалогіі з Мінска, працаўнікоў навукі, пісьменнікаў, артыстаў.

Дзесяцігадовая практыка дзейнасці БГКТ, яго дасягненні ў павышэнні культуры беларускага насельніцтва ў Польшчы,

у пашырэнні яго грамадскай актыўнасці сцвярджаюць глыбокі сэнс існавання і дзейнасці БГКТ. Уласцівым было б і ў далейшай працы таварыства пашыраць супрацоўніцтва з арганізацыямі і ўстановамі, дзейнічаючымі ў беларускіх вёсках, пашыраць яго інспіратарскую і кансультацыйную ролю. Датыхчасовая практыка нашай дзейнасці дае шмат станоўчых прыкладаў, сцвярджаючых гэта. Выдадзеныя, напрыклад, Галоўным праўленнем рэпертуарныя матэрыялы ў аднолькавай меры служаць як мастацкім гурткам БГКТ, так і такім жа гурткам ЗМВ, КГВ і іншым арганізацыям, дзейнічаючых на беларускіх вёсках. Супрацоўніцтва з ваяводскай бібліятэкай дапамагло працаўнікам бібліятэкі ў папулярызацыі беларускай кніжкі. Супрацоўніцтва з аддзеламі асветы і кураторыяй уздзейнічала ў вялікай ступені на выпраўленне




*Выступленне вучаніц Агульнаадукацыйнага Ліцэя з бел. мовай навучання ў Гайнаўцы на V З'ездзе БГКТ.*



Тым не менш, трэба сцвердзіць, што сур'ёзным недахопам у датыхчасовай нашай дзейнасці было слабое супрацоўніцтва з ЗМВ, амаль адсутнасць гэтага супрацоўніцтва з ЗГП. Не было цеснага супрацоўніцтва з такімі арганізацыямі, як ЛОК, ЛЗС, а таксама з сельскагаспадарчымі гурткамі.

Трэба шырэй разгарнуць навуковую і навукова-папулярызатарскую дзейнасць БГКТ. Існуючы пры ГП БГКТ навуковы гурток, магчыма, варта было б ператварыць у навуковае аб'яднанне на кшталт літаб'яднання з уласным статутам і ўласным планам дзейнасці, стараючыся адначасова прыцягнуць да яго больш супрацоўнікаў, цікавячыхся беларускай праблематыкай. Навуковае аб'яднанне павінна супрацоўнічаць з Беластоцкім навуковым таварыствам і іншымі навуковымі ўстановамі дзеля абмену дасягненнямі і каардынацыі доследаў.

Дзесяцігадовая практыка дзейнасці БГКТ паказвае, што найбольш уданымі былі мерапрыемствы, арганізаваныя Галоўным праўленнем, горш выходзілі многія пачынанні нашых аддзелаў, а найцяжэй было абудзіць да самастойнай актыўнай дзейнасці гурткі БГКТ. Улічваючы гэта, трэба далей разбудоўваць дзейнасць БГКТ «у цэнтры». Трэба пашырыць працу лектарскай групы і часцей арганізоўваць выезды беластоцкага актыву ў вясковыя гурткі. Трэба таксама ў сваёй працы шырока выкарыстоўваць клуба-кавярні і бібліятэчныя пункты.

Трэба палепшыць апрацоўку радыёгутарак, а таксама дакладаў, якія высылаюцца для актыву аддзелаў.

Трэба стварыць пры ГП БГКТ грамадскую тэатральную групу, якая выязджала б са сваімі выступленнямі ў вёскі.

Ва ўсёй дзейнасці БГКТ трэба ў большай, чым дагэтуль, ступені карыстацца дапамогай, падтрымкай і ўказаннямі партыйных органаў. Датычыць гэта як аддзелаў БГКТ, так і яго гурткоў. Гурткі павінны быць больш звязаны з партыйнымі арганізацыямі ў сваіх вёсках, а аддзелы — з павятовымі партыйнымі органамі.

Паважаныя дэлегаты!

Наш сённяшні з'езд, напэўна, будзе садзейнічаць далейшаму развіццю Беларускага таварыства, яшчэ лепшаму выкананню культурна-асветных і грамадскіх заданняў, а гэтым самым стане адным з важных этапаў нашай дзейнасці.

Вучачыся на сваіх дасягненнях і недахопах, мы павінны выбраць такія напрамкі і спосабы дзеяння, якія памагалі б нам найбольш паспяхова і ўпэўнена ісці ў будучае дзесяцігоддзе. Якое яно будзе, гэтае новае дзесяцігоддзе, з якімі думкамі ў яго ўвойдзем, шмат залежыць і ад вынікаў сённяш-

няга з'езду, ад пастаноў, якія на ім выпрацуем, ад нашай волі і жадання працаваць на карысць нашага беларускага грамадства, на карысць пабудовы сацыялізма ў нашай народнай айчыне. Гэтыя два прынцыпы — праца на карысць сваёй нацыянальнай меншасці і краіны — неразлучна звязаны з сабою, адзін другі дапаўняюць і ўзбагачаюць. Павінны яны быць асноўнымі прынцыпамі ўсёй нашай працы.

З трыбуны сённяшняга з'езду звяртаемся з заклікам да ўсяго нашага актыву, да ўсіх членаў БГКТ зрабіць яшчэ больш ўклад у грамадскую працу на карысць нашай арганізацыі.

## ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

1. Антанюк Уладзімір
2. Баршчэўскі Аляксандр
3. Баршчэўскі Васіль
4. Валкавыцкі Георгій
5. Вішанка Янка
6. Дзун Васіль
7. Іванюк Аляксандр
8. Каленік Аляксандр
9. Касцюк Анатоль
10. Кіндзюк Янка
11. Краўчук Мікалай
12. Крэйза Сяргей
13. Лебядзінскі Мікалай
14. Майсеня Кастусь
15. Мартыновіч Анатоль
16. Масальскі Кастусь
17. Мікуць Янка
18. Палоцкі Янка
19. Паўлючук Ольга
20. Рагацэвіч Віктар
21. Радзіцкая Кіра
22. Раеўскі Уладзімір
23. Рафаловіч Аляксандр
24. Самоцік Мікалай
25. Семянюк Рыгор
26. Серадзінскі Мікалай
27. Склубоўскі Вінцук
28. Сохар Аляксандр
29. Станкевіч Уладзімір
30. Суліма Язэп
31. Сычэўскі Аляксей
32. Тарасевіч Пётр
33. Філіпюк Сяргей
34. Харкевіч Аляксандр
35. Хмялеўскі Міхась
36. Храноўскі Аляксандр
37. Швед Віктар
38. Шыманюк Сямён
39. Юзвюк Уладзімір

## ПРЭЗІДЫУМ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

1. Склубоўскі Вінцук — старшыня
2. Самоцік Мікалай — намеснік старшыні
3. Юзвюк Уладзімір — сакратар
4. Баршчэўскі Аляксандр — член
5. Валкавыцкі Георгій — член
6. Майсеня Кастусь — член
7. Рафаловіч Аляксандр — член
8. Серадзінскі Мікалай — член
9. Хмялеўскі Міхась — член

## ГАЛОЎНАЯ РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ ГП БГКТ

1. Галёнка Хведар — старшыня
2. Бялецкая Лідзія — намеснік старшыні
3. Кунах Аляксандр — сакратар
4. Грэсь Янка — член
5. Кізевіч Піліп — член

## ПАСТАНОВЫ V-га З'ЕЗДУ БГКТ

1. ГП БГКТ павінна быць інспіратарам грамадскіх і культурна-асветных пачынанняў у беларускім асяроддзі.

2. ГП БГКТ павінна наладзіць цесную сувязь з усімі арганізацыямі і ўстановамі, дзейнічаючымі на тэрыторыі, на якой

жывуць беларусы, з мэтай супольнай працы сярод беларускага насельніцтва.

3. Працаваць над далейшым ростам колькасці членаў БГКТ.

4. ГП БГКТ павінна зрабіць захады ў адпаведных установах у справе забеспячэння беларускіх школ падручнікамі і іншымі навуковымі дапаможнікамі па беларускай мове.

5. Мабілізаваць беларускае насельніцтва на збор складчын на фонд пабудовы школ і інтэрнатаў. Хадатайнічаць аб пабудове новага школьнага будынка з інтэрнатам для беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і інтэрната для беларускага ліцэя ў Бельску.

6. Хадатайнічаць у Міністэрстве вышэйшай адукацыі адносна стварэння ўмоў для здабыцця поўнай вышэйшай адукацыі абсальвентам беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі, так, каб распачаць навуку, па меры магчымасцей, ад новага навучальнага года.

7. Звярнуць асаблівую ўвагу на асвету дарослых, дзякуючы павелічэнню ліку дакладаў, гутарак, курсаў і г. д.

8. ГП БГКТ павінна зрабіць захады ў справе забеспячэння бібліятэк і клубаў беларускімі кнігамі і друкам.

9. ГП БГКТ павінна разбудоўваць этнаграфічны музей у Белавежы. З гэтай мэтай трэба далей збіраць каштоўныя экспанаты і перанесці музей у больш адпаведны будынак, а калі будзе магчымасць, пабудаваць новы.

10.Ператварыць навуковы гурток пры ГП БГКТ у навуковае аб'яднанне, якое павінна заняцца распрацоўкай праблем беларускага насельніцтва ў Польшчы. Аб'яднанне трэба забяспечыць патрэбнымі фінансавымі сродкамі.

11. Стварыць у ГП БГКТ выдавецкі аддзел з мэтай пашырэння выдавецкай дзейнасці таварыства.

12. Зрабіць захады адносна павелічэння перадач БГКТ у радыёвузлах з 15 да 30 мінут штотыднёва.

13. Імкнуцца павялічыць лік падпісчыкаў «Нівы».

14. Стварыць пры аддзелах БГКТ клубы настаўнікаў — абсальвентаў беларускай філалогіі, якія будуць аналізаваць праграмы навучання беларускай мовы.

15. Аказаць значна большую, чым дагэтуль, арганізацыйна-матэрыяльную дапамогу мастацкаму самадзейнаму руху.

16. Смялей уводзіць новыя формы працы ў гуртках і аддзелах БГКТ. З гэтай мэтай актыў паасобных аддзелаў павінен абменьвацца вопытам.

17. Арганізацыйна і фінансава больш усамастойніць аддзелы БГКТ.



## КРЫХУ СТАТЫСТЫКІ

*Лік членаў і гурткоў БГКТ у 1956—1965 г.*

| № | Гады / Аддзелы | 1956 |  | 1957 |  | 1958 |  | 1959 |  | 1960 |  | 1961 |  | 1962 |  | 1963 |  | 1964 |  | 1965 |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  | гурт. | чл. | гурт. | чл. | гурт. | чл. | гурт. | чл. | гурт. | чл. | гурт. | чл. | гурт. | чл. | гурт. | чл. | гурт. | чл. | гурт. | чл.* |
| 1 | г. Беласток | — | 96 | 1 | 130 | 1 | 190 | 1 | 244 | 1 | 384 | 1 | 458 | 1 | 574 | 1 | 654 | 1 | 749 | 1 | 1000 |
| 2 | бельскі | — | 137 | 12 | 304 | 15 | 520 | 39 | 1150 | 44 | 402 | 40 | 1014 | 40 | 1128 | 41 | 1288 | 43 | 1353 | 45 | 1495 |
| 3 | дубро́ўскі | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 4 | 115 | 5 | 128 | 5 | 103 | 5 | 132 |
| 4 | гайнаўскі | — | 170 | 14 | 248 | 14 | 268 | 15 | 272 | 42 | 723 | 42 | 678 | 46 | 976 | 47 | 1281 | 48 | 1369 | 48 | 1472 |
| 5 | міхалоўскі | — | 5 | 2 | 52 | 3 | 60 | 7 | 220 | 9 | 280 | 10 | 175 | 12 | 194 | 16 | 315 | 17 | 243 | 15 | 253 |
| 6 | мілейчыцкі | — | 18 | 5 | 84 | 5 | 84 | 5 | 83 | 5 | 85 | 15 | 210 | 17 | 293 | 17 | 285 | 17 | 327 | 17 | 462 |
| 7 | сакольскі | — | 35 | 4 | 82 | 9 | 103 | 6 | 130 | 16 | 375 | 23 | 436 | 25 | 488 | 23 | 476 | 23 | 328 | 23 | 350 |
| 8 | г. Варшава | — | 77 | 1 | 91 | 1 | 120 | 1 | 121 | 1 | 121 | 1 | 116 | 1 | 135 | 1 | 180 | 1 | 174 | 1 | 182 |
| 9 | г. Шчэцін | — | — | 1 | 18 | 1 | 18 | 1 | 30 | 1 | 25 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
|  | Разам | — | 538 | 40 | 1009 | 49 | 1363 | 75 | 2250 | 119 | 3395 | 132 | 3087 | 146 | 3903 | 151 | 4607 | 155 | 4646 | 155 | 5346 |

*Кніжныя выданні ГП БГКТ*

| № | Назва выдання | Рэдактар | Стар. | Тыраж | Год вы-дання | Цана зл. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Бел. калян. на 1957 г. | М. Баравік | 160 | 10 000 | 1957 | 5 |
| 2 | Бел. калян. на 1958 г. | М. Баравік | 128 | 10 000 | 1957 | 10 |
| 3 | Бел. калян. на 1959 г. | М. Баравік | 64 | 4 000 | 1959 | 5 |
| 4 | Бел. калян. на 1960 г. | Г. Валкавыцкі | 104 | 6 000 | 1960 | 5 |
| 5 | Навук. літар. збор. і бел. калян. 1961 г. | М. Кураш, В. Швед У. Юзвюк | 304 | 6 000 | 1960 | 12 |
| 6 | Рунь | Г. Валкавыцкі | 51 | 2 100 | 1959 | 6 |
| 7 | «Дзядзька Лявонь» С. Вагурка | Г. Валкавыцкі | 160 | 3 000 | 1961 | 10 |
| 8 | Беларускі каляндар на 1962 год | А. Баршчэўскі, М. Кураш У. Юзвюк | 164 | 4 000 | 1961 | 6 |
| 9 | Белавеж. матывы | А. Барскі | 200 | 1 500 | 1962 | 6 |
| 10 | Беларускі каляндар на 1963 год | Л. Раманюк В. Швед У. Юзвюк | 136 | 4 000 | 1962 | 6 |
| 11 | Мой родны кут | А. Чэчуга Л. Раманюк У. Юзвюк | 176 | 5 000 | 1963 | 6 |
| 12 | Беларускі каляндар на 1964 год | М. Лобач Л. Раманюк У. Юзвюк | 162 | 4 000 | 1963 | 6 |
| 13 | Навуковы зборнік | А. Баршчэўскі Л. Раманюк В. Склубоўскі, У. Юзвюк | 296 | 1 500 | 1964 | 10 |
| 14 | Прамень думкі | Я. Бурш | 32 | 1 000 | 1964 | 1 |
| 15 | Бел. калян. на 1965 г. | С. Яновіч | 204 | 5 000 | 1964 | 6 |
| 16 | Літ. альманах «Белавежа» | Я. Анісеровіч, А. Баршчэўскі В. Швед | 320 | 2 500 | 1965 | 10 |
| 17 | Бел. калян. на 1966 г. | М. Хмялеўскі | 320 | 5 000 | 1965 | 7 |
| | Разам | — | 2 983 | 74 500 | — | — |




*Выдавецтва ГП БГКТ.*

*Прапагандова-лектарская дзейнасць БГКТ*

| № | Год | Дакладаў | Гутарак | Гутарак праз радыёвузлы |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 1956 | 12 | 102 | — |
| 2. | 1957 | 16 | 128 | — |
| 3. | 1958 | 10 | 50 | — |
| 4. | 1959 | 12 | 56 | 69 |
| 5. | 1960 | 22 | 150 | 142 |
| 6. | 1961 | 27 | 295 | 261 |
| 7. | 1962 | 60 | 186 | 130 |
| 8. | 1963 | 77 | 154 | 149 |
| 9. | 1964 | 87 | 173 | 181 |
| 10. | 1965 | 116 | 265 | 251 |
| | Разам | 439 | 1 564 | 1 233 |

*Тыраж і продаж «Нівы»*

| № | Год | Тыраж | Падпіска | Кіёскавая продаж |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 1956 | 286 000 | 194 700 | 46 000 |
| 2. | 1957 | 238 000 | 148 000 | 31 000 |
| 3. | 1958 | 245 000 | 172 000 | 31 000 |
| 4. | 1959 | 245 000 | 179 000 | 27 000 |
| 5. | 1960 | 238 000 | 192 000 | 23 000 |
| 6. | 1961 | 239 000 | 203 000 | 23 000 |
| 7. | 1962 | 250 000 | 210 000 | 26 000 |
| 8. | 1963 | 269 000 | 215 000 | 37 000 |
| 9. | 1964 | 273 000 | 225 000 | 37 000 |
| 10. | 1965 | 280 000 | 219 000 | 42 000 |

*Мастацкая самадзейнасць*

| № | Годы | Лік аматарскіх гурткоў | Лік выступленняў калектываў песні | Лік канцэртаў «Лявоніхі» |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 1956 | ? | 2 | — |
| 2. | 1957 | 24 | ? | — |
| 3. | 1958 | 40 | 23 | — |
| 4. | 1959 | 70 | 21 | — |
| 5. | 1960 | 60 | 35 | 9 |
| 6. | 1961 | 65 | 13 | 302 |
| 7. | 1962 | 98 | 11 | 262 |
| 8. | 1963 | 70 | 9 | 194 |
| 9. | 1964 | 59 | 9 | 187 |
| 10. | 1965 | 59 | 13 | 171 |





*«Боты» — у выкананні аматарскага гуртка з Крушынян, Сакольскага пав.*




## ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ У БЕЛАВЕЖЫ

Згодна з дагаворам аб устанаўленні дзяржаўнай граніцы паміж СССР і Польшчай з дня 16 жніўня 1945 года па так званай лініі «Керзона», у межах Польшчы засталося каля 200 тысяч беларускага насельніцтва. Беларусы займаюць паўднёва-ўсходнюю частку Беластоцкага ваяводства — увесь Гайнаўскі павет, усходнія часткі Бельскага, Беластоцкага, Сямяцічкага, Сакольскага, Дуброўскага і Лапскага паветаў, а таксама часткова горад Беласток. Складаюць яны 15—17% агульнага ліку насельніцтва Беласточчыны. Беларусы ад вякоў пражываюць кампактна на гэтай зямлі ў суседстве з палякамі. Аднак вялікія лясныя масівы і багны, якія аддзялялі беларусаў ад палякаў з захаду і асноўнай масы беларускага насельніцтва з усходу, спрыялі ўтварэнню своеасаблівых рыс матэрыяльнай культуры і побыту. Праяўляецца гэта ў першую чаргу ў будаўніцтве, непаўторнай народнай архітэктурнай разьбе, ткацтве, духоўнай культуры, багацці моўных дыялектаў і гэтак далей. Усё гэта стваралася вякамі і захоўвалася да апошняга дваццацігоддзя.



Зараз з увагі на выключна моцныя ўплывы цывілізацыі частка матэрыяльнай і духоўнай культуры гэтага раёна стала хутка занікаць. Насельніцтва перастала ўжо ткаць палатно на кашулі, рабіць кадаўбцы на збожжа, малоць у жорнах. Можна з упэўненасцю сказаць, што чарговае паўвека канчаткова знішчыць усё рэгіянальнае. Невыпадкова Міністэрства культуры ПНР кінула ў апошнім годзе тысячагоддзя дзяржавы кліч: на кожным прадпрыемстве, ва ўстанове. вёсцы — музей. У параўнанні з іншымі часткамі ПНР, а нават БССР, наш невялічкі рэгіён захаваў, здаецца, найбольш экспанатаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Таму БГКТ паставіла перад сабой заданне ахоўваць помнікі старажытнасці беларускай народнай культуры (Статут БГКТ, раздз. III, § 6, п. і. 1966 год).

Вырашэнне гэтага задання працякала даволі складана. Спачатку існавала некалькі прапаноў, між іншым: а) арганізаваць у музеі г. Беластока аддзел беларускай матэрыяльнай культуры, б) стварыць камітэт пабудовы дома-музея, в) збіраць экспанаты і перахоўваць іх незалежна ад памяшкання, імкнучыся адначасова атрымаць яго.

Над першай прапановай шмат разважалі на III з'ездзе БГКТ, у пастановах з'езду нават знайшоўся пункт: «Пачаць старанні ў напрамку стварэння пры беластоцкім музеі беларускага аддзела з мэтай, каб у будучыні аддзел гэты мог стаць базай для самастойнага беларускага музея» (Пастановы III з'езду БГКТ з дня 29. V. 1960 г. п. 12). Адпала яна, калі была ўзята пад увагу цесната ў памяшканні існуючага ў Беластоку музея.

Другая прапанова прадугледжвала стварэнне грамадскага камітэта пабудовы Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Беластоку, які працаваў звыш пяці год, а ў 1964 годзе перавёў сабраных 160 тысяч злотых на заканчэнне будовы Дома культуры ў Гарадку. 10 студзеня 1963 г. пры ГП БГКТ быў створаны камітэт пабудовы рэгіянальнага музея ў Гайнаўцы пад кіраўніцтвам намесніка старшыні ГП Мікалая Самоціка. Мэтай яго працы была пабудова ў Гайнаўцы або Белавежы будынка для музея. Характэрна, што мясцовыя ўлады аднесліся да гэтага вельмі прыхільна. Ваяводскі камітэт ПАРП у сваім пісьме з дня 16. VIII. 1962 г. № 37/368/62 за подпісам I сакратара А. Лашэвіча падтрымаў рашэнне ГП БГКТ у справе арганізавання рэгіянальнага музея імя К. Каліноўскага ў Гайнаўцы, як мерапрыемства вельмі пажаданага.

МРН у Гайнаўцы выдзеліла ў найпрыгажэйшай частцы горада, месца пад пабудову будынка. Шмат актывістаў БГКТ заявіла аб гатоўнасці аказаць дапамогу ў арганізацыі музея. Так, напрыклад, інж. Павел Дэйкала з Варшавы грамадскім чынам падрыхтаваў уступны праект пабудовы музея. Многа дапамогі аказала дырэкцыя і працаўнікі гаспадарча-прамысловага прадпрыемства БГКТ, а пасля спулдзельня працы «Бэтэска» ў Варшаве, асабліва П. Ластаўка і Л. Бусловіч.

За некалькі год дзейнасці камітэт пабудовы рэгіянальнага музея сабраў 318 тысяч злотых і далей працягваў сваю дзейнасць.

У той час актыў таварыства вырашыў, што неабходна пачаць збіраць экспанаты матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва паўднёва-ўсходняй Беласточчыны і перахоўваць іх да моманту пабудовы новага будынка. IV з'езд, які адбыўся 16 чэрвеня 1963 года, прыняў наступную пастанову ў справе музея: «Беручы пад увагу тое, што беларускі раён Беласточчыны з'яўляецца адным з найбольш каштоўных крыніц этнаргафічных помнікаў, трэба зрабіць энергічныя крокі ў напрамку пабудовы беларускага музея ў Гайнаўцы. Не чакаючы вырашэння гэтай справы, пачаць як найхутчэй збор экспанатаў і часова перахоўваць іх у падрыхтаваных да гэтага памяшканнях».

На з'ездзе ў справах музея выступала некалькі асоб. Вось некаторыя з іх:

Мар'ян Пецюкевіч — кусташ этнаграфічнага музея ў Торуні: «Народная культура ці, інакш кажучы культура сялян з'яўляецца асноўным элементам нацыянальнай культуры, яе пашпартам і нацыянальным аблічнам. Гэтая культура на працягу вякоў была пагарджана і дыскрымінавана пануючымі класамі, але змагла захаваць да нашых дзён свае нацыянальныя асаблівасці і зараз ужо высока цэніцца.., у нашай краіне. Існуе ў нас многа музеяў і розных навуковых устаноў, якія займаюцца пытаннямі народнай культуры. Але, на жаль, дагэтуль няма музея на Беласточчыне, які спецыяльна збіраў бы і ахоўваў помнікі народнай культуры беларускага насельніцтва... Пад націскам сучаснасці гэтыя помнікі знікаюць на нашых вачах разам са старэйшым пакаленнем. Добра, што вёска наша прагрэсіруе. Але мы не можам раўнадушна глядзець на заняпад народных традыцый. Мы павінны стварыць краязнаўча-этнаграфічны музей на Беласточчыне. На маю думку, ГП БГКТ павінна выступіць з ініцыятывай стварэння ў Белавежскім народным парку музея пад адкрытым небам тыпу скансена».

Кастусь Майсеня — старшыня ПЗГС у Гайнаўцы, член Прэзідыума ГП: «У Гайнаўскім павеце ёсць многа нявыкарыстаных будынкаў, у якіх часова можна было б захоўваць сабраныя музейныя экспанаты. Да пабудовы музея трэба прыступіць неадкладна, трэба прыняць такую пастанову і планаваць музей у Гайнаўцы. Патрэбна таксама, каб мы ўсе абавязаліся ў справе збору экспанатаў, якія хутка нішчацца. Экспанаты гэтыя павінны быць у адпаведным месцы забяспечаны»...

Васіль Дзун — член ГП з Гайнаўкі — гаварыў на III пленуме ГП (26. IV. 1964 г.): «У сувязі з 20-годдзем Польскай Народнай Рэспублікі мы павінны выйсці з шырокай акцыяй да насельніцтва з мэтай збору экспанатаў нашай культуры. Усе праўленні аддзелаў БГКТ, тыднёвік «Ніва» павінны як мага шырэй папулярызаваць патрэбу пераказвання гэтых каштоўных экспанатаў у музей. Інакш яны прападуць беззаўсёды».

Пачаткі працы па зборы экспанатаў былі даволі цяжкія. Ад восені



да канца 1963 года было сабрана ўсяго каля 30 экспанатаў. Ткацтва і вышыўка знаходзіцца ў ГП, а драўляныя прылады працы — у ГС у Нараўцы.

Наступны 1964 год, аказаўся ў гэтых адносінах значна лепшым. З Беластоцкага і Гайнаўскага паветаў было сабрана каля 300 экспанатаў, але падрыхтаваць іх да экспазіцыі ў той жа Нараўцы нам не ўдалося, паколькі не хапала памяшкання.

Прэзідыум ГП пачаў задумвацца над далейшым лёсам будучага музея, экспанатаў і дайшоў да вываду, што ў турыстычных адносінах Нараўка мала атракцыйная. Усё гэта прымусіла шукаць іншага вырашэння. Увага была накіравана на турыстычны цэнтр Беласточчыны — Белавежу. Вясною 1965 года ў выніку заканчэння будовы крам на Гайнаўшчыне, ГС у Белавежы звольніў у добрым месцы на вул. Стачок прыватны драўляны будынак (Вашкевічаў). У гэты спрыяльны час Прэзідыум ГП звярнуўся да гміннай спулдзельні з прапановай супольна арганізаваць этнаграфічны музей. Ініцыятыву падтрымалі, улічваючы патрэбу ў Белавежы турыстычных аб'ектаў. Аднак ГС не меў у сваім распараджэнні адпаведнай сумы грошай на правядзенне рамонту будынка на патрэбу музея. Таму кіраўніцтва ГС і ГП дагаварыліся, што ГС дасць матэрыялы, а ГП грамадскім чынам адрамантуе будынак. На працягу некалькіх дзён рамонт гэты быў зроблены. Матэрыялы каштавалі ГС каля 10 тысяч злотых, а вартасць грамадскай працы працаўнікоў таварыства — 28 тысяч злотых.

28 красавіка 1965 г. адбылося выязное супольнае пасяджэнне Прэзідыума ГП з праўленнем і радай надзорчай ГС у Белавежы. Прысутнічаў таксама намеснік старшыні Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы Шпаковіч Міхась і старшыня ГРН Мікалай Седунь. Беручы пад увагу вялікую ролю гэтага пасяджэння, варта частку яго пратакола пераказаць чытачам.

«Пасяджэнне вёў старшыня ГП тав. М. Хмялеўскі. Падаў ён да ведама парадак дня, які быў прыняты без змен. Дзеля азнаямлення з мэтай сённяшняга супольнага пасяджэння аддаў голас сакратару У. Юзвюку.

Юзвюк Уладзімір. Большасць прысутных чула ўжо аб тым, што БГКТ імкнецца стварыць беларускі этнаграфічны музей. Аб гэтым шырока гаварылася на розных канферэнцыях таварыства і ў прэсе, былі планы пабудовы вялікіх памяшканняў у Беластоку і Гайнаўцы, былі і ёсць камітэты пабудовы гэтых музеяў. Розныя перашкоды не дазволяць рэалізаваць гэтай мэты яшчэ доўгія гады. Таму мы вырашылі збіраць экспанаты і захоўваць іх у некалькіх пунктах. Сабралі ўжо каля 300 экспанатаў, якія без памяшкання марнуюцца.

Вырашылі зрабіць даведку ў Белавежы — цэнтры турыстыкі. Мясцовыя таварышы — М. Седунь, А. Вашкевіч і іншыя пры падтрымцы павятовых улад акажуць нам дапамогу. Вырашылі яны перадаць будынак у адпаведным з турыстычнага пункту гледжання пункце Бела-

вежы. Уступныя працы ўжо праведзены. Трэба пагаварыць на сённяшнім пасяджэнні аб далейшых формах супрацоўніцтва.

Тарасевіч Пётр (настаўнік, член рады надзорчай). Вельмі добра, што стварэннем музея занялося ГП БГКТ. Два — тры гады таму назад з падобнай ініцыятывай выступалі мы, дзеячы Белавежы, але была яна адкінута. Наша мясцовасць з'яўляецца бадай што найлепшым пунктам на такі музей, беручы пад увагу недахоп турыстычных атракцый. Мясцовыя ўлады і ўлады павета павінны аказаць вам у гэтым максімальную дапамогу.

Майсеня Кастусь (член Прэзідыума ГП, старшыня ПЗГС). Гэты будынак для ГС-а патрэбны на рэстаран, аднак праўленне гміннай спулдзельні, разумеючы патрэбу іншай установы, вырашыла яго перадаць для музея. Таму прапануе назваць яго «Рэгіянальным музеем ГС» пад пратэкцыяй БГКТ. Увесь вясковы гандаль «Самапомац хлопска» зацікаўлены ў стварэнні такога тыпу культурных аб'ектаў. Важна гэта і таму, што белавежскія экскурсаводы ігнаруюць спецыфіку гэтага раёна. Лічыць, што кошты ўтрымання памяшкання павінен аплачваць ГС у Белавежы, а экспанаты павінны застацца ўласнасцю ГП БГКТ. Таварыства павінна падрыхтаваць іх экспазіцыю і сістэматычна яе папаўняць. Пры ліквідацыі адной з супрацоўнічаючых устаноў маёмасць пераходзіць на ўласнасць другой установы. Зразумела, трэба напісаць адпаведні дагавор. Далей К. Майсеня прапануе загаспадараванне панадворка на ўзор беларускай сялібы. (Юзвюк: «Скансен?» — адказ: «Так»).

Вашкевіч Аляксандр (старшыня ГС). Гэта ўжо справы далейшыя. Паводле маіх падлікаў рамонт будынка будзе каштаваць каля 70 тысяч злотых. Сума вялікая, і таму трэба з пастановай устрымацца да агульнага сходу ГС.

Седунь Мікалай (старшыня ГРН). Трэба зрабіць усё, каб такі музей быў створаны. Ён Белавежы вельмі патрэбны, а насельніцтва падхапіла прапанову БГКТ і падтрымлівае яе. ГС павінен перадаць музею вызначаны будынак, даць матэрыялы, а працаўнікі таварыства закончаць рамонт і падрыхтуюць да 30 чэрвеня выстаўку экспанатаў.

Юзвюк Уладзімір. Фінансавыя цяжкасці ГС-а, аб якіх гаварыў прэзэс А. Вашкевіч, зразумелыя. Таму просіць даць толькі матэрыялы, а БГКТ грамадскім чынам правядзе рамонт будынку і падрыхтуе выстаўку. Турыстычны сезон ужо пачаўся і адцягваць далей нельга.

Дацкевіч Уладзімір (намеснік старшыні ГС). У бягучым годзе нашае фінансавае становішча не найлепшае. Але стварыць музей трэба. Прыгожыя экспанаты гінуць з году ў год. Калі БГКТ энергічна не возьмецца за іх збор, наша культура панясе вялікія страты, якія пасля ўжо не вернем.

Краўчук Мікалай. Падтрымлівае прамоўцаў і лічыць неабходным адразу пачынаць працу.



Юзвюк Уладзімір. Дагэтуль мы абмяркоўвалі агульнаарганізацыйныя пытанні. Аднак будынак і экспанаты — гэта яшчэ не музей. Патрэбны розныя паліцы, манекены, падстаўкі, графіка і г. д. На сённяшнім пасяджэнні і гэтыя пытанні трэба вырашыць. БГКТ на такія выдаткі грошай не мае. Расставіць экспанаты абы як, каб пасля перарабляць, няма ніякага сэнсу.

Седунь Мікалай. Калі кошты іх высокія, то ГС у Белавежы пакрыць іх у цэласці не зможа. Павінен яму дапамагчы ПЗГС і суседнія ГС-ы. Беручы пад увагу вялікі турыстычны рух, экспанаты трэба падрыхтаваць як найпрыгажэй.

Самоцік Мікалай (член Прэзідыума ГП, сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы). Мы абмеркавалі ўсе арганізацыйныя справы. Мала гаварылі аб характары музея. Трэба яму апрача рэгіянальнасці надаць «пушчанскі стыль».

Пасля прыведзенага вышэй пасяджэння хутка быў закончаны рамонт будынку, і пачалі звозіцца экспанаты. Каб іх адпаведна расставіць, у Белавежу быў запрошаны кусташ этнаграфічнага музея ў Торуні Мар'ян Пецюкевіч, які правёў кансультацыю на месцы і напісаў сцэнарый. Экспазіцыю падрыхтавалі настаўнікі Віктар Кабац і Анатоль Корзун. 12 сакавіка 1966 года беларускі этнаграфічны музей у Белавежы быў адкрыты для наведвальнікаў. На ўрачыстасць адкрыцця прыбылі прадстаўнікі ваяводскага і павятовага камітэтаў ПАРП, ВРН, дзеячы ПЗГС і БГКТ. Адкрыццё музея прыпала старшыні ГП Вінцуку Склубоўскаму, а з уступнай прамовай выступіў сакратар ГП Уладзімір Юзвюк. У ёй гаварылася: «...У зборы экспанатаў аказала нам дапамогу само насельніцтва. Так, напрыклад, 80-гадовы селянін з Чэхаў Арлянскіх, Гайнаўскага павета, Лявон Андрасюк перадаў бясплатна добра захаваную саху і ярмо, вучні і настаўнікі пачатковай школы ў гэтай вёсцы сабралі дзесяткі іншых каштоўных экспанатаў. Насельніцтва вёсак Рыбакі і Бандары, Беластоцкага павета, аддало апошнія ў іх аколіцы ўнікальныя станкі да вырабу рашот і сіт, жорны і шмат іншых прылад, дамашняй працы. Вялікую дапамогу аказалі нам таксама сяляне з вёскі Міклашэва, якія перадалі камплетны варштат да вырабу колаў да драўляных вазоў. Адзначыць трэба зацікаўленасць нашай працай некалькіх працаўнікоў ГРН, а асабліва тав. Міруця Мікалая — старшыні ГРН у Юшкавым Грудзе, Беластоцкага павета, і Раманчука — старшыні ГРН у Нараўцы, Гайнаўскага павета разам з якімі наведалі мы вёскі вышэй прыведзеных раёнаў.

Неабходна ўспомніць таксама ліст інспектарата асветы ў Гайнаўцы да настаўнікаў пачатковых школ у справе збору экспанатаў і перадачы іх для музея БГКТ.

З прычыны адкрыцця этнаграфічнага музея ў Белавежы орган ВК ПАРП «Газета Бялостоцка» № 4541 з дня 14. III. 1966 г. пісала: «...Музей гэты з'яўляецца вельмі атракцыйнай і павучальнай пляцоўкай, якую ахвотна будуць наведваць турысты і экскурсанты».



*Момант з адкрыцця музея.*

Што можна зараз убачыць у музеі?

У першай зале знаходзяцца сельскагаспадарчыя прылады. Між іншым, ёсць саха, драўляны плуг без калёс і на калёсах, сошка, некалькі тыпаў барон, драпач, драўляны воз, ярмо, драўляныя вілы і сахары, цэп, граблі, жорны, ступа, таўкачы, ступкі, кадаўбцы, капанькі, драўляныя чарпакі, лыжкі і іншыя прылады хатняга ўжытку.



Далей размешчаны каляснічы варштат, такарня, ляда.

У другой зале памяшчаецца аддзел ганчарства і пляцёнак. Тут убачыце ўсе формы мясцовых ганчарскіх вырабаў — гладушкі, варцехі, міскі, збанкі, бунькі, вазоны, кубачкі, дваяны, траяны, бойкі, мініятуркі і іншыя. На ганчарскім крузе паказаны першыя прадукцыйныя працэсы з гліны.

У аддзеле пляцёнак ёсць розныя вырабы з саломы, як кадушкі, каробкі, сеялкі, гаршчкі і саламяныя маты. Ёсць тут пляцёныя з карэнняў кошыкі, карзінкі, берастовыя кашэлкі і іншыя.

У трэцяй зале паказваецца ўвесь працэс апрацоўкі ільну. Памешчаны: церніца, трапачкі, шчоткі, калаўроткі, матавіла, сукальнікі, кросны, а побач экспануюцца гатовыя ткацкія вырабы: плахты, радзюжкі, дываны, шматлікія ручнікі, абрусы і нацыянальная вопратка.



*Члены Прэзідыум ГП М. Самоцік, К. Майсеня і прадстаўнік ВК ПАРП В. Сянкевіч агладаюць старыя прылады апрацоўкі зямлі.*

Побач знаходзяцца ўнікальныя кросенкі для прадукцыі рашот і сіт. З увагі на недахоп месца каля сотні прадметаў не экспануецца.

Чаго яшчэ нам не хапае?

У першую чаргу прылад збіральніцтва — розных кошыкаў, кашолак, торбачак, мала ёсць кадаўбцоў і дробных прадметаў хатняга ўжытку. Не маем яшчэ зусім рыбацкіх прылад, як: вудачкі, жакі, невады, кломлі, сачкі, сажыкі і човен.

Нямнога ў нас яшчэ пастак, западняў, трашчотак, клякотак, пікаў і гэтак далей.



Апрача вышэй прыведзенага, цікавым экспанатам можа быць кожны прадмет, які быў выкананы і ўжываўся або зараз яшчэ ўжываецца насельніцтвам. Неабходна падкрэсліць, што ў вёсках часта можна сустрэць таленавітых майстроў, вырабы якіх могуць быць цікавымі і каштоўнымі экспанатамі. Збор экспанатаў у музей працягваецца, таму звяртаемся з просьбай да ўсяго насельніцтва паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, каб паведамляла нам аб месцазнаходжанні экспанатаў.

Наш адрас: Беласток, вул. Варшаўская II, тэл. 11-18.

*У. ЮЗВЮК*



# ГРАМАДА

Стотысячнай, магутнай грамадою
Пайшлі пад вызваленчыя сцягі.
Народ працоўны клікалі да бою.
Ліхой няволі рвалі ланцугі.

Не напужаў іх гвалт Картуз - Бярозы,
Ні карцары, ні паліцэйскі здзек.
Рух грамадоўскі можным быў пагрозай,
Зганяў «зубрам крэсовым» сон з павек.

Крыві працоўных пралілося многа
І шмат людскіх затрачана ахвяр.
Змаганне набліжала перамогу.
Здзяйсненне векавых народных мар.

Жыццё плыло цяжкою каляінай.
Пайшлі ў нябыт ўсе змрочныя гады.
У шчасці нашай вольнае краіны
Цаглінка ёсць змагання «Грамады».

**Віктар Швед**

# 40 ГОД ГРАМАДЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У пачатку 1965 года ў сувязі з набліжэннем саракагоддзя Грамады Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і аддзел прапаганды ВК ПАРП у Беластоку прыступілі да апрацоўкі плана адзначэння гэтай гадавіны на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства.

Было вырашана адзначэнню 40-годдзя Грамады і звязаным з гэтым урачыстасцям прыдаць агульнаваяводскі характар і паказаць у іх польскаму грамадству не толькі ролю Грамады ў барацьбе беларускага народа за сваё нацыянальнае вызваленне, але таксама і яе ролю ў барацьбе народаў беларускага і польскага за сацыяльнае разняволенне.

Урачыстае адзначэннė 40-годдзя Беларускай сялянска-работніцкай грамады пачалося акадэміяй, якая адбылася 26 чэрвеня 1965 г. у зале кінатэатра прафсаюзаў. У акадэміі прынялі ўдзел: I сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч, старшыня ВРН С. Жмійка, намеснік старшыні ВК ЗСЛ Я. Чапля, старшыня ВК СД Р. Бартнік і іншыя прадстаўнікі ваяводскіх

і мясцовых улад, а таксама члены Прэзідыума нашага таварыства. На акадэмію былі запрошаны былыя дзеячы Грамады з Беластоцкага ваяводства. Сярод гасцей сустракаем былога дзеяча КПЗБ, зараз намесніка дырэктара Інстытута гісторыі партыі ЦК ПАРП — Ю. Кавальскага, былых дзеячоў Г. Смоляра і генерала С. Малько. Прынялі таксама ўдзел заснавальнікі і дзеячы НПХ, паплечнікі па супольнай барацьбе А. Фідаркевіч і Ф. Галавач. Адкрыў акадэмію І сакратар ГК ПАРП Ю. Трусевіч. З дакладам выступіў кіраўнік аддзела прапаганды ВК ПАРП В. Авер.

У летні перыяд БГКТ арганізавала ва ўсіх аддзелах фестыны, прысвечаныя гэтай гадавіне, чыталіся даклады для насельніцтва, 18 верасня 1965 года ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрылася выстаўка п. з. «Беларуская сялянска-работніцкая грамада». Выстаўку адкрыў сакратар ВК ПАРП Вітальд Мікульскі. У сваёй прамове ён, між іншым, сказаў: «Выстаўка гэтая з'яўляецца важным звяном праграмы ўрачыстасцей 40-ой гадавіны стварэння Грамады, сведчыць аб нашых адносінах і ролі, якую ў гісторыі польскага рэвалюцыйнага руху адыграла гэта арганізацыя». Выстаўка пабывала ў Гайнаўцы, Бельску і Сямяцічах, выклікаючы вялікае зацікаўленне грамадства.

ГП БГКТ супольна з ВК ПАРП арганізавалі 27 кастрычніка папулярна-навуковую сесію, прысвечаную Грамадзе. На сесію прыехалі госці з БССР: Ніна Каменская — загадчык інстытута гісторыі АН БССР, Піліп Пестрак — вядомы пісьменнік, дзеяч Грамады, і Мікалай Арэхва — былы дзеяч КПЗБ, зараз навуковы супрацоўнік інстытута Гісторыі АН БССР, вядомыя дзеячы Грамады і КПЗБ і прадстаўнікі ўлад, успамянутыя раней пры папярэдніх урачыстасцях. Старшынёй сесіі быў сакратар прапаганды ВК ПАРП Вітальд Мікульскі.

Аб гістарычнай ролі Грамады ў барацьбе беларускага і польскага народаў за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ў сваім дакладзе гаварыў тав. Кавальскі. Б. Нікіцюк расказаў аб дзейнасці Грамады на Беласточчыне.

Ніна Каменская шырока паінфармавала ўдзельнікаў сесіі аб працах савецкіх вучоных, прысвечаных дзейнасці Грамады. Супрацоўніцтва КПЗБ з Грамадой прадставіў Мікалай Арэхва. Аб суадносінах Грамады, КПЗБ і КПП гаварыла Аляксандра Бергман. З выступлення Альфрэда Фідаркевіча ўдзельнікі сесіі даведаліся аб бурных пасяджэннях Сейма пасля разгрому Грамады і арышту яе кіраўніцтва.

З выступлення П. Пестрака выдзяляецца асабліва ўспамін пра бурную дэманстрацыю ў Косаве ў абароне Грамады.

З выступлення Аляксандра Жданюка варта адзначыць тое, што ў вёсцы Астроўцы, Дуброўскага павета, ён паказаў працу нізавых звенняў Грамады.

Аляксандр Баршчэўскі прадставіў постаць кіраўніка Грамады і эвалюцыю яго поглядаў.

Аб росквіце паэзіі грамадоўскага перыяду гаварыў Віктар Швед.

Уладзімір Юзвюк прадставіў гісторыю гуртка Грамады ў Трасцянцы.

Дыскутанты закранаді таксама пытанні прадаўжальнікаў ідэй Грамады — беларускага пасольскага клуба «Змаганне» і Таварыства беларускай школы. Матэрыялы сесіі будуць апублікаваны ВК ПАРП у Беластоку.

Трэба яшчэ адзначыць, што «Ніва» апублікавала шэраг матэрыялаў, прысвечаных Грамадзе. Штатныя працаўнікі і актыў правялі шэраг гутарак, дакладаў, прысвечаных гэтай гадавіне. Зараз збіраюцца ўспаміны былых дзеячоў і матэрыялы аб дзейнасці гурткоў Грамады на Беласточчыне для зборніка, які рыхтуе ГП БГКТ.

Да 40-годдзя разгрому «Грамады»

## БЕЛАРУСКАЯ СЯЛЯНСКА-РАБОТНІЦКАЯ ГРАМАДА (1925—1927)

Беларуская сялянска-работніцкая грамада як грамадска-палітычная арганізацыя кіравала барацьбой за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне Заходняй Беларусі і здабыла на працягу кароткага перыяду сваёй дзейнасці вялікія ўплывы сярод сялян, рабочых, а таксама беларускай інтэлігенцыі.

Пачаткам заснавання Грамады лічыцца 24 чэрвеня 1925 г., гэта значыць дата стварэння асобнага сеймавага клуба Беларускай сялянска-работніцкай грамады пад кіраўніцтвам Браніслава Тарашкевіча.

Гэтую ж назву прыняла створаная некалькі месяцаў пазней масавая арганізацыя.

У апрацаваных у другой палове 1925 года праграме і статуце на першае месца ставіліся ідэі барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, а таксама патрабаванне самавызначэння народаў і злучэння ўсіх беларускіх зямель у адну незалежную рэспубліку пад уладай сялян і рабочых.

Шырока разглядаліся ў праграме патрабаванні дэмакратычнага характару: школа на роднай мове, аддзяленне царквы ад дзяржавы, скарачэнне часу вайсковай службы, скаса-

ванне кары смерці, пашырэнне рабочага заканадаўства, абароны спецыяльных дасягненняў рабочага класа і іншыя.

Апрача гэтага ставіліся патрабаванні ліквідацыі асадніцтва, знясення палявых судоў, сапраўднага раўнапраўя ўсіх грамадзян.

Трэба таксама падкрэсліць, што Грамада ўказвала на неабходнасць супольнай барацьбы польскіх і беларускіх рабочых і сялян.

Ад моманту стварэння Грамады як арганізацыі назіраецца масавы і хуткі рост колькасці яе гурткоў і членаў. І так у чэрвені 1926 года налічвалася 19 гурткоў і 569 членаў, у верасні 1926 г. — 1062 гурткі і 30828 членаў, у пачатку снежня 1926 г. — 1720 гурткоў і 66996 членаў у 27 паветах. На Грамаду ад яе заснавання рабіліся нападкі санацыйных улад. Нягледзячы аднак на здзекі і рэпрэсіі, рады арганізацыі пашыраліся, каб у канцы 1926 года дасягнуць каля 100 000 членаў.

Дынамічны рост Беларускай сялянска-работніцкай грамады і яе ўзрастаючае значэнне выклікалі непакой польскіх пануючых класаў, асабліва на ўсходніх крэсах. Віленскія рэакцыйныя часопісы пачалі антыграмадаўскую кампанію. У лістападзе 1926 года эндэцкі клуб у Сейме ўнёс прапанову аб неадкладнай ліквідацыі Грамады.

Уступам да ліквідацыі Грамады былі рэпрэсіі і правакацыі. Па гэтай прычыне многа павятовых з'ездаў не адбылося, павятовы з'езд у Старым Беразове паліцыя і асаднікі сілай разагналі, падобным чынам быў сарваны з'езд у Саколцы.

Ноччу з 14 на 15 студзеня 1927 года былі арыштаваны кіраўнікі Грамады Бр. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, П. Валошын. Адначасова праводзіліся арышты вядомых гарадскіх і вясковых дзеячоў, рэвізіі ва ўсіх памяшканнях арганізацыі, ТБШ і іншых. З гэтага часу ўлады адносіліся да Грамады як да нелегальнай арганізацыі. Гэта аднак не спыніла яе росту.

У момант разгрому 15 студзеня 1927 года Грамада аб'ядноўвала 100 тысяч асоб, а ўжо ў момант ліквідацыі сакратарыята налічвалася 117 тысяч членаў.

Пратэстуючы супроць арышту правадыроў Грамады, беларускае насельніцтва праводзіла масавыя мітынгі і дэманстрацыі, збіраліся подпісы і г. д.

У абароне Грамады выступіла Камуністычная партыя Польшчы і польскі пралетарыят, пратэставала ўся Еўропа.

Значэнне БСРГ перш за ўсё ў тым, што была яна адной з найбольш масавых рэвалюцыйных арганізацый у Польшчы. Скрыжаванне ў праграме Грамады поглядаў камуністаў і радыкальнага крыла беларускага нацыянальна-вызваленчага руху стварыла адну з найбольш прагрэсіўных, дэмакратычных і рэвалюцыйных праграм сярод тагачасных арганізацый у Польшчы. Грамада была адным з найбольшых дасягненняў рэвалюцыйнага руху ў міжваенны перыяд.

Браніслаў Тарашкевіч, выступаючы перад судом, сцвердзіў, што гістарычную заслугу Грамады бачыць у тым, што яна ўскалыхнула масы і ўзняла іх на барацьбу. «Беларускі народ абудзіўся — заявіў ён, — і рабом не астанецца...»

## ШКОЛЬНАЯ СПРАВА І БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧЫ РУХ

### 1. Школьная справа да пачатку XX ст.

У выніку спецыфічнай палітычнай і грамадскай сітуацыі беларускага народа справа беларускай школы займала асаблівае месца ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе.

Ідэя беларускай школы не выводзілася з гістарычнай традыцыі. У школах, якія існавалі ў часы Рэчы Паспалітай, лекцыі чыталіся на царкоўна-славянскай мове. Паступова, асабліва пасля пастановы Сейма ад 1697, якая ўвяла польскую мову як урадавую на абшары былога Вялікага Літоўскага княства, школы ператвараюцца ў польскія. Пасля падзелу Польшчы на абшары Беларусі побач з нешматлікімі польскімі школамі, якімі кіравалі перш за ўсё ўніяцкія духоўныя, узнікаюць рускія школы.

Пасля паражэння лістападаўскага паўстання, а асабліва пасля скасавання ўніі (1839 г.), руская мова становіцца лекцыйнай ва ўсёй Беларусі. Школ у гэтым часе мала, а для сялянскіх мас яны амаль што недаступныя. Яшчэ ў канцы XIX ст. 77% насельніцтва Беларусі непісьменная. Паколькі школы існавалі перш за ўсё ў гарадах і мястэчках, непісьменнасць на вёсцы была ўсеагульнай. А якраз вясковае насельніцтва і адчувала сябе беларускім.

Для пашырэння асветы неабходным было ўвядзенне ў школах навучання на роднай мове. Не дапускаў да гэтага царызм, які бязлітасна знішчаў усё, што беларускае. Сама забарона друкавання беларускіх кніжак, уведзеная пасля студзеньскага паўстання (1864 г.), пазбаўляла беларускую школу магчымасці існавання.

Царскія ўлады і пасля адмены гэтай забароны — у выніку рэвалюцыі 1905 г. — не змянілі сваіх варожых адносін да справы беларускіх школ. Таму становіцца яна адным з асноўных патрабаванняў Беларускай сацыялістычнай грамады. Нездарма праблема беларускіх школ была пастаўлена на парадку дня сялянскай партыяй, як трапна

акрэсліў Ленін, лева-эсэраўскага напрамку[1]). Іншай партыі, якая б мела беларускі нацыянальны характар, на Беларусі не было, паколькі іншы клас, які б меў гэткі характар, на Беларусі не існаваў. Памешчыкі на Беларусі былі ў асноўным палякамі, а часткова рускімі. Насельніцтва гарадоў складалася з палякаў, яўрэяў, рускіх, і адносна невялікая яго частка чулася беларусамі. Беларускі пралетарыят з'яўляўся малой часткай гарадскога пралетарыяту і ўступаў у рады РСДРП, якая, высоўваючы лозунг сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення працоўных, не магла займацца праблемамі, якія датычыліся паасобных народаў. Гэтыя справы вырашаліся нацыянальна-вызваленчым рухам, рухам, які меў характар буржуазна-дэмакратычны і з'яўляўся саюзнікам пралетарыяту.

Пасля 1905 г. Беларуская сацыялістычная грамада пачала падрыхтоўку кадраў беларускіх настаўнікаў. Справай гэтай займаецца Якуб Колас, якому ўдаецца нават склікаць з'езд беларускіх настаўнікаў. Дзейнасць яго была выкрыта, і ён з іншымі настаўнікамі апынуўся ў крэпасці.

Грамада звярнула ўвагу на настаўніцкія семінарыі, дзе арганізуюцца гурткі беларускай моладзі. Гэта дзейнасць сустракаецца з рэпрэсіяй улад, якія выключаюць з семінарыі шмат вучняў (так было ў Маладзечне, Полацку, Свіслачы і Панявежы).

## 2. Беларуская школа ў час вайны і Сярэдняй Літвы

Першыя беларускія школы ўзнікаюць пасля эвакуацыі рускіх войск з беларускіх зямель. У 1915 годзе была арганізавана першая беларуская школа ў Вільні, у наступным годзе адкрываецца яшчэ пяць школ, а ў 1917 г. колькасць беларускіх школ узрастае да 153. Адкрываюцца настаўніцкія курсы ў Вільні і настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы[2]).

Польскія буржуазна-памешчыцкія ўлады ад самага пачатку варожа аднесліся да беларускага нацыянальнага руху. Пілсудскі неаднаразова гаварыў аб уступках у галіне культурнага развіцця беларусаў, але гэта былі толькі прыгожыя словы. А якая была рэчаіснасць, яскрава пісаў В. Іваноўскі ў мемарыяле з 16. III. 1920 г.

«Пашанаванне праў беларускай мовы ў галіне адміністрацыі зводзіцца да нуля». Нават у Мінску «не прымаюць прашэнняў, напісаных па-беларуску[3]).

[1]) Ленін, т. 20, выд. IV, ст. 84

[2]) 1. Archiwum Zakładów Historii Partii „Zarys ruchu białoruskiego" — Okręgowy zarząd polit. przy KPP Okręgu XII Wileńskiego.
2. «Голас Беларуса» № 4 з 1924 г. «На руінах беларускай школы».
3. «Новае жыццё» № 12 з 1923 г. «Жыццё і праца І. Луцкевіча».



Пасля ўтварэння Сярэдняй Літвы пачаткова ўлады спрабавалі захоўваць вонкавы выгляд пашанавання нацыянальных імкненняў беларусаў.

Нягледзячы на незычлівыя адносіны кіруючых колаў Сярэдняй Літвы, якія ў большасці складаліся з ускраінных памешчыкаў, на абшарах Віленскага і Ашмянскага паветаў узнікае звыш 200 школ і настаўніцкая семінарыя ў Барунах. Пад націскам памешчыкаў, якія пачуліся абражанымі, што «хамская мова чуваць у мурах Адынца і Ходзькі», семінарыя была хутка закрыта[4]).

## 3. Беларуская школьная справа ў першыя гады незалежнай Польшчы

Пасля далучэння да Польшчы заходніх беларускіх зямель на гэтай тэрыторыі было 359 дзяржаўных школ[5]).

Па меры ўмацавання польскай улады на тэрыторыі Віленскай акругі беларускія школы паступова замяняюцца польскімі. Гэта выклікае пратэсты бацькоў і пасіўнае супраціўленне, якое праяўлялася ў тым, што яны не пускалі дзяцей у польскую школу.

У беларускіх часопісах з таго часу ёсць шмат цікавых інфармацый аб ходзе гэтай барацьбы. Прыкладам можа быць карэспандэнцыя з вёскі Запруддзе, Валожынскага павета, пад загалоўкам: «Школы нам не даюць», змешчаная ў № 3 часопіса «Наша Будучыня», якая гаворыць, што сяляне гэтай вёскі прыкладалі ўсе старанні, каб адчыніць беларускую школу, але наперакор ім была адчынена польская школа. Дзякуючы гэтаму амаль што ўсе дзеці засталіся без навукі, бо бацькі іх у польскую школу не пусцілі. Валасная рада аб беларускай школе прыняла пастанову, староста зацвердзіў.

Але валожынскі інспектар адмовіўся прыняць заяву. Адмовіў таксама пасведчання для настаўніка Шаўлюка, які хацеў адчыніць прыватную школу.

З № 1 часопіса «Змаганне» з 1923 года даведваемся, што школьны інспектар Дзесненскага павета пагражаў настаўніку Чэрапу, што будзе сурова пакараны, калі адчыніць беларускую школу ў вёсцы Малькавічы. Там жа чытаем, што сяляне Бельскага павета не пасылаюць

[4]) «Голас Беларуса» № 4 з 1924 г.

[5]) Гэтыя дадзеныя нязначна адбягаюць ад тых, якія прыводзіць Сракоўскі ў сваёй працы «Sprawy narodowościowe na terenach wschodnich», Kraków 1924, які падае круглую лічбу — 350 школ. У лічбе 514 беларускіх школ, паданых № 15 «Przeglądu wileńskiego z 1926 і звыш 500 школ, аб якіх успамінае мемарыял ТБШ і БІГіК з 1936 года, знаходзяцца як дзяржаўныя так і прыватныя школы. Таму лічба 359 дзяржаўных школ з'яўляецца найбольш аўтарытэтнай. Яна ўзята з беларускіх выдавецтваў, кіраваных тымі ж коламі, якія кіравалі акцыяй барацьбы за беларускую школу

дзяцей у польскую школу, і гэта змусіла ўлады да спынення навучання ў шасці школах, што лідскі школьны інспектар пагражаў карамі сялянам, якія дамагаліся беларускіх школ.

У № 2 часопіса «Змаганне» чытаем, што ў гміне Юрацішкі ёсць дзве школы і тыя хутка зачыняюцца, бо дзеці па-польску не разумеюць і ў школы не ходзяць.

№ 4 «Змагання» паведамляе, што ў вёсцы Гародзькі, Вілейскага павета, у польскую школу хадзіла 3-ое дзяцей, а ў беларускую — 70, аднак інспектар не хоча даць беларускай школе другога настаўніка. У вёсцы Бабровічы, Валожынскага павета, ліквідавана беларуская школа, у якую хадзіла каля 100 дзяцей. У польскую школу, якая была адкрыта замест беларускай, хадзіла толькі 15—20. Паліцыя здзекавалася над беларускімі настаўнікамі.

З № 5 «Змагання» даведваемся, што школьны інспектар у Валожыне (Страчынскі) адкрывае польскія школы ў беларускіх вёсках і не дапускае да існавання беларускіх. Дзякуючы гэтаму школы пустуюць. У вёсцы Гародзькі на дзве настаўніцы прыпадае пяць дзяцей, а калі была беларуская школа, хадзіла 70 вучняў. Гэты ж інспектар не зацвердзіў беларускіх школ у Велькім Запруддзі, Гаркавічах, Касцелічах, Лістападах, Дайнаве і Гарадзешні. Прыватныя школы былі перапоўнены вучнямі, але іх ліквідавала паліцыя. У Ганькавічах паліцыя турбуе настаўніцу. У Валожыне ўзнікла прыватная школа, але мясцовыя ўлады яе ліквідавалі. У вёсцы Зачэпічы, Лідскага павета, улады зачынілі прыватную школу, тлумачачы тым, што вучыць можна толькі па-польску.

«Новае жыццё» ў № 12 з 1923 г. піша, што бацькі каля 100 дзяцей падалі войту прашэнне на беларускую школу — у вёсцы Жадзёлы, Пружанскага павета. Войт пагражаў паліцыяй і арыштам.

У № 13 гэтага часопіса чытаем, што жыхары вёсак Навасёлкі, Кубяльнікі і Пяскі, Гарадзенскага павета, падпісалі заяву і атрымалі дазвол ад інспектара на заснаванне беларускай школы. Ксёндз не дазволіў, бо верхаводзіў у гміне. Інспектар паслухаў ксяндза і нават не зацвердзіў настаўніцу на прыватную школу.

Нягледзячы на вострую барацьбу за беларускую школу, колькасць школ пастаянна памяншаецца і даходзіць паводле афіцыяльных даных за 1923/24 год да 64. Іншыя школы праследуюцца мясцовымі ўладамі, у сапраўднасці многія з гэтых школ былі школамі ўтраквістычнымі (двухмоўнымі). Фактычна толькі 29 школ можна было лічыць беларускімі[6]).

Усе гэтыя школы былі закрыты або зменены на ўтраквістычныя ў школьным годзе 1924/25.

Барацьба за беларускую школу з'яўлялася адной з цэнтральных задач, якія знаходзіліся ў праграме дзейнасці Беларускага пасольскага клуба.

---

[6]) Мемарыял ТБШ і БІГіК да Старшыні Рады Міністраў, Беларускі каляндар на 1963, стар. 92.



Характэрна, што хаця патрабаванні гэтага клуба былі вельмі скромныя, яны не знаходзілі зразумення ў Сейме. Напрыклад, у пісьме, накіраваным на адрас Мін. ВіОП, клуб высоўваў патрабаванні:

1. Не ставіць перашкод пры адкрыцці прыватных беларускіх пачатковых і сярэдніх школ.

2. Прыняць на кошт дзяржавы беларускія пачатковыя школы, якія налічваюць звыш 40 вучняў.

3. Школьныя інспектары павінны на працягу аднаго тыдня даваць адказ у справе дазволу на адкрыццё беларускай школы.

4. Беларускія настаўнікі пасля заканчэння курсаў у Кракаве павінны атрымаць працу на беларускіх тэрыторыях.

5. Заснаваць беларускую настаўніцкую семінарыю.

6. Субсідзіраваць сярэднія беларускія школы нароўні з польскімі.

Аўтар працы «Зарыс беларускага руху» з 1924 г., прызначанай да ўжытку паліцыі ў Вільні, з сарамлівасцю гаворыць аб тым, што Сейм і ўрад збылі маўчаннем гэту дэкларацыю.

Пасля ўпадку ўрада Вітаса ў часе канферэнцыі з мін. Тугутам старшыня Беларускага пасольскага клуба Тарашкевіч высунуў патрабаванні:

1. Стварыць замест школьных кураторый у Навагрудку і Вільні адну школьную акругу, у якой намеснікам куратара быў бы беларус.

2. У Навагрудскім ваяводстве школьнымі інспектарамі павінны стаць беларусы.

3. Неадкладна адкрыць 100 беларускіх школ.

4. Адкрыць дзве беларускія настаўніцкія семінарыі і адну дзяржаўную гімназію.

І гэтыя патрабаванні засталіся без водгуку.

## 4. Праўная сітуацыя беларускіх школ

Ліквідуючы беларускія школы і не дапускаючы да ўзнікнення новых, улады рабілі выгляд, што робяць гэта згодна з абавязваючым правам. Яны то спасылаліся на тое, што памяшканне неадпаведнае, хаця пасля ліквідацыі беларускай школы ў гэтым жа памяшканні адкрывалі польскую, то спасылаліся на адсутнасць кваліфікаваных настаўнікаў, хаця настаўнікам — беларусам, якія не маглі знайсці працы на бацькаўшчыне, давалі працу ў цэнтральнай Польшчы. Найчасцей улады спасылаліся аднак на адсутнасць праўнага ўрэгулявання праблемы школ для нацыянальных меншасцей.

Справу асноўвання і ўтрымання пачатковых школ на тэрыторыі ўсёй дзяржавы рэгуляваў закон з 17 лютага 1922 г. Паводле гэтага закону, усе выдаткі на навуковыя дапаможнікі, абсталяванне бібліятэк і школьныя друкі пакрывае дзяржава. Іншыя патрэбы пакрывалі гмі-

ны. Закон адносіўся да польскіх школ, а адносна школ на мовах нацыянальных меншасцей — ён у арт. 18 адклікаўся да асобнага закону.

Улады не спяшаліся з прыняццем гэтага закону. Затое 18 артыкул даваў магчымасць змагацца з беларускай школьнай справай у арэоле права. Пры гэтым поўнасцю ігнараваліся як міжнародныя пастановы, так і ўласная канстытуцыя.

Вярсальскі трактат абавязваў Польшчу трактаваць аднолькава ўсіх грамадзян, нягледзячы на расу, мову і веравызнанне.

«Недапушчальна ніякае абмежаванне свабоднага карыстання польскімі грамадзянамі якой-небудзь мовай у прыватных і гандлёвых адносінах, а таксама ў рэлігійных і праўных справах, ва ўсякіх публікацыях і на публічных сходах», — гаварылася ў трактаце.

Нягледзячы на ўстанаўленне польскім урадам урадавай мовы, польскім грамадзянам, якія карыстаюцца іншай мовай, павінны быць зроблены палягчэнні ў судах у паслугоўванні іх мовай у гутарцы і пісанні (арт. 7).

Польскія грамадзяне, якія належаць да этнічных, рэлігійных або моўных меншасцей, будуць карыстацца такім самым абыходжаннем і такімі ж праўнымі і фактычнымі гарантыямі, як і іншыя польскія грамадзяне. Менавіта, будуць мець роўнае права асноўваць, вясці і кантраляваць сваім коштам дабрачынныя, рэлігійныя і грамадскія установы, школы і іншыя прадпрыемствы, а таксама права свабоднага карыстання ў іх сваёй мовай і свабоднага выконвання ў іх рэлігійных практык (арт. 8).

У арт. 1 трактату Польшча абавязалася, што правы, гарантаваныя карыстаюцца іншай, чым польская, мовай, польскі ўрад зробіць у справах публічнага навучання адпаведныя палягчэнні, каб забяспечыць у пачатковых школах навучанне дзяцей гэткіх польскіх грамадзян на роднай мове (арт. 9).

У арт. 1 трактату Польшча абавязалася, што правы, гарантаваныя меншасцям, а асабліва ў арт. 7 і 8, «будуць прызнаны асноўнымі правамі, і ніякі закон, ніякае распараджэнне, ані ўрадавая дзейнасць не будуць нязгоднымі з гэтымі пастановамі, і ніякі закон, ніякае распараджэнне, ані ўрадавая дзейнасць не можа мець нязгодна з імі моцы».

Канстытуцыя з 17 сакавіка 1921 г. захоўвала асцярожнасць у гарантыях праў меншасцям і абмяжоўвалася да некалькіх агульных фраз.

Арт. 96 запэўніў роўнасць праў усім грамадзянам. Арт. 109 абвяшчаў, што «кожны грамадзянін мае права захаваць сваю нацыянальнасць, родную мову і нацыянальныя асаблівасці. Асобныя законы забяспечаць меншасцям у Польскай дзяржаве поўнае і свабоднае развіццё іх нацыянальных асаблівасцей пры дапамозе аўтанамічных саюзаў меншасцей публічна-праўнага характару ўнутры саюзаў агульнага самаўраду».

Арт. 110 гаварыў, што польскія грамадзяне, якія належаць да нацыянальных, рэлігійных або моўных меншасцей, маюць роўнае з іншымі



грамадзянамі права асноўвання, надзору і вядзення на свой кошт дабрачынных, рэлігійных і грамадскіх установ, школ і іншых выхаваўчых установ і свабоднага ўжывання ў іх сваёй мовы і выканання правіл сваёй рэлігіі.

Версальскі трактат накладаў на Польшчу абавязак гарантавання праў меншасцям. Гэты абавязак даваў магчымасці меншасцям дамагацца сваіх праў. Аднак выкананне гэтага абавязку залежала ад самой дзяржавы. Таму нязгодная з пастановамі Версальскага трактату практыка польскіх улад, якія ліквідавалі і тыя беларускія школы, што існавалі дагэтуль, не выклікала ніякага водгуку сярод дзяржаў, якія трактат ратыфікавалі.

Пастановы трактату аб дзяржаўных школах з нацыянальнай мовай меншасцей не з'яўляюцца адназначнымі. Арт. 1 трактату не ўспамінае сярод асноўных праў тых, якія месцяцца ў арт. 9 трактату. Канстытуцыя не гаворыць аб гэтым ані слова. Паколькі закон, які рэгулюе школьную справу, аб справе школьніцтва нацыянальных меншасцей маўчыць, стварылася такая сітуацыя, якую, безумоўна улічвалі ўлады, што справа гэта законам не ўрэгулявана; на гэта ахвотна спасылаліся прадстаўнікі мясцовых улад, якія, як правіла, варожа адносіліся да нацыянальных школ. Гэтым тлумачыцца барацьба беларускага насельніцтва за праўнае ўрэгуляванне гэтай справы, барацьба, у выніку якой выдадзены быў закон з 31 сакавіка 1924, змяшчаючы некаторыя пастановы аб арганізацыі школ.

Змест гэтага закону супярэчлівы з канстытуцыяй і ўводзіць дыскрымінацыю нацыянальных меншасцей.

Дзейнасць закону распасціралася на тэрыторыю Віленскага, Навагрудскага і Пінскага ваяводстваў і Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў Беластоцкага ваяводства. Аднак гэтым законам не было ахоплена насельніцтва ўсіх іншых тэрыторый, на якіх знаходзілася значная колькасць беларусаў, а асабліва большая частка Беластоцкага ваяводства. Таму на гэтых абшарах нельга было адкрываць нават прыватнай школы з беларускай мовай.

Далейшае абмежаванне адносіцца да школьных акруг на тэрыторыі гмін, у якіх паводле афіцыяльных статыстык, было менш 25% беларускага насельніцтва. У гэтых гмінах не магла быць заснавана беларуская школа, хаця б тут знаходзілася некалькі вёсак з насельніцтвам выключна беларускім. Калі ўзяць пад увагу свядомае фальшаванне гэтай статыстыкі, то і на тэрыторыі вышэй пададзеных ваяводстваў і паветаў у многіх мясцовасцях закон не дазваляў асноўваць беларускія школы.

Яшчэ большыя абмежаванні ўводзіла распараджэнне міністра веравызнанняў і публічнай асветы ў справе выканання закону з 31 ліпеня 1924 г., паводле якога беларуская школа магла быць адкрыта толькі ў школьнай акрузе, у каторай бацькі прынамсі 40 дзяцей пададуць прашэнні (дэкларацыі) аб навучанні іх дзяцей на беларускай мове;

школа не магла быць адкрыта нават, калі б не хапала адной дэкларацыі. Затое, калі ў акрузе было нават 100 дзяцей, бацькі якіх патрабавалі школы з беларускай мовай, а знайшліся бацькі 20 дзяцей, якія б хацелі толькі польскай школы, школа павінна быць пераменена на ўтраквістычную. І тут былі шырокія магчымасці перашкаджаць у арганізаванні беларускіх школ пад маркай законнасці.

Трапна ахарактарызаваў гэтыя тэндэнцыі закону пасол Тарашкевіч у часе спрэчак у Сейме перад яго прыняццем, «Можаце сабе ўявіць панове, якая гэта будзе дасціпная начартальная геаметрыя, якую спрытныя інспектары прыменяць да школьных акруг. Панове міністры, напэўна, задбаюць аб тым, каб арганізаваць спецыяльныя інструктарскія курсы з гэтай мэтай, а кіраўніцтва тых курсаў для гонару трэба было б аддаць пану Станіславу Грабскаму».

## 5. Барацьба за беларускую школу пасля прыняцця закону з 31 ліпеня 1924 года

Хаця справа беларускіх школ была ўрэгулявана па закону, адносіны ўлад да асветы на мовах меншасцей не змяніліся.

Пад маркай, што маюць быць адкрыты беларускія школы згодна з законам з 31 ліпеня 1924 г., былі закрыты апошнія беларускія школы або ператвораны ва ўтраквістычныя. Гэтых апошніх было толькі 18 і былі яны ўтраквістычнымі толькі знешне, бо фактычна былі гэта польскія школы. Захавалася толькі адна беларуская школа ў Гродне.

У Гродзенскім павеце ліквідацыя беларускіх школ адбывалася такім чынам: па загаду школьнага інспектара паліцыя выкідала са школьных будынкаў настаўнікаў беларускай школы і перадавала будынкі школьным уладам, якія асноўвалі там польскую школу[7]).

Новыя беларускія школы не адкрываліся. Адмаўляючы на просьбы беларускага насельніцтва, улады апраўдваліся тым, што не выданы выканаўчыя правілы.

7 студзеня 1925 года было апублікавана распараджэнне міністра верывызнанняў і публічнай асветы ў справе выканання закону з 31 ліпеня 1924 г. Зацяжка з яго выданнем не была выпадковай. § 10 распараджэння азначае тэрмін складання дэкларацый да 31 снежня з сапраўднасцю на найбліжэйшы школьны год. Таму адкрыццё беларускай школы, згодна з законам, магло адбыцца толькі ў 1926—1927 школьным годзе.

Распараджэнне ўстанаўлівае форму дэкларацыі і розныя правілы, якія перашкаджалі выконванню фармальнасцей, патрэбных для адкрыцця беларускай школы. На кожнае дзіця трэба было здаць асобную дэкларацыю з подпісамі бацькі або маткі, пацверджаную натарыусам,

[7]) «Ніва» № 7 з 1925 г.



судом, гмінай або староствам. Распараджэнне не прадугледжвала аднак такога пацвярджэння пры патрабаванні навучання па-польску.

Пацверджаныя дэкларацыі перасылаліся школьнаму інспектару, які з сваёй прапановай пераказваў іх куратару. Куратар паведамляў аб сваім рашэнні толькі аднаму з тых, што злажылі дэкларацыі, а таксама вывешваўся адказ у гміне. У гэтай сітуацыі лёгка магло здарыцца, што патрэбны для падавання скарг да міністра чатырнаццаціднёвы тэрмін мог прайсці незаўважаным нават зацікаўленымі.

Пасля публікацыі закону з 31 ліпеня 1924 г. і выканаўчага распараджэння барацьба за беларускую школу канцэнтруецца на акцыі складання дэкларацый. Гэтую акцыю імкнуліся паралізаваць адміністрацыйныя ўлады ад найніжэйшых да вярхоўных дзяржаўных органаў уключна.

Адміністрацыйныя ўлады забаранялі склікаць сходы, на якіх бы ставіліся справы стварэння беларускай школы, застрашвалі ініцыятараў і прымянялі рэпрэсіі аж да арышту ўключна.

Напрыклад, калі солтысы вёсак Адамовічы і Горавічы Маладзечанскага павета звярнуліся ў гміну з просьбай дазволіць правесці сход гмінны сакратар аблаяў іх бальшавікамі і пагражаў паліцыяй[8]). Прадстаўнік вёскі Лашаўцы, Гарадзенскага павета — Боліцкі быў арыштаваны за старанні адкрыцця беларускай школы[9]).

Перашкоды, якія ставіліся пры складанні дэкларацый, вобразна апісвае мемарыял ТБШ і ВІТІК, накіраваны да старшыні Рады Міністраў у 1936 г.:

«Падпісаныя заявы з патрабаваннем беларускіх школ неабходна недзе пацвердзіць. Толькі войт можа гэта зрабіць дарма. Войт аднак ніколі не мае часу, ніколі няма яго дома. Замест войта ў гміне петэнтаў сустракае передавая паліцыя: «А вы чаго? Камунізма вам хочацца? А мандаты карныя ўжо аплацілі?» Сяляне вяртаюцца дадому. З прадстаўніком паліцыі лепш не сустракацца. Прыйдзем іншым разам»[10]).

Камендант паліцыі ў Давыдаве, Лідскага павета, патаптаў і спаліў заявы, падпісаныя сялянамі вёскі Альхоўка, Пудзіны і Васілевічы, і пагражаў арыштам тым, хто стараецца адкрыць беларускую школу. Некаторыя бацькі былі пакараны мандатамі карнымі па 10 зл. за падпісанне заявы[11]).

У дэлегата вёскі Бакуны, Ваўкавыскага павета, войт вырваў заявы, кінуў пад ногі, стаптаў, пагражаючы сялянам турмой. У вёсцы Стара-

[8]) «Сялянская праўда» № 7 з 1924 г.
[9]) «Сялянская праўда» № 12 з 1924 г.
[10]) Беларускі каляндар з 1963 г., стар. 95.
[11]) «Сялянская праўда» № 19.

воля, Ваўкавыскага павета, паліцыя праводзіла вобыскі і застрашвала сялян, якія падалі заявы[12]).

Характарызуючы акцыю складання дэкларацый, пасол Тарашкевіч у прамове з 16 лістапада 1926 г. гаварыў: «Калі на аснове моўных законаў селянін складаў дзесяткі тысяч заяў, то школы не атрымаў, але затое атрымаў «казу». У «казу» папалі ўсе тыя, хто падаваў заявы. Пасля падання заяў адбыліся масавыя аблавы, напрыклад, у Навагрудскім ваяводстве, дзе былі арыштаваны тысячы людзей».

Нягледзячы на перашкоды, акцыя дэкларацый праходзіла вельмі спраўна. Ужо ў студзені 1925 г. уплывае столькі заяў, колькі трэба было на 95 школ, з чаго ў Віленскім ваяводстве — 24, у Навагрудскім — 52, Палескім — 12 і Беластоцкім — 7[13]).

На працягу 1925 года было падана заяў на 482 школы[14]). Да 1928 г. былі здадзены дэкларацыі на 1929 школ[15]).

Акцыю арганізавала Цэнтральная беларуская школьная рада, кіраваная Беларускім пасольскім клубам. На яе хадатайствы ў снежні 1924 г. мін. Тугут адказаў, што ў бягучым школьным годзе ўрад не збіраецца прыступіць да стварэння беларускіх школ. Ён абяцаў у 1925/26 г.г. адкрыць 45—50 двухмоўных школ, і з гэтай мэтай мелі быць арганізаваны настаўніцкія курсы ў Быдгошчы і Кракаве. Ён станоўча адмовіў магчымасць адкрыцця дзяржавай або Цэнтральнай беларускай школьнай радай курсаў у Вільні[16]).

15 ліпеня 1926 г. Беларускі пасольскі клуб перадаў міністру ВіАП мемарыял, патрабуючы адкрыцця 412 школ, на якія былі ўжо, згодна з абавязваючым законам, паданы заявы, выдавання без перашкод дазволаў на адкрыццё прыватных школ, заснавання дзвюх настаўніцкіх семінарый, прызнання матэрыяльных правоў беларускім прыватным гімназіям у Вільні, Навагрудку, Клецку і Радашковічах і адкрыцця беларускага гуманітарнага факультэта пры ўніверсітэце імя С. Баторыя ў Вільні[17]).

Гэтыя патрабаванні былі падтрыманы Галоўнай управай ТБШ, якая на спецыяльнай канферэнцыі прыняла рэзалюцыю, пераслалую на адрас старшыні рады мін. Бартля.

Пасля майскага перавароту ТБШ накіравала да маршала Пілсудскага адкрытае пісьмо, у якім падсумавала бяспраўе і самавольства адміністрацыйных улад і высунула патрабаванне прытрымлівацца закону з 31 ліпеня 1924 г. У пісьме было паказана, што той, хто складае заяву, сустракаецца з адпорам улад. Войты адмаўляюцца сцвярджаць подпісы, тлумачачы гэта або забаронай з боку вышэйшых улад[18]), або адсутнасцю распараджэння, а часамі патрабуючы метрыкі дзяцей або аплаты за сцвярджэнне подпісу. Не памагло распараджэнне міністра ўнутраных спраў з 1925 г., якое загадвала сцвярджаць подпісы на заявах без перашкод і бясплатна. Войты сабатуюць гэта распараджэнне, а паліцыя адбірае і паліць заявы, тэрарызуе насельніцтва, праводзіць масавыя вобыскі, а часамі, пераапрануўшыся, вымантачвае іх, падаючыся за інспектара, прадстаўніка Беларускага пасольскага клуба або ТБШ. Абыякава адносяцца да сваіх абавязкаў школьныя інспектары, якія пасоўваюцца нават да пагроз[19]).

Пад напорам хвалі нацыянальна-вызваленчага руху, які знайшоў сваё адлюстраванне ў магутным развіцці Беларускай сялянска-работніцкай грамады, санацыйныя ўлады пайшлі ў 1926/27 годзе на пэўныя ўступкі, ствараючы некалькі дзесяткаў беларускіх і ўтраквістычных школ. Паводле Яна Карнэцкага ў школьным годзе 1927/1928 існавала 26 школ з выключна беларускай навучальнай мовай, а 46 з паловай гадзін навучання[20]).

Паводле даных з прамовы пасла Карузы, школ з лекцыйнай беларускай мовай было 24, утраквістычных — 42, а ў 103 школах навучалася беларуская мова як прадмет. Гэтыя цыфры трэба прызнаць за аўтарытэтныя, паколькі пасол Каруза меў магчымасць атрымаць не толькі афіцыйныя даныя.

Гэта былі ўступкі для вока. У сапраўднасці ў школах, што лічыліся беларускімі, давалі працу настаўнікам — палякам, якія не зналі беларускай мовы, затое былі правераны з пункту гледжання лаяльнасці да санацыйных улад. Тыя настаўнікі часта прыкладалі нямала стараннаў, каб адбіць дзецям ахвоту да ўсяго, што беларускае, высмейвалі беларускую мову і культуру, а прадугледжанае законам з 31 ліпеня 1924 г. абавязковае навучанне па-польску геаграфіі і гісторыі было выдуманай прычынай для пашырэння гэтага абавязку на іншыя прадметы. Здаралася, што ў школе беларускай засталася толькі шыльда. Яшчэ горш было ва ўтраквістычных школах, у якіх, як гаварыў пасол Каруза, па-беларуску чыталіся лекцыі ручных работ і гімнастыкі.

Таму праўду гаворыць пасол Ярэміч, калі ў 1928 г. сцвярджае, што беларускіх школ фактычна няма, бо фактычна гэта школы польскія.

Гэтым тлумачыцца тое, што беларускія арганізацыі рашуча выступалі супраць утраквістычных школ. У мемарыяле з 15 ліпеня 1926 г. знаходзіцца катэгарычнае патрабаванне ліквідацыі ўтраквістычных

12) «Сялянская праўда» № 18.
13) «Зарніца» № 1 з 1925 г.
14) Беларуская «Ніва», № 7 з 1926 г.
15) Беларускі каляндар з 1963 г.
16) «Праўда» з 18. XII. 1924 г.
17) САМ у СДОК за 1926 г.

18) Што гэткія забароны здараліся, сведчыць прыклад войта гміны Пружаны, які быў звольнены з свайго становішча за сцвярджэнне дэкларацый.
19) «Наша справа» № 9 з 1926 г.
20) Jan Kornecki: Szkolnictwo dla mniejszości narodowych.

школ і скасаванне пастаноў, якія ўводзяць абавязак навучання па-польску геаграфіі і гісторыі.

У наступных гадах сітуацыя пагаршалася. Афіцыйныя даныя і далей падавалі колькасць існуючых беларускіх школ, аднак беларусы гэтых школ беларускімі не лічылі. Па меры ўмацнення фашысцкага ладу ўлады скідвалі маску і змянялі беларускія шыльды на польскія. Малы статыстычны гадавік з 1935 г. падае лік — 16 беларускіх школ (ст. 205), а ў 1939 г. — 2 школы. Само беларускае насельніцтва нічога аб гэтых школах не ведала.

## 6. Прыватныя школы

Паводле закону з 31 ліпеня 1924 г. прыватныя школы з лекцыйнай беларускай мовай можна было ствараць на такіх самых умовах, якія абавязвалі ў адносінах да польскіх прыватных школ. Моўныя абмежаванні, прадугледжаныя для дзяржаўных школ, абавязвалі і тут. Таму, напрыклад, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, акрамя Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў, заснаванне беларускай прыватнай школы забаранялася. Датычылася гэта і іншых ваяводстваў у мясцовасцях, у якіх афіцыйная статыстыка сцвярджала на тэрыторыі гміны менш, чымсьці 25% беларускага насельніцтва. Канцэсію на адкрыццё беларускай школы даваў куратар, а кандыдата на настаўніка і праграму навучання зацвярджаў школьны інспектар. Куратары пад рознымі выдуманымі прычынамі адмаўлялі дазволу на адкрыццё прыватных школ, а тым, што ўжо існавалі, адбіралі ліцэнзіі.

У 1924—1927 гадах ТБШ звярталася да ўлад з просьбай дазволіць адкрыць 149 прыватных школ. Дазвол быў атрыманы ў 15 выпадках. Аднак не дайшло да адкрыцця ніводнай школы, бо з некалькіх дзесяткаў кандыдатаў інспектар не зацвердзіў ніводнага[21]).

Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры ў 1926 г. злажыў прашэнне на дазвол адкрыць 18 прыватных школ. Станоўча справа была вырашана ў пяці выпадках. Аднак адкрыты былі толькі школы ў Шаўлянах, Браслаўскага павета, і ў Рудаўцы, Слонімскага павета. Ва ўсіх іншых выпадках не былі зацверджаны кандыдаты на настаўнікаў. БІГіК быў арганізацыяй, кантраляванай беларускай хрысціянскай дэмакратыяй, і таму падазраванне яго ў камунізме было яўным абсурдам.

У пачатку ліпеня 1926 г. ТБШ, Яўрэйскі цэнтральны камітэт асветы, Яўрэйская цэнтральная школьная арганізацыя і Літоўскае таварыства «Рытас» падалі супольна на рукі Старшыні Рады Міністраў мемарыял у справе прыватных школ на мовах меншасцей. Мемарыял высоўваў патрабаванні прызнаць ім дзяржаўную дапамогу, знесці абавязак старанняў аб канцэсіі штогод і прызнаць, што хаджэнне ў гэтыя школы

[21]) «Наша справа» № 6 з 1926 г.



з'яўляецца выкананнем школьнага абавязку, а таксама прызнаць ім роўныя правы з польскімі школамі[22]).

У справе гэтай звярнулася да Бартля дэлегацыя. Бартэль не хаваў свайго незадавальнення і каратка заявіў, што беларускія, яўрэйскія і літоўскія школьныя справы прынцыпова розняцца і не могуць быць разгледжаны супольна. Пасля ён адаслаў дэлегацыю да міністра асветы. Той прыняў толькі беларусаў і сказаў ім, што нават калі б хацеў, нічога не можа зрабіць[23]).

## 7. Справа сярэдніх школ

Побач з пачатковымі беларускімі школамі ўзнікалі сярэднія. Як першая на Беларусі ўзнікла гімназія ў Будзіславе. Яна была адкрыта ў снежні 1917 г. у будынку, пабудаваным сялянамі[24]). Існавала да 1920 года, калі была ліквідавана польскімі ўладамі. Каратка існавала таксама гімназія ў Віленскім Гарадку. Яна была закрыта ў 1923 годзе.

1 студзеня 1919 г. была адкрыта ў Вільні ў былых базыльянскіх мурах беларуская гімназія, якая выхавала сотні барацьбітаў за вольнасць беларусаў. Пачаткова лекцыі чыталіся па-беларуску і па-руску. Ад 1922 г. было ўведзена чытанне лекцый выключна па-беларуску. Толькі ў 1928 г. яна атрымала публічныя правы, застаючыся далей прыватнай гімназіяй. У 1932 г. яна становіцца філіялам дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Славацкага[25]).

Апрача таго, узніклі гімназіі ў Навагрудку, Несвіжы, Радашковічах. Ніводна з іх не мела дзяржаўных праў і не атрымоўвала дзяржаўнай дапамогі. З Несвіжа гімназія па загаду ўлад была перанесена ў Клецк. Вучні гэтых гімназій маглі здаваць экзамены на правах экстэрнаў. Гімназія ў Навагрудку атрымала дзяржаўнае права ў 1928 г.

Закон з 31 ліпеня 1924 г. выключаў магчымасць заснавання дзяржаўнай беларускай гімназіі. Ён прадугледжваў, што па патрабаванню (*афіцыйна сцверджанаму*) *бацькоў 150 вучняў беларускай нацыянальнасці*, якія ходзяць у сярэднюю, агульнаадукацыйную школу аднаго павета або адміністрацыйна выдзеленага горада, будзе ім створана сярэдняя агульнаадукацыйная ўтраквістычная школа (арт. 6).

З усіх пастаноў гэтага закона гэта была найбольш крывадушная пастанова, бо стварала толькі ілюзіі, будучы на практыцы нерэальнай.

Каб бацькі маглі падаць заяву на беларускую сярэднюю школу, дзіця павінна было перад гэтым паступіць у польскую сярэднюю агульнаадукацыйную школу. Але лік такіх школ не перавышаў, як правіла адной

[22]) «Беларуская справа» № 29 з 1926 г.
[23]) «Народная справа» № 16 з 1926 г.
[24]) «Праўда» № 3 з 1929 г.
[25]) Беларускі каляндар з 1929 г., Бел. Выд. Тав.

на павет або адміністрацыйна выдзелены горад. У выніку класавага сіта лік вучняў з вёскі быў мінімальны. І калі б нават уся вясковая моладзь складалася з беларусаў, то назбіраць 150 вучняў было немагчыма. У гарадах жа толькі нязначны працэнт насельніцтва лічыў сябе беларусамі.

Моладзь, якая хадзіла ў беларускія сярэднія школы, складала найбяднейшую частку гімназічных вучняў у Польшчы.

Цяжкая сітуацыя гэтай моладзі і іх бацькоў прычынялася да хуткага разумовага яе даспявання і ўцягвання яе ў палітычную барацьбу ў радах Саюза камуністычнай моладзі Заходняй Беларусі.

Восенню 1928 г. адбыўся ў Варшаве з'езд вучняў беларускіх гімназій у Вільні, Навагрудку, Радашковічах і Клецку. На з'ездзе быў выбраны камітэт, які меў абавязак утрымліваць сувязь з ЦК КПЗБ — адносна працы ў гімназіях[26]).

Да вострых канфліктаў паміж вучнямі беларускіх гімназій і санацыйнымі ўладамі дайшло ў 1928 г.

За ўдзел у нелегальным з'ездзе ТБШ было выключана з гімназіі ў Вільні 8 вучняў. У адказ на гэта вучні пачалі пратэстацыйную акцыю. За гэта ўлады выкінулі яшчэ 10 вучняў, што толькі ўзмоцніла супраціўленне. Моладзь не паддалася і пасля таго, калі быў закрыты інтэрнат, а 50 вучняў адаслана на месцапражыванне. У школах у Навагрудку, Радашковічах і Ваўкавыску прайшлі аднаднёвыя дэманстрацыі і забастоўкі. У Вільні Саюз камуністычнай моладзі склікаў канферэнцыю вучняў беларускіх сярэдніх школ, удзел у якой бралі прадстаўнікі гімназій у Вільні, Навагрудку, Клецку і Радашковічах. Канферэнцыя выбрала міжшкольны камітэт акцыі і пастанавіла працягваць барацьбу.

Аб'яўленая на 5 лютага 1929 г. у гімназіі ў Радашковічах забастоўка была здушана, прычым было выключана некалькі дзесяткаў вучняў. Частка з іх была прынята пасля ізноў. Дванаццаць найбольш актыўных вучняў не прынялі больш.

У Вільні ў выніку забастоўкі, якая працягвалася некалькі дзён, быў адкрыты ізноў інтэрнат і прынята нанава 40 вучняў. Але вучні вырашылі змагацца, пакуль не будуць прыняты ўсе выключаныя вучні, таму пасля дзесяціднёвага перапынку вучні ізноў прыступілі да забастоўкі. Яна ахапіла поўнасцю вучняў II—V класаў, а часткова VI класаў. Вучні VII і VIII класаў былі звольнены ад забастоўкі. Забастоўкай кіравалі выключаныя вучні Тарасюк, Гаўрылюк і Таўлай.

На патрабаванне дырэктара гімназіі Астроўскага, які да гэтага быў дзеячом Грамады, а ў той час супрацоўнічаў з санацыяй, у гімназію ўварвалася паліцыя. Паліцыянты хапалі ў класе вучняў, якіх паказваў Астроўскі, а якія, паводле яго меркавання, былі членамі або прыхільнікамі Саюза камуністычнай моладзі, нахабна выцягвалі з класа і пакавалі ў паліцыйную машыну. 31 вучня выключылі з гімназіі за ўдзел у забастоўцы. Яны былі высланы пад нагляд паліцыі на месцапражыванне. Арганізатараў Якуба Міцо, Міхася Тарасюка, Юрыя Тарасюка і Гаўрылюка перадалі судовым уладам.

У знак салідарнасці з барацьбой вучняў віленскай гімназіі вучні гімназіі ў Навагрудку аб'явілі забастоўку на 28 лютага 1929 г. Баставала цэлая гімназія. Не салідарызавалася з бастуючымі толькі 10 вучняў і некалькі вучаніц з малодшых класаў. Забастоўку выклікаў прыбылы з Вільні дэлегат. Бастуючыя высунулі патрабаванне прыняцця ўсіх выдаленых з гімназіі ў Вільні вучняў[27]).

Неўзабаве пасля гэтага закрываюцца гімназіі ў Клецку, Навагрудку і Радашковічах, а ад 1932 г. віленская гімназія была падпарадкавана кіраўніцтву польскай гімназіі.

## 8. Справа настаўнікаў

Недахоп настаўнікаў з'яўляўся выдуманай прычынай, якою ўлады імкнуліся апраўдаць забарону беларускіх школ. Ужо ў першым дзесяцігоддзі XX стагоддзя Беларуская сацыялістычная грамада праводзіла канспірацыйную працу ў настаўніцкіх семінарыях у Маладзечне, Свіслачы, Полацку і Панявежы.

З'езд настаўнікаў у Вільні, які адбыўся летам 1906 г., стварыў Саюз беларускіх настаўнікаў, галоўнай мэтай якога была барацьба за беларускую школу. Філіял гэтай арганізацыі меў намер стварыць Якуб Колас у вёсцы Мікалаеўшчына, Мінскай губерні. Арганізацыйны сход быў выкрыты царскімі жандарамі, у выніку чаго Колас і пяць яго таварышаў былі прыгавораны на 2—3 гады турмы[28]). Праца аднак у гэтым напрамку праводзілася далей. Таму, калі ў часе вайны пачалі засноўваць беларускія школы, існавалі настаўніцкія кадры (было іх звыш 1000 чалавек[29]). Справа падрыхтоўкі настаўнікаў праводзілася і пазней.

У 1917 г. была створана настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы. У 1919 — 1921 гадах было арганізавана пяць настаўніцкіх курсаў. У 1920 г. адкрылі настаўніцкую семінарыю ў Барунах, якая хутка аднак была закрыта ўладамі Сярэдняй Літвы.

У 1922 г. улады арганізавалі настаўніцкія курсы ў Кракаве. У той час яны лічыліся з магчымасцю адкрыцця беларускіх школ і таму хацелі падрыхтаваць кадры лаяльных настаўнікаў. На курсах лекцыі

[26]) Інфармацыя аб дзейнасці ТБШ за 1921—1929 г. Архіў закладаў гісторыі партыі — 706/24 Аддзел М. У. Сп.

[27]) Архіў Закладаў гісторыі партыі, сыгн. 3927

[28]) А. Луцкевіч «Беларуская сацыялістычная грамада».

[29]) Прамова пасла Станкевіча ў Сейме з 1928 г.

чыталіся па-польску і толькі беларускую мову выкладаў настаўнік рускай семінарыі, які беларускую мову знаў слаба. Але і тыя 250 настаўнікаў, якія скончылі кракаўскія курсы, не атрымалі працы ў беларускіх школах. Яны або працавалі ў цэнтральнай Польшчы, або марнаваліся на беларускіх вёсках, куды настаўнікаў прысылалі з Польшчы. На тэрыторыі Заходняй Беларусі налічвалася звыш 600 беларускіх настаўнікаў без працы[30]).

Барацьба Беларускага пасольскага клуба прычынілася да зацверджання бюджэтнай камісіяй — 28 студзеня 1924 г. прапановы Тарашкевіча, каб адкрыць беларускую настаўніцкую семінарыю[31]). Ніякія меры ў напрамку выконвання гэтай пастановы не былі прыняты.

Нягледзячы на перашкоды ў падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў, аргумент аб недахопе настаўнікаў як перашкодзе ў адкрыцці беларускіх школ быў пазбаўлены асноў. На заклік Цэнтральнай беларускай школьнай рады адклікнулася 628 асоб з поўнымі настаўніцкімі кваліфікацыямі, гатовых працаваць у беларускіх школах[32]).

У сапраўднасці ахвотных працаваць у беларускіх школах было значна больш. Многія настаўнікі, маючы працу ў польскай школе, не адклікнуліся на гэты заклік, баючыся наразіцца ўладам.

У 1925—1926 школьным годзе ўлады адчынілі курс для 40 настаўнікаў з мэтай падрыхтоўкі кадраў для беларускіх школ. З самага пачатку дырэктар курсу раіў слухачам налягаць на польскую мову, бо зайдзе патрэба працаваць у Польшчы, магчыма каля Кракава. Навучанне беларускай мовы на курсе знаходзілася на апошнім месцы, затое галоўная ўвага была прысвечана выхаванню ў духу дзяржаўна-творчым. Перад прыняццем кандыдаты былі прасеяны дэфензівай. Аднак усе гэтыя старанні не далі вынікаў, удзельнікі курсу засталіся шчырымі беларусамі, і пасля заканчэння курсу большасць з іх атрымала працу толькі на часовых настаўнікаў[33]).

Апошні крок у напрамку падрыхтоўкі беларускіх настаўнікаў зрабілі ўлады ў 1930 г. Сейм зацвердзіў у бюджэце 200 000 зл. на пабудову памяшкання для гімназіі ў Навагрудку, 150 000 зл. на беларускі настаўніцкі курс, 100 000 зл. на беларускую настаўніцкую семінарыю і 50 000 зл. на друкаванне школьных дапаможнікаў для беларускіх школ[34]). Паколькі не было зроблена нічога, каб выканаць гэтую пастанову, слушным трэба прызнаць вывад, што ўлады кіраваліся толькі тым, каб ашукаць народ.

[30]) «Сялянская праўда» № 34 з 1924 г.
[31]) «Змаганне» № 1 з 1924 г.
[32]) «Сялянская праўда» № 10 з 1924 г. «Беларуская доля» № 17 з 1925 г.
[33]) «Беларуская справа» № 12 з 1926 г.
[34]) «Наперад» № 1 з 1930 г.



## 9. Таварыства беларускай школы

Барацьбой за беларускую школу непасрэдна кіравала Цэнтральная школьная рада, назва якой была зменена ў 1926 г. на Таварыства беларускай школы.

ТБШ у блізкім супрацоўніцтве з Беларускай сялянска-работніцкай грамадой вырасла ў масавую арганізацыю, якая кіравала барацьбой за асвету сярод беларускага насельніцтва. Існавала II акруг: у Баранавічах, Беластоку, Вілейцы, Гродне, Глыбокім, Лідзе, Навагрудку, Косаве, Міры, Слоніме, Свіслачы. Яны аб'ядноўвалі звыш 500 гурткоў і больш 10 тысяч членаў. Арганізацыя мела звыш 250 бібліятэк і хат-чытален, больш 100 клубаў.

Рэпрэсіі ўлад не абмінулі і ТБШ. У 1930 г. яны спынілі дзейнасць шасці акружных управаў, разграмілі гурткі, а многіх дзеячоў пасадзілі ў турму. 16 лістапада 1930 г. у Вільні было арыштавана кіраўніцтва Галоўнага праўлення. Пры гэтым улады не давалі дазволу на аднаўленне Галоўнай управы згодна са статутам.

Хаця, нягледзячы на тэрор, адбываліся акруговыя з'езды, якія выбралі дэлегатаў на з'езд, паліцыя не дапусціла да з'езду і выбараў Галоўнага праўлення. Пасля гэтага была створана ўстанова, якая замяшчала Галоўную ўправу: Часовая паўнамоцная камісія, у склад якой увайшлі: Алехна Міхась — сакратар акруговага праўлення ў Баранавічах, Церах Мікалай — старшыня акруговага праўлення ў Міры і Піліп Кізевіч — член Галоўнага праўлення.

Камісія паведаміла дзеячам аб сваім сфарміраванні і выдала нелегальную адозву, у якой востра кляйміла групу Луцкевіча і Астроўскага, заклікаючы да ўзмацнення радоў арганізацыі.

Камісія пачала старацца, каб склікаць з'езд. Да 1934 г. усе намаганні ў гэтым кірунку разбіваліся аб варожыя адносіны ўлад, якія стараліся паралізаваць дзейнасць арганізацыі арыштамі актывістаў, праследваннем і ліквідацыяй далейшых акруговых праўленняў і гурткоў. Праўда, у 1934 г. было выбрана Галоўнае праўленне, але дзейнасць яго была спынена па загаду віленскага старасты. Пасля адмены гэтай забароны апошняя спроба аднаўлення працы адбылася ў 1936 г.

У абставінах напоўлегальных адбыўся з'езд. Аб месцы з'езду даведаліся дэлегаты толькі пасля прыезду ў Вільню. З'езд выбраў новае Галоўнае праўленне. Гэтае праўленне аднавіла акцыю складання заяў на беларускія школы. З гэтай мэтай быў створаны супольна з БІГіК сакратарыят, які кіраваў гэтай акцыяй.

Нягледзячы на аслабленне арганізацыі арыштамі і рэпрэсіямі, не зважаючы на нічым не маскаваны тэрор у адносінах да тых, хто прабаваў дзейнічаць, акцыя знайшла шырокі водгук сярод беларускага насельніцтва.

Абставіны, у якіх адбылося складанне заяў, ілюструе мемарыял, апрацаваны сакратарыятам, а перасланы на адрас Старшыні Рады Міністраў[35]).

За тыповыя прыклады прыдзірак і праследванняў трэба прызнаць наступныя:

У многіх мясцовасцях, напрыклад у вёсцы Карэлічы, Заполле, Устухава, Навагрудскага павета, у вёсцы Сыцэвічы, гм. Радашковічы і Раеўшчына, Старавейскай гміны, друкі на заявы, перасланыя школьным сакратарыятам, былі на пошце канфіскаваны паліцыяй.

Камендант пастарунку ў Ляхавічах, Баранавіцкага павета, на пытанне п. Чарнэўскага, жыхара Ляхавіч, «Ці праўда, што да беларускага насельніцтва паліцыя забірае школьныя заявы, а калі так, то чый гэта загад?» адказаў: «Чый загад — не скажу, але маю такі загад і мушу яго выконваць».

Неаднаразова паліцыя праводзіла вобыскі і забірала заявы. Так было ў Беластоку, у вёсцы Тулічава, Пачапоўскай гміны, у вёсцы Заполле, гм. Карэлічы, Навагрудскага павета, у вёсцы Маскалі, гм. Орля над Нёманам, пав. Шчучын, у вёсках Канюкі, Зубялевічы, Зярбковічы, Шавалі, гм. Ляхавічы, Баранавіцкага павета, у вёсцы Вераб'евічы, гм. Шчэрскай, Слонімскага павета.

У Вёсках Кур'янова і Малашэва ў Дзісненскім павеце паліцыя пагражала сялянам, «што будзе тое, што некалі было з гурткамі».

У мястэчку Карэлічы, Навагрудскага павета, і ў вёсцы Казлоўшчына, павет Слонім, пагражалі высяленнем з тэрыторыі гміны. У вёсцы Марцінаўцы, Гродненскага павета, былі арыштаваны 4 асобы. У вёсцы Грыбаўцы гэтага ж павета паліцыя здзекавалася над 4-ма хлопцамі і 4-ма дзяўчанкамі, арыштаванымі ў часе ўдзелу ў школьнай акцыі. У вёсцы Шавялі, гм. Ляхавічы, было арыштавана 5 асоб: Адам і Павел Лукашы, Тадор Кумэйша, Цімафей Сокал і Мікалай Касцюк. Якуб Сокал з вёскі Зубялевічы, гм. Ляхавічы, быў затрыманы на пастарунку і моцна пабіты паліцыянтам Малецкім.

Вучняў беларускага філіялу віленскай гімназіі ім. Ю. Славацкага Аляксандра Паўлоўскага і Уладзіміра Булгана арыштавалі і, надзеўшы наручнікі, накіравалі ў арышт на 48 гадзін толькі за тое, што ў часе вобыску былі знойдзены друкі заяў і іншых легальных дакументаў. У Стаўбцоўскім павеце ў жніўні 1936 г. за ўдзел у школьнай акцыі арыштавалі і вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер у Картузскай Бярозе Бокута (60 год) з вёскі Дразды і Ліхачэўскага з вёскі Перадкі.

Паліцыянт Цішэўскі супольна з камендантам пастарунку мястэчка Піскі, Ваўкавыскага павета, білі па твары і па нагах Мікалая Рудзяка з вёскі Ніжэва, называючы яго камуністам і пагражаючы карамі і пратаколамі.

[35]) Беларускі каляндар за 1963 г. стар. 91 і п.





*Рэдактар органа ТБШ «Летапіс» Рыгор Раманавіч Шырма.*

У вёсцы Акуньянава, Слонімскага павета, камендант паліцыі здзекваўся над Уладзімірам Вярбіцкім за яго ўдзел у школьнай акцыі. Школьны сакратарыят у Вільні перахоўваў вырваныя ў Вярбіцкага камендантам паліцыі валасы. Бацькі дзяцей з вёскі Баравікі і Вячнейкі ў колькасці 65 асоб прыбылі ў гміну ў Жыровічах, пав. Слонім, каб сцвердзіць свае подпісы на школьных заявах. Войт не захацеў сцвердзіць. Камендант пастарунку п. Лятавец загадаў усім з'явіцца на пастарунак. 7 асоб арыштавалі, рэшту, зляяўшы, адаслалі дадому.



*Актыў рэдакцыі двухтыднёвіка «Наша Воля», 1936 г. (Злева направа: паэт Васілёк М., тэхнічны працаўнік Шэўчык А., рэдактар В. Склубоўскі, паэт Граніт, паэт М. Танк).*

Павятовыя ўлады накладалі адміністрацыйныя кары на найбольш актыўных удзельнікаў школьнай акцыі. Такім чынам Баранавіцкае павятовае староства пакарала 1 ліпеня 1936 г. Янку Чарнэцкага — жыхара Ляхавіч, Якуба Сокала, Янку Куктыша, Міхася — сына Ігната Куктыша, Міхася — сына Янкі Куктыша — жыхароў вёскі Зубялевічы, Баранавіцкага павета, усіх іх аштрафавалі на суму ад 10 да 15 зл. Жыхары вёскі Вераб'евічы, Чарэмхаўскай гміны, Слонімскага павета, былі пакараны: 3 асобы па 14 дзён арышту з заменай на 20 зл. штрафу, 3 асобы на тры дні арышту з заменай на 5 зл. штрафу.

Нягледзячы на распараджэнне з дня 7 студзеня 1925 г., войт часта адмаўляўся сцвердзіць подпісы, спасылаючыся на асабістыя распараджэнні ўлад агульнай адміністрацыі, пастановы адпаведных муніцыпальных улад, або іншыя абставіны. Падобныя выпадкі здарыліся ў Радашковічах, Песках к/Ваўкавыска, Вялікіх Есьмантах, Сакалдзе, Гродзенскага павета, Орлі, Шчучынскага павета, Райцах на Навагрудчыне, Забеліне, Ваўкавыскага павета, і іншых.

7 верасня 1936 г. прадстаўнік вёскі Бабpоўнікі Піліп Каранюк звярнуўся да натарыуса ў мястэчку Крынкі з просьбай сцвердзіць подпісы на школьных заявах. Натарыус адказаў, што зацікаўленыя павінны прынесці пасведчанні, якія б сцвярджалі іх нацыянальную прыналежнасць, пакажуць пашпарты, заплацяць па 3 зл. за кожную заяву, а таксама пакрыюць належнасць за сцвярджэнне подпісаў. Ён заявіў, што толькі староства можа гэта зрабіць бясплатна.

Гродзенскі стараста ў лісце з 20 жніўня 1936 г. у падліку скарг, паданых нашымі арганізацыямі ў сувязі з гвалтамі, якімі пэпісаліся войты гміны Вялікія Есьманты і Скогаль, адказаў, што «гміны або староства не могуць займацца сцвярджэннем уласнаручных подпісаў, у іншым выпадку ўваходзілі б у кампетэнцыю натарыусаў». У сувязі з гэтым староства само не сцвярдзіла подпісаў на просьбу жыхараў Гарадка.

Адміністрацыйны і паліцыйны тэрор санацыйных улад не мог затрымаць акцыю пісання заяў на беларускую школу. Таму беручы ўсё



***Падрыхтоўка да высылкі «Нашай Волі» ў памяшканні рэдакцыі.***
Фота прац. Валіцкага А.

часцей гітлераўскія прыклады, улады ў канцы 1936 года дэлегалізавалі ТБШ і БІГіК. Міністр унутраных спраў зацвердзіў пастанову віленскага ваяводы. Гэта пастанова перакрэсліла магчымасць легальнай барацьбы за беларускую школу. Ад гэтага часу ўлады не патрабавалі маскі, каб таптаць пастановы ўласнай канстытуцыі і законаў. З усяго беларускага школьніцтва паволі гібела гімназія ў Вільні — філіял польскай гімназіі ім. Ю. Славацкага. Паступовая замена мовы беларускай мовай польскай паказвала, што і гэты апошні беларускі цэнтр з'яўляецца часовым.

## БІБЛІЯГРАФІЯ

Гісторыя беларускай школьнай справы дагэтуль не дачакалася свайго апрацавання. Гэтая праца імкнецца даць нарыс гісторыі, абапіраючыся перш за ўсё на даных беларускіх часопісаў з міжваеннага перыяду і прамоў беларускіх паслоў. Не ўсе гэтыя матэрыялы цяпер можна знайсці ў бібліятэках і архівах. Аўтар выкарыстаў усе матэрыялы, якія адносяцца да гэтай праблемы і знаходзяцца ў Архіве Закладӓ гісторыі ў Варшаве. Важным дакументам з'яўляецца мемарыял сакратарыяту ТБШ і БІГіК з 1936 г., асабліва для высвятлення барацьбы за беларускую школу на яго канцовым этапе.

Для лепшага зразумення сацыяльнай і палітычнай сітуацыі да часу далучэння Заходняй Беларусі да Польшчы каштоўнай працай з'яўляецца праца Левандоўскага «Федэралізм — Літва і Беларусь у палітыцы бельведэрскага перыяду» (Варшава 1962), а для пазнання сітуацыі ў Заходняй Беларусі 1925—1927 гг. — праца Бергман «O Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromadzie», змешчаная ў № 3 часопіса «Z pola walki» за 1963 г. Перадваенныя польскія выдавецтвы толькі фрагментарна парушаюць гэтае пытанне. Можна тут звярнуць увагу на працу Яна Карнэцкага «Szkolnictwo dla mniejszości narodowych w Polsce», Канстанціна Сракоўскага «Sprawy narodowościowe na terenach wschodnich», і Леона Васілеўскага: «Sprawy Kresów i Mniejszości Narodowych».

**В. Склубоўскі**



Становішча ў галіне асветы на тэрыторыі Заходняй Беларусі карэнным чынам змянілася пасля спалучэння Беларусі ў 1939 годзе ў адзіную Беларускую ССР, а поўнае развіццё нацыянальнай асветы пачалося пасля заканчэння II сусветнай вайны. Упершыню была створана сістэма пачатковых і сярэдніх школ, а таксама вышэйшых установ розных напрамкаў, якая поўнасцю задавальняе патрэбы насельніцтва і стварае перспектывы развіцця нароўні з іншымі народамі Савецкага Саюза.

Нават на невялікай паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны, якая пасля II-ой сусветнай вайны ўвайшла ў склад Польскай Народнай Рэспублікі з пражываючым тут амаль 200-тысячным беларускім насельніцтвам, праблемы асветы на роднай мове вырашаны згодна з пажаданнямі насельніцтва. Адразу пасля вайны была разбудавана сетка пачатковых школ, у якіх заняткі адбываліся на беларускай, рускай, польскай мовах, а нават на мясцовых дыялектах. Тагачасны візітатар куратарыі Беластоцкай школьнай акругі Піліп Кізевіч успамінае, што міністр асветы С. Скшэшэўскі на пытанне, на якой мове павінны вучыцца дзеці беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне, адказаў: усёроўна на якой, абы вучыліся.

Але ў 1946 годзе гэты прынцып быў парушаны. Мясцовыя школьныя ўлады зусім спынілі навучанне беларускай мовы ў Польшчы і закрылі 3 беларускія гімназіі: у Бельску, Гайнаўцы і беларуска-рускую гімназію ў Беластоку. Такое становішча існавала толькі да 1950 года і было прызнана няправільным. Усё ж апрача пазнавальнага значэння родная мова мае вялікі выхаваўчы ўплыў. Таму было ізноў уведзена навучанне беларускай мове ва ўсіх школах, дзе яна выкладалася раней, і ўведзена ў шматлікіх іншых школах як прадмет. З гэтага моманту асвета на беларускай мове сістэматычна пашыраецца, удасканальваецца. У канцы 1965 года дзейнічала 176 пачатковых школ з беларускай мовай навучання або з беларускай мовай як прадмет, дзве агульнаадукацыйныя ліцэі з беларускай мовай навучання, спецыяльныя беларускія класы ў педагагічным ліцэі ў Бельску, вядзецца вывучэнне мовы як прадмета ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове, дзейнічае кафедра беларускай мовы і літаратуры пры Варшаўскім універсітэце. Незалежна ад школьных форм асветы кожны год арганізуецца 15—20 курсаў беларускай мовы для дарослых.

Паводле даных Нацыянальнай Камісіі пры ВК ПАРП у Беластоку становішча навучання беларускай мовы 31. XII. 1965 г. было ў паасобных паветах наступнае:

1. У Гайнаўскім павеце было 55 пачатковых школ з беларускай мовай як прадмет, у якіх на агульны лік 6838 вучняў гэтую мову вучыла 4114 дзяцей, і 16 пачатковых школ, у якіх усе прадметы выкладаюцца па-беларуску, у іх вучылася 1193 вучняў.

У агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы вучыліся 323 вучні.

Разам у 72 пачатковых школах і адным ліцэі павета вучылася роднай мове 5630 вучняў на агульны іх лік 8354.

2. У Бельскім павеце было 29 пачатковых школ з беларускай мовай як прадмет, у якіх з агульнага ліку 2586 вучняў роднай мове вучылася 2027 вучняў, і 17 пачатковых школ з беларускай мовай навучання, у якіх вучыліся 1094 вучні.

У беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску вучылася 325 вучняў і ў педагагічным ліцэі там жа — 191 вучань.

Разам у 48 школах павета на агульны лік 4196 вучняў беларускую мову вывучала 3637 вучняў.

3. У Беластоцкім павеце існавалі 33 пачатковыя школы з беларускай мовай як прадмет, у якіх на агульны лік 2225 вучняў роднай мове вучылася 1367 вучняў. У агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове на агульны лік 227 вучняў беларускай мове вучылася 76 дзяцей.

Разам у 34 школах павета на агульны лік 2452 вучні беларускую мову вучыла 1443.

4. У Сакольскім павеце было 12 пачатковых школ з беларускай мовай як прадмет, у якіх на агульны лік 756 вучняў роднай мове вучылася 398 дзяцей.

5. У Сямяціцкім павеце існавала 10 пачатковых школ з беларускай мовай як прадмет, у якіх на агульны лік 1313 вучняў родную мову вывучала 712 дзяцей.

Вышэй прыведзеныя даныя паказваюць, што ў 176 школах беларускую мову вывучала 11820 дзяцей (пры агульным ліку дзяцей у гэтых школах 17071).

Зразумела, што так разбудаваная сетка беларускіх школ патрабуе адпаведных кадраў, педагагічна - адміністрацыйнага надзору, падрыхтоўкі падручнікаў і школьных дапаможнікаў. Прывядзём некалькі даных. Ва ўсіх тыпах школ, у якіх выкладаецца беларуская мова, працуюць 683 настаўнікі, з гэтага ліку кваліфікацыі мае 670 настаўнікаў. Беларускую мову выкладаюць:

а) 50 настаўнікаў, якія скончылі беларускую філалогію ў Беластоцкай настаўніцкай студыі,

б) 54 настаўнікі, якія закончылі Бельскі педагагічны ліцэй — беларускую мову,

в) 28 настаўнікаў — абсальвентаў ліцэяў з беларускай мовай навучання,

г) 45 настаўнікаў, якія па беларускай мове атрымалі падрыхтоўку на розных курсах.

Пачынаючы ад 1956 года кожны год Міністэрства асветы ПНР арганізуе для 20 настаўнікаў беларускай мовы месячны курс у сталіцы БССР — Мінску. Разам на гэтых курсах пабываў ужо 201 настаўнік. Беластоцкая кураторыя некалькі год арганізуе зімовыя і летнія 8-дзённыя курсы, на якіх пабывала ў 1958—1965 гадах 285 настаўнікаў. Незалежна ад гэтага ў 4-х паветах ёсць метадычныя інструктары выкладання беларускай мовы.

Складаным пытаннем з'яўляецца забеспячэнне школ нацыянальных меншасцей падручнікамі, дзіцячай літаратурай і школьнымі дапаможнікамі. Спачатку ўсе падручнікі імпартаваліся з БССР, пасля яны сталі падрыхтоўвацца ПЗВС у Варшаве. Аднак у апошнія гады было вырашана далей імпартаваць граматыкі і літаратуру, а ў Польшчы выдаваць чытанкі для ўсіх класаў. Такое вырашэнне пытання гарантуе адпаведны ўзровень навучання і выхавання дзяцей, якія павінны атрымаць падрыхтоўку да жыцця ў змешаным асяроддзі. Дасягненні ў гэтай галіне велізарныя. Дастаткова сказаць, што на працягу 16 год агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання



ў Бельску закончыла 561 асоба, з гэтага ліку 390 асоб атрымала вышэйшую адукацыю або яшчэ вучыцца ў вышэйшых навучальных установах. Гэта амаль найвышэйшы паказчык у нашым ваяводстве.

Нельга не ўспомніць і таго факту, што моладзь беларускай нацыянальнай меншасці свабодна вучыцца ва ўсіх тыпах іншых школ Беластоцкага ваяводства. У 1965 годзе толькі ў адным г. Беластоку вучылася каля 900 выпускнікоў пачатковых школ, дзе выкладалася беларуская мова.

Вялікае ўздзеянне на далейшае развіццё асветы на беларускай мове аказвае праца Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Яго прэсавы орган «Ніва» і дадатак для дзяцей «Зорка» сталі ў беларускай школе вядомымі часопісамі, якія часта выкарыстоўваюцца нават настаўнікамі на лекцыях беларускай мовы.

БГКТ арганізуе для школьнікаў экскурсіі, вечарыны, дэманструе савецкія кінафільмы, дасылае ў школы фотавыстаўкі з жыцця БССР, дзеячы арганізацыі прымаюць удзел у школьных святах, аказваюць дапамогу ў забеспячэнні школ падручнікамі і кніжкамі. Таварыства супольна з школьнымі ўладамі праводзіць настаўніцкія канферэнцыі, конкурсы для дзяцей, сочыць за кадравай палітыкай і г. д.

Усё вышэй сказанае побач з артыкулам старшыні БГКТ мгр Вінцука Склубоўскага — вачавідцы нашага мінулага — сцвярджае велізарную розніцу ў адносінах цяперашніх улад ПНР і санацыйных улад міжваеннага перыяду да праблем беларускай асветы. *ую*

## Да 450-годдзя пачатку беларускага друку

# ГЕОРГІЙ СКАРЫНА

1967 год — гэта год, калі не толькі беларусы, але і ўвесь славянскі свет шырока адзначае 450-годдзе пачатку беларускага кнігадрукавання. Гэта слаўная дата неразрыўна звязана з імем вялікага гуманіста Георгія Францыска Скарыны.

Што ж такога зрабіў ён, за што беларускі народ вырашыў у сталіцы свайго краю паставіць яму вялікі помнік для ўвекавечання імя гэтага чалавека? — Менавіта Скарыне належыць заслуга беларускага першадрукара. У выданых ім кнігах жывая мова народа ўзяла верх над незразумелай народу, даступнай толькі вузкаму колу людзей, змярцвеўшай царкоўнаславянскай мовай. Гэтым самым Скарына паклаў пачатак не толькі кнігадрукаванню ў Беларусі, але і развіццю беларускай літаратуры, беларускай літаратурнай мовы.

Жыццё Скарыны склалася так, што значную частку яго ён правёў не ў Беларусі, а за граніцай — у Польшчы і Італіі, дзе ён вучыўся, і ў Чэхіі, якая двойчы дала яму прытулак

і работу. Аднак нягледзячы на гэта, Скарына застаецца беларускім вучоным, які на беларускай глебе вырас і сфарміраваў свой светапогляд, а яго ідэі гуманізму абапіраліся на беларускую рэчаіснасць.

Скарына жыў і працаваў у канцы XV — першай палове XVI стагоддзя. У той час у народных масах расло нездавальненне іншаземным прыгнётам. Літоўскія феадалы з XIV ст., а з XV ст. і польскія феадалы падпарадкавалі сваёй уладзе беларускія, значную частку ўкраінскіх і рускіх зямель. Дапамагала ім у гэтым актыўна каталіцкая царква. Навязванне насельніцтву Беларусі каталіцызма прыводзіла да адкрытага пратэсту, у гарадах Беларусі ўзнікалі брацтвы, якія ставілі перад сабой не толькі рэлігійныя мэты, але і шырокія грамадскія.

Непадзельнае панаванне рэлігійнага светапогляду ва ўсіх галінах духоўнага жыцця грамадства, характэрнае для эпохі феадалізма, прыводзіла да таго, што палітычная і ідэйная барацьба ў Беларусі праходзіла знешне над рэлігійнай абалонкай. Такім чынам, ідэалагічная барацьба супраць іншаземнага прыгнёту выступала ў форме барацьбы за захаванне праваслаўя. Гэтая акалічнасць вызначыла і характар творчай дзейнасці Георгія Скарыны.

Нарадзіўся Скарына ў «слаўным горадзе Полацку» каля 1485—1490 гг. у збяднеўшай купецкай сям'і. У першай палове XVI ст. Полацк быў адным з буйнейшых гандлёвых і рамесных цэнтраў Беларусі і адыгрываў значную ролю ў жыцці Вялікага княства Літоўскага (па велічыні ён займаў другое месца пасля Вільна). Малады Скарына жыў у атмасферы настрояў, варожых феадальнаму «ўціску».

Пачатковую адукацыю Скарына атрымаў у Полацку ў адной з мясцовых царкоўных школ. Пасля гэтага ён накіроўваецца ў Польшчу, дзе паступае ў Кракаўскі ўніверсітэт на факультэт свабодных мастацтваў. Як вядома, праваслаўным доступ у каталіцкі ўніверсітэт быў закрыты. Таму некаторыя даследчыкі (рускі вучоны П. В. Уладзіміраў) лічаць, што Скарына пры паступленні ва ўніверсітэт быў вымушаны назваць сябе літоўцам, а іншыя (польскі вучоны Г. Лаўмянскі), беручы пад увагу яшчэ другое імя Скарыны (Францыск), сцвярджаюць, што гэтае імя ён нібыта атрымаў ад Полацкага манастыра бернардзінцаў. Манахі гэтага манастыра нібыта абучылі Скарыну лацінскай мове і дапамаглі яму паступіць у Кракаўскі ўніверсітэт, з якім яны падтрымлівалі пастаянныя сувязі. Але перад гэтым яны дабіліся, каб ён прыняў каталіцкую веру, хочучы ў будучым зрабіць з яго тэолага, пашыральніка каталіцызма ў Беларусі.



Аднак, калі Скарына нават і спаведваў каталіцкую веру, то выданыя ім кнігі сведчаць аб тым, што ён прызначаў іх перш за ўсё для праваслаўнай «братии Руси». На гэтай падставе большасць рускіх вучоных робіць вывад, што ён і сам быў праваслаўным.

Праз 2 гады (1506 г.) Скарына заканчвае ўніверсітэт і атрымлівае першую вучоную ступень — ступень бакалаўра філасофіі.

Імкнучыся да ведаў, ён пасля сканчэння вучобы ў Кракаве накіроўваецца ў Заходнюю Еўропу, дзе працягвае вывучаць філасофію, гісторыю, права, літаратуру, матэматычныя навукі, мовы. Праз некалькі год (ён вучыўся на Захадзе ў нейкім універсітэце) Скарына атрымлівае вышэйшую вучоную ступень — доктара свабодных навук.

Аднак шматграннасць зацікаўленняў цягне Скарыну ад адной галіны ведаў да другой. Ён пачынае вывучаць медыцыну, батаніку і іншыя прыродазнаўчыя навукі. «Нейкі вельмі вучоны, але бедны юнак» папрасіў, каб яму дазволілі здаць у Падуанскім універсітэце (Італія) экзамен на ступень доктара медыцыны бясплатна. Члены калегіі згадзіліся, і 9 лістапада 1512 г. Скарына бліскуча здаў экзамен па медыцыне, атрымаўшы дыплом «у лекарскіх навуках доктара».

Які быў лёс Скарыны на працягу наступных пяці год, ніхто не ведае. Некаторыя вучоныя лічаць, што ў той час Скарына вярнуўся на радзіму, пабываў у Вільні, дзе звязаўся з дзеячамі віленскага брацтва, і атрымаў грашовую дапамогу для разгортвання кнігадрукарскай справы.

Першую друкарню Скарына заснаваў у Празе. Тут ён мог свабодна працаваць, не баючыся праследванняў за «ерась». Акрамя таго, Прага славілася сваімі друкарнямі і тут Скарына мог набыць неабходнае абсталяванне і наняць добрых майстроў. Ён мог тут таксама азнаёміцца з вопытам перакладу біблейскіх кніг на народную мову, які быў зроблены Янам Гусам.

Даследчыкам вядома, што ў пражскай друкарні Скарына надрукаваў 6 жніўня 1517 г. сваю першую кнігу — псалтыр. На працягу 3 год (1517—1519) ён пераклаў на беларускую мову і выдаў 23 біблейскія кнігі з уласнымі прадмовамі, пасляслоўямі і тлумачэннямі. Такім чынам, ён на некалькі год раней Лютэра выдаў біблію на мове, зразумелай для народных мас. А трэба сказаць, што Лютэр затраціў на пераклад біблii на нямецкую мову і яе выданне каля 13 год.

У 1520 г. Скарына вярнуўся на Беларусь, каб на радзіме працягваць пачатую справу кнігадрукавання. Ён забраў з сабой усё друкарскае абсталяванне, майстроў — друкароў і ўсе

выданыя ім кнігі і ў 1525 г. заснаваў друкарню ў Вільні. Віленская друкарня была першай друкарняй не толькі ў Беларусі, але і ва ўсіх усходнеславянскіх землях. У 1525—1526 гг. Скарына выдаў у Вільні яшчэ дзве кнігі — «Апостол» і «Малая подорожная книжица».

Скарына як вучоны і выдатны выдавец быў вядомы не толькі на радзіме, але і за граніцай. У 1530 г. яго запрасіў да сябе на службу ў Кенігсберг прускі герцаг, які лічыў Скарыну «мужам непараўнанага розуму, выдатным, вучонейшым доктарам мастацтва і медыцыны». Аднак Скарына, відаць, не збіраўся пашыраць уплыў герцага на Літоўскае княства. Праз 10 дзён пасля прыезду ў Кенігсберг Скарына таемна выехаў, забраўшы з сабой герцагскага медыка і друкара, якога, па словах герцага, «меў намер выкарыстаць для свайго прадпрыемства ў Вільні».

Пасля звароту на радзіму Скарыне прыйшлося перажыць цяжкія здзекі і праследаванні з боку судовых чыноўнікаў. Ён вымушаны быў нават звярнуцца са скаргай да вялікага князя Зыгмунта I. Феадалы і духавенства імкнуліся перашкодзіць яго дзейнасці. Магчыма, гэта, а таксама цяжкае матэрыяльнае становішча прымусіла Скарыну спыніць выдавецкую дзейнасць.

У 1534 г. ён пакідае Літоўскае княства і пераязджае ў Прагу (відаць, па запрашэнню чэшскага караля), дзе пачынае працаваць у якасці каралеўскага садоўніка і батаніка. Скарына быў заснавальнікам вядомага ў той час Батанічнага каралеўскага сада. Памёр ён каля 1536—1540 г. г.

Багатымі і разнастайнымі былі жыццё і дзейнасць Скарыны. Аднак самым важным па сваіх выніках і значэнню было кнігадрукаванне.

Скарына заснаваў сваю друкарню тады, калі справа кнігадрукавання толькі яшчэ пачынала развівацца і пашырацца ў краінах Заходняй Еўропы. Кнігі Скарыны ў друкарскіх адносінах стаялі для таго часу на вельмі высокім узроўні.

Добра вывучыўшы друкарскую справу па італьянскіх і чэшскіх выданнях, Скарына шмат зрабіў для ўдасканалення і далейшага развіцця кнігадрукарскай справы ў славянскіх краінах. У сваіх выданнях ён упершыню ўвёў нумарацыю старонак, ужыўшы для гэтага кірылаўскія лічбы, увёў невялікі, тонкі і выразны шрыфт, які пераўзыходзіў многія сучасныя Скарыне заходнееўрапейскія выданні, а таксама першы прынёс у славянскія кнігі звычай устаўляць у іх ілюстрацыі (прыгожыя гравюры, дзе ярка адчуваецца сувязь з рэальным жыццём).

У абавязкі Скарыны ўваходзіла вялікая справа па перакладу тэкстаў біблейскіх кніг на беларускую мову. Пры гэтым ён карыстаўся стараславянскай біблiяй, чэшскім перакладам, лацінскім тэкстам. Апрача перакладу і работы па складанню календара, ён займаўся і непасрэдна літаратурнай работай: апрацоўваў тэксты кніг адпаведна з перакладам на беларускую мову, пісаў да ўсіх выданых кніг прадмовы і пасляслоўі, складаў загалоўкі часта ў вершаванай форме.

Свае кнігі, хаця яны і мелі рэлігійны змест, Скарына прызначаў не для ўжывання ў царкоўным набажэнстве, а для выкарыстання ў адукацыйных мэтах, «для научения простых людей», «для исправления духовного и телесного». Гэтаму ж служылі і яго прадмовы і пасляслоўі. А што Скарына горача любіў свой народ, няма ніякіх сумненняў. «Понеже то прирождения, — пісаў ён, — звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рыбы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде сродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

У апошні час навукоўцаў з Беластоцкай медыцынскай акадэміі зацікавіла дзейнасць Скарыны як лекара, і яны пачалі распрацоўку гэтага пытання. Спадзяемся, што неўзабаве і яны прычыняцца для ўвекавечання памяці гэтага вялікага беларускага гуманіста.

## ПАМІЖ БЕБЖАЙ І БЖАЗУЎКАЙ

У нашай вёсцы людзей, пражываючых некалькі кіламетраў на ўсход за рэчкай Бжазуўка, называлі: літоўцы, літвіны. А людзі гэтыя, як я праз многа год даведаўся, гаварылі прыгожай беларускай мовай. Гэтая назва, мусіць, вынікала з таго, што рэчка Бжазуўка, была граніцай паміж Вялікім Літоўскім княствам і Каронай Польскай.

Вёска Вайтоўцы, з якой я паходжу, ляжыць на паўночна-заходнім беразе Бжазуўкі. Тыя з-за Бжазуўкі гаварылі аб нас: мазуры або запольцы. У нашай і іншых навакольных вёсках: Калінуўка Касцельная, Калінуўка Крулеўская, Крапіўніца, Дудкі, Гузы, Аграднікі і іншых аж па Гоняндз, Далістова і Монькі, ніхто да мазураў не прызнаваўся. Абражаліся нават за назву «мазур». Мазуры — гэта былі тыя за Бебжай, або за чыгуначнай станцыяй Монькі.

Памятаю дакладна, яшчэ перад вайной, я запытаў дарослых: «Хто мы, мазуры ці літвіны?» У адказ пачуў: «Мы — тутэйшыя». Трэба абавязкова высніць, што пытанне было пастаўлена не ў сэнсе нацыянальнасці. Бо і мы, тутэйшыя, і мазуры, і літоўцы з-пад лесу, у сувязі з тым, што былі каталі-

камі, лічылі сябе палякамі. Рускія ў сэнсе нацыянальным — гэта былі жыхары вёскі Конты — праваслаўныя асаднікі, дарэчы толькі яны і жыхары суседняй вёскі Аграднікі, таксама асаднікі, гаварылі мовай найбольш блізкай да літаратурнай польскай.

А як размаўлялі ў нашай вёсцы Вайтоўцы?

Вось аб гэтым і будзем гаварыць.

Перад вайной і сёння гаворыцца, што размаўлялі «па-просту». Гэтае паняцце папулярнае на Беласточчыне. Нашае «папросту» мела аднак і сёння яшчэ мае сваю спецыфіку. Абагульняючы, можна было б сказаць, што гэта дыялект беларускай мовы, густа насычаны мазурэннем, папсаваны, так сказаць, польскай літаратурнай мовай (гарадской, як гаварылася), а таксама літаратурнай рускай (казённай).

Як з гэтага вынікае, гаварылася або такой змешанай мовай, або па-беларуску, па-беларуску з мазурэннем, па-мазурску, па-гарадскому (польску) або чыста па-руску.

Усе дасканала разумелі адзін другога, хаця здараліся выпадкі забаўных непаразуменняў, аб чым сведчаць анекдоты. Дарослыя ў міжваенны перыяд размаўлялі найбольш пабеларуску, найчасцей мазурачы. Зразумела, што не ўсе. Многія, разам з моладдзю, стараліся размаўляць «па-гарадскому» ў сувязі з тым, што ўлады, школа і касцёл да «простай» мовы адносіліся непрыхільна. Не малы ўплыў быў гарадоў і мястэчак.

Здаралася часта, што людзі рашуча супрацьстаўляліся непрыхільнасці і размаўлялі «па-просту», падкрэсліваючы гэта з гонарам. Былі гэта найчасцей тыя, якія ўмелі размаўляць папольску, і яны перш за ўсё сачылі за чысцінёй «простай мовы», г. зн. беларускай з мазурэннем або без мазурэння.

Тыя, якія стараліся размаўляць «па-гарадскому» часта былі аб'ектам жартаў. Вось адзін з іх: У мясцовага сноба пытаецца чалавек з горада пра дарогу. Той яму тлумачыць: «*Пшосто, пшосто джушко, джушко аз до крыза*». Гэта мела значыць: „Prosto, prosto dróżką, dróżką aż do krzyża".

Выпадкаў няўдачнага пазбягання мазурэння было вельмі многа. Майго кузіна празвалі «Квашу пане» ў сувязі з тым, што гаварыў «квашу» «шэра» замест квасу, сэра і г. д.

Я таксама меў шмат клопатаў. Маці мая паходзіла з Беларусі, але, выхаваная ў горадзе, не ведала беларускай мовы і вучыла нас чыста па-польску. Калі я гаварыў «былэм» а не «был», «пшыйдэ», а не «прыйду», равеснікі смяяліся.

Аднойчы маці паслала сястру па сыр. Сястра вярнулася з нічым. Сказала, што не змагла зразумець слоў суседкі, якая адказала: «У нас сэр е, але зацаты». Беларускае «зачаты» было змазуранае і выйшла «зацаты».



Часта ў адной сям'і гаварылася па-рознаму, часта паасобных людзей называлі ад іх прымавак: «Як той казаў» — адну жанчыну, «Напсікад», «Вогуле» — фельчара ветэрынарыі. Адзін з настаўнікаў высмейваў нашыя стораны, гаворачы «Псысэт, посэт — прыйшоў, пайшоў».

Так, як і ў моўных формах, гэтае пераплятанне выяўлялася і ў іншых формах, як народнае мастацтва, звычаі і г. д. Драўляныя хаты, крытыя саломай, ставіліся тады шчытом да дарогі, вуглы гэтых хат, маляваныя ў кветкі, мелі рысы і беларускія, і курпёўскія.

На печах у нас не спалі, толькі гаварылі, што спяць на Літве. Беленыя хаты былі завешаны каталіцкімі абразамі святых. Людзі, зразумела, выбіралі найбольш каляровыя.

Велікодных спевакоў называлі «волокáцы» або «волокацы». Вілы да гною называліся «відла» або «сахарэ», штаны — «порткі» або «ганавіцы». Характэрнымі асабліва былі апавяданыя па-нашаму здарэнні з устаўкамі тыпова беларускімі, мазурскімі, чыста польскімі або яўрэйскім жаргонам.

Вось прыклад такога апавядання:

«Ясек Оселяковых хцял зэніцьсе. Завозі его сват да еднэй панны, а ён ніц не гада. До другей, ён зновусь ніц не одзывасе. Задна панна не хцэ его браць. Сват ему заказуе, ек я мругну ты гадай цосьць. Заехалі до панны. Ясек Оселяковых зновусь седзі, сьлеп'я выбалушыл на свата і зновусь ніц не гада. Сват мругал, от так. А Ясек Оселяковых: Дзядзьку? — Ён: Што? — Помнеце, як наш керноз очы прымружыў, думаў што я его не пазнаю...»

Характэрным і цікавым у гэтым апавяданні з'яўляецца блытанне націску.

Другі анекдот быў на чыстай беларускай мове: «Як Цыбукоў Ясько ўміраў, то ўсех людзей сьмех браў. То сікне, то перне, то раком стане, то ап'яць на маму гляне».

Або вершыкі народныя, апавяданыя выключна па-беларуску: «Ганула пашла за стодолэ, заснула. Прышла свіня, папхнула, ведуць свіню да пана, ёна крычыць — не пхала», ці па-мазурску: «Ты в бялэй косулі, не відзял моей матулі». Я выбраў гэтыя простыя анекдоты з мэтай паказаць, што народнасць — гэта штосьці стыхійнае, а таму і творчае.

З перыяду міжваеннага часта памятаю, што суседнія вёскі размаўлялі не раз рознымі мовамі, а асабліва розным спосабам акцэнтавання. Высмейваліся яны ўзаемна. Напрыклад з нас смяяліся, што гаворым: «вруубэль», «воодка», г. зн. з перацягваннем першага галоснага гука. Зараз у суседняй вёсцы зноў акцэнтавалі апошні галосны, польскае «g» вымаўлялася, як беларускае «г», а ў іншай замест: «ш» «ч» «ж» не гаварылася «с» «ц» і «з» па-мазурску, але «сь» «ць», «зь».

Я асабіста ў дзяцінстве быў праціўнікам мазурэння, лічыў, што яно вяжацца з гаворкай «па-просту». Калі паехаў на вяселле ў вёску Вайтахі, якая знаходзілася зараз за рэчкай Бжазуўкай, пачуў упершыню беларускую мову, не папсаваную мазурэннем. Жыхары так гаварылі паміж сабой, з намі — «чыста па-польску». І таксама сцвярджалі, што гавораць па-просту. А калі зноў завандраваў далёка, 15 кіламетраў на паўночны захад, сцвердзіў, што «па-просту» азначае там мазурэнне. Гаварылі там «кунь» замест »конь» і г. д. Але і там пачуў песню: «зэлі, зэлі зытко і выгналі зайца... замест заёнца».

Тыповымі прыкладамі сутыкнення беларускай мовы з польскай з'яўляюцца жартоўныя формы. Праходзячы каля працуючага, гаварылася па-польску «Божэ дапомуж», або па-мазурску «Бозэ допомуз». Калі той, да каго гэта гаварылася, быў дасціпны, адказваў: «Казаў Бог, каб ты памог». А вось анекдот. Уваходзіць жабрак і моліцца па-польску: «Здровась Марыё, ласкісь пэлна...» Гаспадыня ад коміна па-польску: «Дзядзьку, хцэце оладка?» І нясе яму проста ў рукі патэльню з гарачымі аладкамі. Той, бедны, рукі выцягвае, бярэ гарачыя аладкі, якія пякуць яму рукі, перакладае спешна з рук у рукі: «Ой, ой, ой, пане Божэ заплаць, ой, ой, ой, пане Божэ...» Нарэшце не вытрымаў. Кідае іх са злосцю аб падлогу і ругаецца па-беларуску: «...а маць іх...!» У гэтай вёсцы моляцца па-польску, а ругаюцца «па-руску». Бывае і наадварот, але там, дзе праваслаўныя. У раёне, аб якім гаворым, жывуць да сёння дзесяткі народных анекдотаў, якія адносяцца да праваслаўнай рэлігіі. Мэта іх даказаць, што бог каталіцкі лепшы праваслаўнага. Паколькі аднак гэта не мае сэнсу, нас анекдоты гэтыя цікавяць таму, што расказваліся найчасцей па-беларуску, а ў тых гадах, калі не было радыё, прэсы, тэлевізіі і бібліятэк, выконвалі ролю забавы.

Падчас «кудзелі», «талакі» і г. д. расказваліся таксама байкі і легенды ў большасці двухмоўныя.

Прыводзім урывак адной з баек аб трох братах: «...і палез дурань да ямы, браця побледлі, як снег, людзе стоё, цо бэдзе. Німа его і німа, а потым высадза гловэ і пытасе: «Чы бацюшка быў з рагамі?»

Зараз у апісаным раёне перамогу атрымала мова «гарадская». Амаль зусім занікае мазурэнне і «простая» мова. Часамі толькі хтосьці са старэйшых мазурыць або «аўкае». Такіх або падобных раёнаў, якія характарызуюцца ўзаемным пранікненнем моў, культур і рэлігій ад Жэшова па Ольштын ёсць вельмі многа.

**Лэшак Кажушка**



*Набярэжная ракі Свіслачы ў Мінску.*



*Мінскія вароты.*



# БЕЛАРУСЬ

Ізноў знаёмыя мясціны —
Лясы, пасёлкі, гарады.
О, Беларусь, ты край гасцінны,
Край жыватворчы, малады.

Край з маляўнічаю прыродай,
Сваіх багаццяў уладар,
Край працавітага народа,
Край здзейсненых надзей і мар.

Мінск захапляе стройным станам
І ачароўвае сабой.
Зайздрошчу шчыра я мінчанам,
Сталіцы з юнаю красой.

Хоць я цябе ізноў пакінуў,
Хоць я сказаў табе — бывай!
Жывеш ты ў сэрцы, ва ўспамінах,
О, Беларусь, гасцінны край.

**Віктар Швед**



# ГОРАД-ГЕРОЙ, ГОРАД-ПРАЦАЎНІК

У гэтым годзе сталіца БССР — горад Мінск — святкуе сваё 900-годдзе. Шмат легенд ходзіць аб заснаванні Мінска. Магчыма, што заснаваў яго легендарны Мянеск — асілак і цудатворца, які нібыта ўзвёў крэпасныя валы і сцены, а на дзядзінцы крэпасці пабудаваў млын, які не са збожжа, а з камення малоў пульхную муку. Моцную дружыну згуртаваў сабе Мянеск, раз'язджаючы па аколіцах, і пасяліў яе за сваімі мурамі.

А можа і праўда, што Мінск узнік сярод лясоў і балот як ваенная крэпасць, якая павінна была ахоўваць Полацкую зямлю?Ператварыўшыся з часам у шумлівы цэнтр, горад гасцінна прымаў прыбышоў з дрыгавіцкай ды крывіцкай зямель, якія сцякаліся сюды, каб мяняць тавары. Можа ад гэтага і пайшла тая назва Менск (мяняць — Менеск — Менск — Мінск).

А ёсць думкі, што Мінск спачатку ўзняўся не на тым месцы, дзе стаіць цяпер, не на старым замчышчы ля Свіслачы і Нямігі, а за некалькі кіламетраў адсюль — на рэчцы Менка, дзе і па сёння захаваўся земляны вал з рэшткамі колішніх варот. Магчыма, тагачасны горад быў зруйнаваны ворагам, і мінчане перанеслі яго крыху далей на ўсход, да ракі Свіслачы, захаваўшы аднак яго назву ад ракі Менкі — Менск.

Фактам ёсць аднак тое, што ўпершыню аб Мінску як населеным пункце ўспамінае летапіс у 1067 годзе, хаця гісторыкі лічаць, што ён быў заснаваны яшчэ раней. Не надта ласкавай была гісторыя да Мінска. З пажоўклых старонак летапісаў мы даведваемся, як Мінск руйнавалі, палілі, бралі ў палон яго жыхароў, калі там здараліся пажары, паводкі, голад. І хаця ля яго крэпасных варот шумелі багатыя кірмашы, а горад славіўся вырабамі сваіх кавалёў, ганчароў, шаў-

цоў, краўцоў, ткачоў і іншых адменных майстраў, іх слава гінула ў дыме пажараў, у княжаскіх міжусобіцах (Мінск руйнаваўся войскамі кіеўскага князя Ізяслава, знішчаўся ў бітвах з татара-манголамі і крымскімі татарамі, а пасля ў сутычках з нямецкімі рыцарамі і шведамі). І ўжо тады Мінск праявіў сябе як горад гераічны, адважны і свабодалюбівы. Калі шведы, напрыклад, прарвалі крэпасныя валы, мінчане самі спалілі свой горад і не здаліся ворагу.

Апынуўшыся ў складзе Вялікага княства Літоўскага, мінчане з іх беларускай культурай зрабілі на працягу больш двухсот год вялікі ўплыў на развіццё культуры ўсяго Вялікага княства. Аднак паколькі цэнтрам княства доўгі час з'яўляліся іншыя гарады, сам Мінск амаль не развіваўся.

Значна хутчэйшае яго развіццё пачалося пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, калі Мінск стаў губеранскім горадам (1796 г.). Аднак яшчэ многія гады Мінск усё ж яшчэ заставаўся правінцыяльным гарадком, ды і войны не абыходзілі яго стараной. У 1812 годзе горад разбурылі французы, яны зруйнавалі ў Мінску ўсе масты і пераправы. Ад голаду, тыфусу і тэрору французаў загінула тады дзве трэці мінчан.

Напярэдадні першай сусветнай вайны на 65 дробных прамысловых прадпрыемствах Мінска працавала ўсяго 1930 рабочых. Сярод тагачасных фабрык выдзяляўся Мінскі машынабудаўнічы завод, на якім працавала 300 рабочых, што выраблялі сякеры, рыдлёўкі, плугі, бароны, замкі і іншыя прылады. У горадзе было некалькі невялікіх гарбарняў, піваварняў, табачных і дражджавых фабрык. Амаль усе дамы былі драўляныя, а асноўным відам гарадскога транспарту побач з вазакамі была конная чыгунка, пракладзеная па цэнтральнай вуліцы ў 1890 годзе. У горадзе не было каналізацыі, толькі ў некаторых кварталах быў вадаправод і электрычнае святло. У 105-тысячным горадзе ў 1913 годзе працавала ўсяго каля дзесятка пачатковых школ і чатыры гімназіі. Не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы. У той жа час у Мінску налічвалася больш 30 цэркваў, касцёлаў і сінагог з тысячамі манахаў і служыцеляў рэлігійных культаў.

У канцы XIX стагоддзя Мінск становіцца адным з цэнтраў рэвалюцыйнага руху ў былой царскай Расіі. Толькі ў адным 1895 годзе ў Мінску адгрымела 54 стачкі. А ў 1898 годзе ў Мінску адбыўся першы з'езд РСДРП. Гістарычнай заслугай Мінска з'яўляецца і тое, што савецкая ўлада была абвешчана ў ім усяго праз некалькі гадзін пасля таго, як яна перамагла ў Петраградзе.

Першая сусветная вайна прынесла гораду значныя разбурэнні, а ўвесь міжваенны перыяд яго развіццё тармазіла блізасць дзяржаўнай граніцы з санацыйнай Польшчай, якая не таіла сваёй варожасці да СССР і сваіх захопніцкіх планаў. І не зважаючы на гэта, Мінск рос, развіваўся, узнімалася яго прамысловасць, культура і навука. Ужо ў 1940 годзе ў Мінску налічвалася каля 230 тысяч чалавек насельніцтва.

У 1941 годзе нямецка-фашысцкія захопнікі перапынілі стваральную працу мінчан. Гітлераўцы прынеслі ў горад свой фашысцкі «новы парадак». Дзень і ноч яны сеялі тут смерць і разбурэнне. І неўзабаве ад былой беларускай сталіцы застаўся могільнік з руін і папялішчаў. Гітлераўцы мэтанакіравана знішчылі ў гэтай «сталіцы партызанскага краю» ўсе фабрыкі, заводы, навуковыя ўстановы і школы, зруйнавалі 80 працэнтаў жылых дамоў.

Але нягледзячы на гэтыя зверствы акупантаў, мінчане не скарыліся, не сталі на калені перад ворагам. У тыя дні многія тысячы мінчан пачалі актыўную падпольную барацьбу ў горадзе, або пайшлі ў партызаны і ўзначалілі ўсенародную барацьбу з фашысцкімі акупантамі ў радзе раёнаў Міншчыны. Падпольшчыкі Мінска арганізавалі выданне ў Мінску друкаваных антыфашысцкіх лістовак і падпольнай «Звязды» — цэнтральнага органа кампартыі Беларусі. Яны правялі сотні адважных і рызыкоўных дыверсій і вывелі са строю сотні паравозаў і паяздоў з боепрыпасамі і жывой сілай праціўніка. Ад рук народных мсціўцаў у Мінску і яго аколіцах знайшлі сабе магілу тысячы фашысцкіх забойцаў.

Пасля гістарычнай перамогі Савецкага Саюза ў вайне з фашысцкай Германіяй Мінск пачаў адбудоўвацца па новаму генеральнаму плану. Ва ўяўленні многіх нашых чытачоў аднак Мінск і цяпер яшчэ застаецца чуць не правінцыяльным гарадком, якім яны бачылі яго ў першую сусветную вайну. Як жа яны памыляюцца! За небывала кароткі час Мінск — сталіца Беларусі — вырас у буйнейшы прамысловы і культурны цэнтр не толькі Беларусі, але і ўсёй заходняй часткі Савецкага Саюза. Паглядзіце на яго шырокія праспекты і вуліцы, прайдзіце ценістымі паркамі і ўзбярэжжам ракі Свіслач і вы скажаце: «Мае рацыю Віктар Швед, што зайздросціць жыццю мінчан у іхнім горадзе» (гл. папярэдні верш).

Цэнтральнай артэрыяй горада Мінска з'яўляецца Ленінскі праспект, які выцягнуўся на многія кіламетры з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Многім, вельмі многім прыезжым ён нагадвае Неўскі праспект у Ленінградзе. Толькі на Ленінскім праспекце ёсць пяць плошчаў: плошча імя Леніна перад Домам урада, Цэнтральная плошча ў цэнтры горада, плошча Перамогі з велічным помнікам воінам і партызанам, што загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне. А далей ідуць плошча Якуба

Коласа, ля парка Чэлюскінцаў плошча імя Калініна. Гэтая частка горада мае багатую архітэктуру, якая крыху нават перасычана ўпрыгожаннямі, характэрнымі для будаўніцтва пасляваеннага перыяду.

Шматлікія новыя вуліцы і магістралі зручна звязваюць розныя раёны ў прыгожы адзіны горад, які налічвае ўжо каля 800 тысяч жыхароў. Сімвалам новага Мінска з'яўляецца яго Прывакзальная плошча, якая кідаецца прыезджаму перш за ўсё ў вочы. А глянеш навокал — і ў кожным кутку новы раён, сотні новых прыгожых збудаванняў. За дваццаць пасляваенных гадоў на былых ускраінах горада ўзняліся гмахі новых мікрараёнаў, аўтазаводскага, трактарнага, пры вуліцы Кастуся Каліноўскага ў Зялёным Лузе, за Арлоўскай вуліцай, за Харкаўскай і г. д.

Дзе ні глянеш — усюды сучасныя формы, новае будаўніцтва. Акрамя прыгожых будынкаў, якія былі пабудаваны яшчэ перад вайной і цудам захаваліся (Дом ураду, Дом афіцэраў), альбо адбудаваных пасля вайны (Беларускі тэатр оперы і балету, Беларуская Акадэмія навук), у Мінску ўзнікла шмат манументальных збудаванняў яшчэ больш прыгожых, больш сучасных (будынкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Палітэхнічнага інстытута, горсавета, Палаца піянераў і дзіцячага кінатэатра па вуліцы Энгельса і інш.).

Пасля вайны ў Мінску пабудаваны велізарны стадыён «Дынама». У цэнтры горада праведзена рэгуляцыя ракі Свіслач, берагі якой апрануліся ў гранітныя пліты. Недалёка ад горада збудавана вялікае Мінскае мора — улюбёнае месца адпачынку мінчан. Як сімвал незабыўнага мінулага ў цэнтры горада стаіць домік, дзе адбываўся першы з'езд РСДРП. А на Цэнтральнай плошчы ўзняўся вялікі гмах музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Амаль усё, што мы сёння бачым у Мінску, створана за апошняе дваццацігоддзе. Адсутнасць старых помнікаў будаўніцтва і культуры з'яўляецца недахопам гэтага старажытнага і разам з тым маладога горада.

Новы Мінск — гэта не толькі прыгожыя дамы, вуліцы, плошчы. Новы Мінск — гэта сотні новых фабрык і заводаў. Адразу ж пасля вайны былі адбудаваны амаль усе разбураныя заводы, а пасля ўзнікла і шмат новых. На ўсходняй ускраіне горада ўзнялося некалькі заводаў - гігантаў: аўтамабільны, трактарны, матацыклетны, маторны, шарыкападшыпнікавы, завод паточных ліній і інш. Па ўсяму Савецкаму Саюзу і ў многіх зарубежных краінах славяцца мінскія аўтамабілі - самазвалы грузападʼёмнасцю ў сорак тон, мінскія трактары «Беларусь».



Славіцца Мінск і прадукцыяй сваіх радыёзаводаў, электроннай і металаапрацоўчай прамысловасцю, а таксама вырабамі лёгкай прамысловасці. За пасляваенныя гады ў Мінску пабудаваны прыгожы камвольны камбінат, тонкасуконная фабрыка, некалькі фабрык абутку. У горадзе працуюць сотні прадпрыемстваў па вырабу харчовых прадуктаў.

Мінск — гэта буйнейшы навукова-культурны цэнтр. Тут працуе Беларуская Акадэмія навук, членамі якой у свой час з'яўляліся народныя песняры Янка Купала і Якуб Колас. У Акадэміі навук сторана і працуюць больш 20 навукова-даследчых інстытутаў.

У горадзе дзейнічае 12 вышэйшых навучальных устаноў, сярод якіх першае месца належыць Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту. Са сцен гэтага ўніверсітэта выйшлі многія вучоныя і пісьменнікі Беларусі (Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Кузьма Чорны, Паўлюк Трус і інш.). У Беларускім універсітэце вучыўся і цяперашні міністр замежных спраў Саюза ССР А. Грамыка. А створаны гэты ўніверсітэт быў яшчэ ў 1921 годзе, прычым дэкрэт аб яго стварэнні быў падпісаны Уладзімірам Ільічом Леніным.

У Мінску ўжо многія гады працуе адкрыты яшчэ да вайны вялікі Палітэхнічны інстытут, які закончылі ўжо дзесяткі тысяч маладых спецыялістаў самых разнастайных галін народнай гаспадаркі. Ёсць у Мінску і медыцынскі інстытут, інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, інстытут народнай гаспадаркі, і рад іншых інстытутаў. Адкрыта кансерваторыя, працуюць 22 тэхнікумы і 105 іншых сярэдніх навучальных устаноў. У горадзе адкрыта 165 бібліятэк, найбольшай з іх з'яўляецца Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна. Працуе Дзяржаўная філармонія, 5 дзяржаўных тэатраў, 8 музеяў, 56 кінатэатраў і некалькі дзесяткаў клубаў, размешчаных пераважна ў мікрараёнах.

У Мінску кожны дзень выпускаюць дзесяткі газет на беларускай і рускай мовах, разавы тыраж якіх перавышае мільён экземпляраў. У горадзе выдаюцца шматлікія літаратурныя, навуковыя і грамадска-палітычныя часопісы.

Такім стаў цяпер Мінск — сталіца Беларусі. (ую)

## ЯК ЖЫВУЦЬ СЯЛЯНЕ НА СВЕЦЕ?

Гэтае пытанне, напэўна, цікавіць усіх сялян. Але адказ на яго вельмі складаны. Прыгледземся толькі да жыцця сялян сваёй вёскі. Частка іх мае даволі многа зямлі, працуе на ёй, як кажуць, ад світання да змроку і мае многа збожжа, бульбы,

жывёлы. Іншыя ізноў маюць менш гэтага багацця, але затое яны часта прыгажэй убраныя, маюць радыё, газеты, тэлевізар, больш сустракаюцца са сваімі суседзямі. Словам, больш свабоднага часу для сябе.

Каб параўнаць узроўні жыцця сялян на ўсім свеце, бяруць пад увагу не толькі ўмовы працы і жылля але ўзровень іх асветы і культуры, стан здароўя і доўгавечнасць.

Зразумела, што нельга гаварыць аб узросце ўзроўню жыцця там, дзе не хапае зямлі. Становішча такое было, між іншым, у паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства ў міжваенны перыяд. За кожны кавалачак зямлі біліся, судзіліся сваякі, суседзі, а нават цэлыя суседнія вёскі.

Найбольш адсталую сельскую гаспадарку да гэтага часу захоўваюць прыгнечаныя народы Афрыкі — пігмеі, бушмены і іншыя плямёны, якія жывуць яшчэ фактычна на ступені збіральніцтва, або прымітыўнай апрацоўкі зямлі пры дапамозе матыкі. Ураджай з аднаго гектара, напрыклад, пшаніцы тут вагаецца ад 2,1 цэнтнераў да 5 цэнтнераў з гектара. Жывёла гадуецца не для даходу, а каб падкрэсліць сваё грамадскае становішча. Многія сяляне тут не маюць жылля, амаль усе яны непісьменныя. У гэтым выпадку нельга нават параўноўваць жыцця плямён Афрыкі з сялянамі больш цывілізаваных краін свету. Эканамічнае становішча той часткі мясцовага насельніцтва, якая працуе на плантацыях кавы, какао, на вырубцы лесу ў белых каланістаў, мала лепшае.

У большасці краін Лацінскай Амерыкі амаль уся зямля належыць да лацiфундыстаў (памешчыкаў), якія выкарыстоўваюць яе толькі часткова, але маюць у сувязі з гэтым вельмі танную рабочую сілу. Ім выгадней плаціць рабочаму плантацыі мізэрную аплату па 2 кг. бульбы за дзень працы, чым аддаць зямлю ў карыстанне сялянам. Асноўнай праблемай вырашэння аграрнага пытання ў такіх краінах як Аргенціна, Бразілія, Балівія, Уругвай і іншыя, з'яўляецца правядзенне зямельнай рэформы. Да гэтага імкнуцца ўсе прагрэсіўныя арганізацыі Лацінскай Амерыкі.

Прыкладам для іх служыць Куба, рэвалюцыйны ўрад якой правёў зямельную рэформу, арганізаваў дзяржаўныя і кааператыўныя гаспадаркі з прымяненнем навейшай агратэхнікі. Змены ў сельскай гаспадарцы выдатна палепшылі жыццё сялян.

Зусім іншыя прычыны беднаты сялян у большасці краін Азіі. Найбольшай праблемай з'яўляецца тут аграрная перанаселенасць. Зямля, якая знаходзіцца ва ўладанні сялян, а таксама і тая, што аддаецца ў арэнду памешчыкамі падзелена на мінімальныя ўчасткі. Апрацоўваецца яна даволі прымітыўнымі ўладамі пры максімальным выкарыстанні людскай сілы. Умовы працы на плантацыях рысу, соі, цукровага трасніка вельмі цяжкія, жыллёвыя ўмовы прымітыўныя, а медыцынская дапамога мінімальная. Насельніцтва Індыі, Бірмы, Інданезіі, Пакістана, Ірана і іншых краін сістэматычна не даядае.

Значна лепшыя ўмовы жыцця маюць сяляне краін сацыялістычнага лагера — Кітая, паўночных частак Карэі і В'етнама, Манголіі, у якіх праведзена зямельная рэформа, а таксама Японіі — з увагі на буйнае развіццё прамысловасці.

Становішча сялян у паасобных краінах Еўропы, Паўночнай Амерыкі і Аўстраліі вельмі рознае. Найвышэйшую вартасць сельскагаспадарчай прадукцыі на аднаго селяніна мае Аўстралія (1300 долараў у год), пасля Новая Зеландыя — (1090 дол.), Канада (980 дол.), Швецыя, ЗША, Данія (600—700 дол.). Тут даволі добрыя ўмовы працы, жылля, высока пастаўлена культура.

Польшча знаходзіцца ў гэтых паказчыках у сярэдняй групе краін (400—550 дол.), між іншым такіх, як Аўстрыя, Аргенціна, Куба, Нямецкая Дэмакратычная Рэспубліка, Венгрыя, Італія, Паўднёвая Афрыка і іншыя. Але ёсць шмат краін у той жа Еўропе, дзе ўзровень жыцця сялян вельмі нізкі. У Албаніі, Партугаліі, Румыніі даходы з сельскагаспадаркі на аднаго селяніна ў год не перавышаюць 100—200 долараў.

Узнікае лагічнае пытанне, якія ж прычыны ўплываюць на паднящчё эканамічнага і культурнага ўзроўню сялян у адной групе і адсталасць у другой групе краін?

Развіццё прамысловасці, транспарту прычыніліся да актывізацыі сельскай гаспадаркі, да стварэння сталага рынку збыту прадуктаў. Высокі ўзровень агратэхнікі, механізацыі зрабілі сельскую гаспадарку рэнтабельнай галінай. Аказалася аднак, што найбольш рэнтабельнымі з'яўляюцца вялікія гаспадаркі. Пачаўся працэс упадку малых гаспадарак на карысць вялікіх. У Заходняй Германіі, напрыклад, ад 1949 па 1963 год зліквідавалася 413 тысяч гаспадарак, якія мелі каля 5 га зямлі. У Злучаных Штатах Амерыкі маецца 3,5 мільёна ферм, з гэтага толькі паўмільёна вялікіх залічваецца да рэнтабельных.

Зразумела, што ўласнікі вялікіх гаспадарак маюць высокі ўзровень жыцця. Іншыя працаўнікі залічваюцца ўжо да групы рабочых або беспрацоўных. Менавіта праблема атрымання працы пасля ліквідацыі дробнай гаспадаркі найбольш хвалюе сялян краін Заходняй Еўропы. Тая частка даходу з вялікіх гаспадарак, якая застаецца ва ўласнікаў пасля пракармлення сям'і, дазваляе купляць машыны, штучныя ўгнаенні,

хатняе абсталяванне, вопратку. У той жа час, напрыклад, індыйскаму селяніну за яго цяжкую працу хапае толькі, каб пракарміць сябе і сям'ю.

У нашай краіне існуюць зараз усе ўмовы да падняцця эканамічнага і культурнага ўзроўню сялян. З'ява зямельнага голаду ў выніку міграцыі насельніцтва ў гарады не існуе зусім. У большасці паветаў нашага ваяводства ўзнікае пытанне больш поўнага выкарыстання зямель. Дзякуючы працы сельскагаспадарчых гурткоў і магчымасці індывідуальнага набыцця машын ствараюцца добрыя ўмовы механізацыі працахлонных работ. Працуюць розныя тыпы школ і курсаў сельскагаспадарчай асветы. Трэба пачаць гаспадарыць з алоўкам у руках. Тады толькі знойдземся ў гэтай галіне ў ліку перадавых краін свету. (ую)

*I. Лепшы выган — большы даход*

Найбольшай перашкодай у развіцці жывёлагадоўлі ў нашым ваяводстве з'яўляецца недахоп пашы. Выкліканы ён, як вынікае з падлікаў мясцовых спецыялістаў сельскай гаспадаркі, не адсутнасцю выганаў і сенажацяў, але дрэнным іх выкарыстаннем. Асабліва нізкая прадукцыйнасць выганаў. Жывёла на працягу дня можа ледзь-ледзь толькі наесціся, каб існаваць, але не можа ўжо даць большай колькасці малака, ці прыросту мяса або воўны. Сялянам жа аднак залежыць на большым продажу гэтых прадуктаў.

Яшчэ ў многіх вёсках паўднёва-ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства далей існуе шахаўніца з яе агульнымі выганамі, на якіх жывёла больш вытоптвае травы, чым з'ядае. Гэтыя выганы ніколі належна не даглядаліся. Але часта і на хутарах праблеме адпаведнага выкарыстання выганаў не прысвячаецца дастатковая ўвага. Замест догляду выганаў жывёла дакармляецца травою з палёў і сенажацей.

У нашых умовах сяляне найчасцей карыстаюцца так званымі сталымі выганамі. Карыстаюцца ўжо сотні год, але ў замен ім не даюць нічога. Лічаць, што заўсёды на іх нешта вырасце. Таму выганы паволі дзічэюць, а разам з гэтым змяняецца папярэдні добры травастой на горшы. Калі яшчэ да недахопу перагною ў глебе дойдзе недахоп вады, трава высахне зусім, а калі яе будзе праз меру многа (бліжэй чым на 60 см ад паверхні глебы), пачынаюць расці малаякасныя травы і імхі, вартасць якіх у 4 разы будзе ніжэйшая, чым разнатраўя. Таму ўгнаенне выганаў і ўтрыманне адпаведнага воднага рэжыму маюць у нашых умовах асноўнае значэнне. Асабліва гэта важна пасля правядзення меліярацыі. Але часта прадукцыйнасць абніжаецца па іншых прычынах, а менавіта тады, калі існуюць густыя зараснікі дрэў ці карчоў, купы, зелле. Усё гэта стварае перашкоды ў росце траў, а таксама з'яўляецца месцам развіцця шкоднікаў жывёлы (матыліц, рабакоў).

Пераменныя выганы сустракаюцца ў нас там, дзе не хапае *натуральных (сталых)* выганаў. *Найчасцей на мокрых палях* сеюць канюшыну і пакідаюць на 3—5 год. Зразумела, што травы на такіх выганах, лепшыя, асабліва тады, калі кожны год вясною падсяваюцца белай канюшынай, люцэрнай, райграсам, вікліпай, ці оўсікам. Калі травы пачнуць расці слабей, выган такі трэба заараць і прызначыць пад іншыя сельскагаспадарчыя культуры.

Сустракаюцца яшчэ на Беласточчыне закінутыя, малаўраджайныя выганы. Іх таксама можна выкарыстаць, заворваючы і сеючы адпаведныя гатункі траў, а таксама сістэматычна ўгнойваючы. У гэтай справе раім найлепш звярнуцца за парадай да агранома. Але калі хочаце ўжо прывесці ў парадак выган самі, раім яго заараць плугам, пасля вывезці 20—25 вазоў кампосту на адзін гектар, даць 300—400 кг суперфасфату і 130—150 кг солі патасовай, пасля чаго пасеяць траву і добра яе забаранаваць. Насенне траў неабходна выбраць у залежнасці ад глебы. Так, напрыклад, на тарфяніках найлепш сеяць мяшанку: тымоцкі — 4 кг, шведскай канюшыны — 5 кг і лугавой кастравы — 8 кг, на сухіх глебах — французскага райграса — 8 кг, чырвонай канюшыны — 4 кг, ражковай камаліцы — 3 кг, купкавай травы — 6 кг. Зразумела, што ў першы год пасля пасеву траў пасвіць жывёлы на такіх выганах нельга. Пакуль трава ўкараніцца, лепш яе скасіць 2—3 разы і пасля кожнага кашэння глебу валаваць. Травастой закінутых выганаў значна паляпшаецца пасля кожнага ўгнаення гнаёўкай, штучнымі ўгнаеннямі або нават торфам. Асабліва неабходна гэта тады, калі заўважым, што трава мае жоўтазялёны колер і слаба расце. Высяваем азотныя ўгнаенні ў колькасці 60—100 кг на адзін гектар.

Так'м чынам, даходзім да вываду, што ў нашых геаграфічных умовах усе выганы (сталыя, пераменныя і закінутыя) можна выкарыстаць у развіцці жывёлагадоўлі. Але ўсе трэба адпаведна даглядаць, і нават лепш, чым сенажаці. Трава на выганах часта з'ядаецца і патрабуе многа ўгнаенняў, каб ізноў хутка вырасці. Падлічана, што ўгнаенне выгану 100 кілаграмамі салетры дазваляе павялічыць удой малака да 350 літраў у год.

Істотнай справай у развіцці жывёлагадоўлі з'яўляецца рацыянальнае выкарыстанне выганаў. Маем на думцы ўжо вядомы ўчастковы падзел, які ў паўднёва-ўсходняй Беласточчыне толькі пачынае ўваходзіць у жыццё. У тых жа вёсках, дзе далей існуе шахаўніца, ён бадай што не ўвядзецца.

Кожны гаспадар спачатку павінен ацаніць, колькі штук жывёлы ён зможа на сваім выгане пракарміць. Зразумела, што ў ніякім выпадку нельга ісці на празмернае павелічэнне ліку жывёлы. Ад гэтага даход не ўзрасце. Ды і раіць тут, не ведаючы прадукцыйнасці выганаў, цяж-

ка. Але лічыцца, што на адну карову трэба ад 0,25 да 0,50 гектара выгану. Трэба памятаць, што найбольш травы маем у маі і чэрвені і на гэтыя месяцы арыентавацца нельга. Пасля прадукцыйнасць выганаў памяншаецца. Напрыклад, адзін гектар выгану дае магчымасць пракарміцца:

| № | месяц | колькасць кароў |
|---|---|---|
| 1. | 1 мая — 30 чэрвеня | 3—4 |
| 2. | 1 ліпеня — 31 жніўня | 2—3 |
| 3. | ад 1 верасня да зімы | 1,5—2 |

Найбольш пэўна было б акрэсліць колькасць жывёлы паводле магчымасцей месяца ліпеня — жніўня, а веснавую лішнюю колькасць травы скасіць на зіму. Але калі плануем мець кожны год паплёны (падсеўкі), тады можна трымаць колькасць жывёлы з мая — чэрвеня, гэта значыць, 3 або 4. Пры большай плошчы выганаў прапарцыянальна павялічваем лік жывёлы.

Увесь выган трэба падзяліць на 10—12 участкаў. Часта адгароджваюць іх плотам, электрычным пастухом, або ўвязваюць жывёлу на ланцугах, пасля чаго пасвяць па чарзе. Паколькі ў нас найшырэй прымаецца ўвязванне, некалькі слоў аб гэтым спосабе.

Гэта добры і зручны спосаб выпасу, але трэба жывёле залажыць на галаву кантар і прывязаць на ланцуг не карацейшы, чым 4—5 метраў. Інакш мы пазбавім жывёлу магчымасці свабоднага руху. Трэба памятаць, што 15—20 метраў выгану, якім можа карыстацца прывязаная жывёла, не хопіць ёй, каб пракарміцца цэлы дзень. Неабходна на працягу дня найлепш 2—3 разы перавязаць, або падоўжыць ланцуг. Інакш жывёла празмерна знішчыць траву, якая пасля доўга не адрастае.

Вельмі часта жывёла ў гаспадарцы дзеліцца на дзве групы. Да першай залічваюцца дойныя каровы, а да другой ялоўкі і коні. Жывёла першай групы заўсёды прывязваецца на свежай траве, з'ядае лепшы травастой і толькі на наступны дзень пасвяць на тым жа месцы менш прадукцыйную жывёлу другой групы.

*Карысна было б пасля першага выпасу даць азотныя штучныя* ўгнаенні ў колькасці каля 100 кг на адзін гектар, пасля столькі ж па трэцім або чацвёртым выпасе ў ліпені.

Доследы паказалі, што з аднаго гектара выгану пры падзеле на ўчасткі на працягу цэлага сезона было атрымана 5 тысяч літраў малака, а без падзелу — толькі палова гэтага. Прырост мяса склаў таксама ў першым выпадку 400 кг, а ў другім — 300 кг.

Прыклады гэтыя сцвярджаюць неабходнасць увядзення ўчастковага выпасу жывёлы ўсюды там, дзе існуюць адпаведныя ўмовы.



### *II. Хуткае адкормліванне аплачваецца*

Як паказалі доследы і вопыт, хуткае адкормліванне аплачваецца лепш, чым доўгае. Гэта, праўда, вымагае добрага дабору свіней, рацыянальнага кармлення і добрага догляду, але значна зніжае кошты, разам з гэтым спрыяе ўзросту даходаў.

Вядома, што маладая жывёла лепш выкарыстоўвае корм. Аб гэтым сведчыць тое, што аднадзённы прырост вагі ў параўнанні з агульнай вагай з'яўляюцца большымі ў маладой жывёлы і памяншаюцца разам з узростам жывёлы. Чым старэйшая жывёла, тым прырост меншы, а запатрабаванне на корм большае.

Як паказалі доследы, на 1 кілаграм прыросту пры доўгім адкормліванні ідзе каля 6,5 кармавых адзінак у той час, калі пры хуткім адкормліванні трэба толькі 5 кармавых адзінак.

З гэтага вынікае, што лепш аплаціцца замест 3 штук па 160 кг адкарміць 5 штук па 120 кг.

Пры простым падліку бачым гэта:

3 × 160 = 480 кг і 5 × 120 = 600 кг.

Ад гэтага аднімем вагу парасят 3 × 20 = 60 кг і 5 × 20 = 100 кг. Атрымліваем у першым выпадку 420 кг, у другім — 500 кг.

Як бачым, агульны прырост у другім выпадку будзе большы на 80 кг пры меншай затраце корму. У першым выпадку трэба кармавых адзінак 420 × 6,5 = 2730. У другім выпадку толькі 500 × 5 = 2500.

Да хуткага адкормлівання падыходзяць свінні вялікай польскай белай і польскай белай звіславухай парод. Пры рацыянальным адкормліванні гэтых парод свіней аднадзённы прырост складае 600 грам. На працягу 5 месяцаў з 8-тыднёвага парасяці вырасце вяпрук вагай 120 кг

Не цяжка цяпер забяспечыцца добрым матэрыялам для хуткага адкормлівання свіней.

Раім таксама кніжкі: F. Mały, i T. Cedro „Chów świń", St. Hoser „Chów trzody chlewnej" i J. Kielanowski „Poradnik chowu swiń", у якіх ёсць падрабязныя інфармацыі на гэтую тэму.

## У дапамогу мастацкай самадзейнасці

*ЮРКА ГЕНІУШ*

# ЗЯМЛЯ

*Дзеючыя асобы:*

1. ПЯТРУСЬ — гаспадар, 52 гады.
2. АЛЁНА — яго жонка, 45 год.
3. РЫГОР — яго сын, 18 год.
4. ВАЛОДЗЯ — сусед, гаспадар, 50 год.
5. МАРЫСЯ — дачка Валодзі, 17 год.

Вясковая хата. За сталом задумаўшыся сядзіць Пятрусь. Перад ім талерка з ежай. Алёна замятае падлогу.

АЛЁНА. Пятрусь! (Пятрусь не чуе). Пятрусь!

ПЯТРУСЬ. Чаго?

АЛЁНА. Перастань сабе ўрэшце галаву марочыць. З'еш лепш што-небудзь. Няхай Рыгорка робіць, як хоча.

Не прымусіш жа яго на гаспадарцы застацца.

ПЯТРУСЬ. Што? Не прымушу? (Крычыць, б'е кулаком у стол). Хто? Я? Значыць, ты мяне яшчэ слаба знаеш. Я ж на яго, вырадка, галаве вось гэтую лаўку дашчэнту паламаю, а прымушу.

АЛЁНА (заламвае рукі). Вось ізноў сваё пачынае. Хаця пры ядзе не крычаў бы. Чаго добрага яшчэ папярхнешся.

ПЯТРУСЬ. Маўчы, баба! (Папярхаецца, кашляе).

АЛЁНА (падбягае да Петруся). Даражэнькі мой! У дрэнную хвіліну, мусіць, вымавіла. Цьфу! Цьфу! Цьфу! (Сплёўвае тры разы цераз плячо). Бачыш! А што я табе гаварыла?!

ПЯТРУСЬ (перастае кашляць). А што ты там разумееш? Сама скажы. Ну, хто ж гэта бачыў, каб гаспадарку кідаць? І гэта мой сын? Не! (Крычыць, трасе кулаком). Знаць не захачу! Адракуся! Кавалка хлеба не дам!

АЛЁНА. Нельга быць такім зацятым, Пятрусь. Ён жа ў нас адзін. Дзіця яшчэ.



ПЯТРУСЬ. Дзіцяня! (З абурэннем). Баба заўсёды сваё. Для цябе ён заўсёды дзіцянём будзе. Пацікавілася б лепш, дзе гэта твой сынок па ночы шляецца. Гадзіна дзевятая, а яго яшчэ ў хаце няма.

АЛЁНА (узварушваючы плячамі). Ат! Пайшоў пэўна ў школу. Там цяпер тэлевізар паставілі, і моладзь кожны вечар збіраецца перадачы глядзець.

ПЯТРУСЬ (устае, тыча Алёне пальцам у грудзі). Во! Во! Бачыў я той яго тэлевізар. Бачыў! На дзвюх ножках, з косамі, у спаднічцы. І глядзіць ён яго не ў школе, а над ракою. Новая марка тэлевізара. — Марыся называецца. Яго не толькі паглядзець, не толькі паслухаць, да яго і прытуліцца можна. Што рот разявіла? Так. Так. Марыся — дачка Валодзі. Мне Міколка, пастух, ужо даўно гаварыў. Не хацеў я верыць Аж сёння, вяртаючыся з лесу, сам убачыў. Сядзелі ля самага мосту, прытуліўшыся. Нават мяне не заўважылі, хоць я добрую хвіліну да іх прыглядаўся.

АЛЁНА. Перастаў бы ты, Пятрусь, дурніцы малоць. Ён жа нядаўна толькі 18 год скончыў. Рана яму за дзяўчатамі бегаць.

ПЯТРУСЬ. Ты мне зубы не загаварвай. Я не сляпы. Добра бачыў. Падумай лепш, што з ім рабіць будзем. (Ходзіць злосна па хаце, залажыўшы рукі за плечы). Навошта здалася яму тая навука? Скончыў жа 7 аддзелаў. Не — далей прэцца. У горад захацеў. Вёска яму не падабаецца! Думае, што ў горадзе працаваць не трэба. Грошы на вуліцы ляжаць. Там якраз толькі і чакаюць на такіх, як ён. (Сядае іківае галавою). А гаспадар з яго добры быў бы. Я да яго добра прыглядзеўся. Ці араць, ці касіць, ці жывёлу даглядзець — на ўсё майстар. І зямлю быццам бы любіць. Чорт знае, што яму ў галаву стрэліла. Раней жа ён толькі і марыў пра тое, каб самастойна гаспадарыць. (Хвіліну маўчыць). А кніжачак, памятаеш, розных напрыносіць. Начытаецца — і давай мяне, старога, вучыць. І тое яму не падабаецца, і другое, і ўсё нейкія навінкі хацеў бы ўводзіць.

АЛЁНА. Дык памятаю ж. Спачатку баялася нават, што прыб'еш ты яго калі за гэта. Не вытрымаеш. Як гэта, каб яйко курыцу вучыла?

ПЯТРУСЬ. Якую ізноў курыцу? Запамятай сабе назаўсёды, што я хоць і стары, а ўсё ж яшчэ певень. Сама ты курыца. А тое, што ён навінкамі цікавіцца, гэта добра. І тое, што не згаджаецца са старыною, таксама добра. Так і трэба. Зямля яна, бачыш, Алёнка, так, як тая капрызная маладзіца. Мала, што каля яе ходзіш, круцішся. Мала, што яе грудзі потам зрошваеш. Усе сілы ёй аддаеш. Трэба ведаць яшчэ, што яна любіць, чаго дамагаецца. Усё новых дарог да яе сэрца шукаць трэба. І перш за ўсё, Алёнка, любіць яе трэба, любіць моцна, з цэлага сэрца гэту нашу зямлю родную. Во! Толькі тады яна табе адплаціць шчодрым, як вялікае каханне, ураджаем.

(Нехта стукае ў дзверы.

АЛЁНА. Калі ласка.

Уваходзіць Валодзя, знімае шапку.

ВАЛОДЗЯ. Добры вечар!

ПЯТРУСЬ. А! Валодзя! Добра што зайшоў. Прысаджвайся, калі ласка. (Валодзя сядае).

ВАЛОДЗЯ. Я якраз і прыйшоў з табою пагутарыць. І пагутарыць сур'ёзна. Як бацька з бацькам.

ПЯТРУСЬ. Ну! Аб чым жа гэта? Што здарылася?

ВАЛОДЗЯ. У тым-то і справа, што трэба ўсё выясніць, пакуль яшчэ не здарылася. Пасля можа быць позна.

ПЯТРУСЬ. У чым справа?

ВАЛОДЗЯ. Вось што, Пятрусь! Скажы ты свайму Рыгору, каб перастаў за Марысяю шляцца. Зусім мне дзяўчыну з дарогі збіў. Яна не для яго (стукае рукою ў стол).

ПЯТРУСЬ. Э-э, брат! А гэта чаму ж?
Чым ён табе дрэнны?

ВАЛОДЗЯ. Дрэнны-не дрэнны, а яна не для яго. Яна ў горадзе вучыцца. Сярэднюю школу канчае, у людзі выбіваецца. А ён што?

ПЯТРУСЬ. У горадзе кажаш? (Чухае патыліцу). Вучыцца? Не для Рыгора? Гм! Цікава. Валодзя! А ты Рыгорку аб гэтым казаў?

ВАЛОДЗЯ. А як жа. Я яму не раз, прахвосту, тлумачыў. Куды, кажу, прэшся, галава драўляная? Навошта мы дачку вучым, на тое, каб на вёсцы засталася? За гарадскога яе замуж выдамо. Паняю будзе.

АЛЁНА (тупае нагою злосна). А ты нашага Рыгора прахвостам не называй. Ты б замест таго, каб на яго хлусіць, лепш сваёй дачкі пільнаваў бы. Сама, пэўна, хлапцу на шыю вешаецца.

ВАЛОДЗЯ (устаючы). Што? Што ты сказала?

ПЯТРУСЬ (устае, раскладае рукі). Ну! Ну! Ціш'эй! Ты, Валодзя, супакойся, а ты, Алёна, таксама язык прыкусі. Раззявіла горла на ўсю хату. Апраніся ды йдзі Рыгора пашукай. Ага! Як будзеш ісці каля гасподы, дык захапі там нам бутэлечку чаго-небудзь мацнейшага. Бачыш, якая сітуацыя выйшла? Без паўлітра не разбярэш.

ВАЛОДЗЯ (злосна). Пляваў я на твайго паўлітра. Няма аб чым гаварыць. Па-вашаму, значыць, Марыся сама хлапцу на шыю вешаецца?

ПЯТРУСЬ. Ды перастань ты. Не дурэй! Алёна! Ты што, яшчэ не выбралася?!

АЛЁНА. Іду ўжо, іду! (Алёна выходзіць).

ВАЛОДЗЯ. Іду і я.

ПЯТРУСЬ (бярэ яго за плячо і саджае). Куды? Сядай! Трэба нешта вырашыць. Спяшацца, брат, трэба толькі пры лоўлі блох. А ў сур'ёзных справах так нельга. Трэба падумаць.

ВАЛОДЗЯ. Няма тут аб чым думаць. Не бачыць Рыгорку Марысі, як сваіх вушэй.

ПЯТРУСЬ. Чакай! Не гарачыся! Дай мне хоць пару слоў сказаць.

ВАЛОДЗЯ. Ну, добра! Гавары! Толькі хутка.



ПЯТРУСЬ. Перш за ўсё скажу я табе, што Марыся ваша мне вельмі падабаецца. Золата-не дзеўка. І разумная, і гаспадарная, і стройная такая — усё ў яе на сваім месцы.

ВАЛОДЗЯ. Яшчэ б. (Твар яго крыху праясняецца).

ПЯТРУСЬ. І галоўнае, што з добрай сям'і.

ВАЛОДЗЯ. А як жа. (Твар зусім дабрэе).

ПЯТРУСЬ. А Рыгор наш — прахвост.

ВАЛОДЗЯ (задаволена). І яшчэ які. Што праўда, то праўда.

ПЯТРУСЬ. Вось бачыш. Мужчына з мужчынаю заўсёды дагаворацца.

ВАЛОДЗЯ. Чаму ж не, калі па-добраму.

ПЯТРУСЬ. Толькі вось што: паняю Марысі ніколі не бываць.

ВАЛОДЗЯ. А гэта як разумець?

ПЯТРУСЬ. Не будзь ты дурны, Валодзька. Няўжо ж ты забыўся, як сапраўдныя паны выглядаюць? Разам жа мы да вайны парабкамі ў маёнтку працавалі, разам плечы гнулі, панам кланяліся. І разам з табою потым тых паноў гнаць памагалі.

ВАЛОДЗЯ. Дык гэта ж зусім іншае. Што гэта мае супольнага з Марысяй?

ПЯТРУСЬ. Ты ж сам сказаў, што як вывучыцца, дык паняю будзе.

ВАЛОДЗЯ. А чым жа? Мы не вучоныя — мужыкі, значыць. А вучоная — дык пані.

ПЯТРУСЬ. А цьфу на цябе. Ніякія мы не мужыкі. Мы перш за ўсё людзі. Мы грамадзяне такія самыя, як і гарадскія.

ВАЛОДЗЯ. Ну, быццам бы яго і так.

ПЯТРУСЬ. А што часамі не вучоныя — гэта не наша віна. Не мелі нашыя бацькі магчымасці нас з табою ў школу пасылаць.

ВАЛОДЗЯ. Яно так і было.

ПЯТРУСЬ. Во! І не таму мы сваіх дзяцей у школы пасылаем, каб з іх паноў — дармаедаў гадаваць, а таму, каб разумнейшыя за нас былі. Каб менш гарбом, а больш галавою працавалі.

ВАЛОДЗЯ. А як жа ж. І я так думаю. Вось скончыць Марыся школу. У горадзе замуж выйдзе...

ПЯТРУСЬ (перабівае). Ну і гавары з ім. А чаму ж ты сам у горад не перабіраешся?

ВАЛОДЗЯ (абурана). А ну яго! А чаго я там не бачыў? Мне і ў роднай вёсцы добра. Тут жа і дзяды і прадзеды жылі. Тут я выхаваўся. Дык гэта ж мая бацькаўшчына. Куды мне перабірацца? Здурэў ты, ці што?

ПЯТРУСЬ. Дык нашто думаеш дачку туды перці?

ВАЛОДЗЯ. Як нашто? Там жа народ усё ж нейкі разумнейшы. Усе ж вучоныя ў гарадах жывуць.

ПЯТРУСЬ (з насмешкай). Народ разумнейшы. Прыязджаў да мяне ў мінулым годзе адзін такі разумны — на лета адпачыць. Цялушкі ад бычка адрозніць не мог.

ВАЛОДЗЯ. Гэта той у акулярах? Худы такі?

ПЯТРУСЬ. Ну!

ВАЛОДЗЯ (смяецца). Памятаю. Касіў я авёс. А ён, бач, падышоў, паглядзеў і кажа: «Ну, і буйнае жыта ў вас вырасла, гаспадар». Баба мая толькі ў кулак пырснула і кажа яму, што гэта авёс. Здзівіўся крыху і зноў да мяне звяртаецца: «А гэта яравы авёс у вас ці азімы»? Доўга мы з жонкаю рагаталі.

ПЯТРУСЬ. Вось бачыш. Кожны чалавек па-свойму разумны. Селянін разбіраецца ў гаспадарцы, механік у машынах, доктар у хваробах Кожны чалавек у сваёй прафесіі разумны. Не бойся. І ў горадзе дурняў хапае. (Уваходзіць у хату Алёна).

Нарэшце. А ў нас ужо ў горле зусім перасохла. Стаў, маці, бутэльку на стол і дай чым закусіць. А дзе Рыгор? (Уваходзіць Рыгор). О! Ёсць. А ну, хадзі сюды. Гавары, дзе быў. Толькі глядзі не хлусі, а то пуга па табе даўно ўжо сумуе.

РЫГОР. Нашто мне махляваць? Над рэчкаю быў, татка.

ПЯТРУСЬ. Сам быў ці з кім?

РЫГОР (апускае галаву). Сам.

ПЯТРУСЬ. Праўду кажы, а то бізуна вазьму. З кім быў?

РЫГОР. Ну, з сябрамі быў, купаліся мы.

ПЯТРУСЬ. А колькі ж тых сяброў там з табою, сынок, было? Што-о? А мо' гэта не сябры былі, а сяброўкі? Гавары! (Рыгор маўчыць, апусціўшы галаву).

ВАЛОДЗЯ. Ну, што маўчыш? Гавары!

РЫГОР. Калі ўжо вельмі хочаце ведаць, (звяртаючыся да Валодзі) дык я быў з вашаю Марысяю.

ВАЛОДЗЯ (ускаквае). Што? З Марысяю ноччу купацца ўздумаў? Дык я ж цябе зараз... (хапае Рыгора за грудзі).

ПЯТРУСЬ. Пастой! (Смяецца).

РЫГОР (вырываючыся). Дзядзька Валодзя! Дзядзька Валодзя! Гэта я толькі так сабе змахляваў. Мы толькі пасядзелі, пагутарылі.

ВАЛОДЗЯ (трасучы Рыгора). Як я табе зараз пагутару, дык ты месяц часу не сядзеш — так табе гэтае самае месца спухне. (Пускае Рыгора і сядае).

ПЯТРУСЬ. Чакай, Чакай, Валодзя! Мы тут зараз усё гэта вырашым на месцы. А ну, Рыгор! Бяжы па Марысю! Скажы, што бацька яе кліча. Няхай зараз прыходзіць.

РЫГОР (патупіўшыся). Не пайду.

ПЯТРУСЬ (моргае да Рыгора). Бяжы, дурань. (Рыгор выходзіць).

АЛЁНА (шэпча). Што гэта ты, стары чорт, задумаў?

ПЯТРУСЬ (шэптам). Цыц! Маўчы! Убачыш. Зараз нашы дзеткі прыйдуць.

ВАЛОДЗЯ. А ці гэта варта, Пятрусь, дзяцей мучыць? Ці ж мы з табою лепшыя былі? (Смяецца). Памятаеш, Алёна, як нас твой бацька ганяў, калі мы з Петрусём прыходзілі цябе на танцы клікаць? Петруся нават раз калом па плячах сцебануў. Га, Пятрусь?



ПЯТРУСЬ (смеючыся). Яшчэ як адлупцаваў. Я тыдзень часу не мог пасля разагнуцца.

АЛЁНА. Знайшлі пра што ўспамінаць. Яшчэ чаго добрага дзеці пачуюць. Прыклад з вас браць будуць.

ВАЛОДЗЯ і ПЯТРУСЬ (смеючыся). А яны ўжо даўно бяруць.

ПЯТРУСЬ. Яшчэ чарачку?

ВАЛОДЗЯ. Хопіць, хопіць (уздымае рукі ўгору). Нашто самім сябе туманіць? Як успомнім маладыя гады, дык вочы і без гарэлкі зазблішчаць. Вось ад чаю я б не адмовіўся.

АЛЁНА. Зараз налью. (Налівае чай і ставіць на стол. Уваходзяць Рыгор і Марыся).

МАРЫСЯ. Добры вечар. Добры вечар, цёця.

АЛЁНА. Добры вечар, дачушка.

ПЯТРУСЬ. Добры, добры. Ну, падыдзіце сюды бліжэй, верабейчыкі. Мы вас тут зараз аб нечым запытаем. (Рыгор і Марыся падыходзяць і сядаюць).

ПЯТРУСЬ. Раскажыце вы нам перш за ўсё, што вы там упоцемку над рэчкаю рабілі. Га?

МАРЫСЯ (здзіўлена). Як што? Гутарылі, дзядзечка.

ПЯТРУСЬ (працяжна). Г-у-у-утарылі. Ага. А можа, яшчэ здалёк ад сябе сядзеўшы.

МАРЫСЯ (апускае вочы). Чаму здалёк? Прытуліўшыся.

ВАЛОДЗЯ (устае і злосна кажа). А можа яшчэ цалаваліся? (Марыся і Рыгор маўчаць, апускаюць галовы).

ПЯТРУСЬ. Ну як? Цалаваліся? Гаварыце!

РЫГОР (падымае горда галаву). А калі б нават цалаваліся, дык што?

ВАЛОДЗЯ (пагражаючы кулаком). Быў бы ты маім сынам, правучыў бы я цябе за такія штучкі.

МАРЫСЯ (рашуча). А гэта зусім не ён. Гэта я яго цалавала.

ПЯТРУСЬ. Вось табе і на. Што ты цяпер скажаш, Валодзя? (Смяецца). Не далёка яблыка ад яблыні ўпала. Па табе пайшла дачка — з перчынкаю.

ВАЛОДЗЯ (з дакорам). Марыся! Ты што, здурэла? Сораму не маеш. Як так можна?

МАРЫСЯ. А вас, тата, мама ніколі, будучы яшчэ дзяўчынай, не цалавала?

АЛЁНА (смяецца). Ну, Валодзя! Сам уліп, сам вылазь цяпер.

ПЯТРУСЬ (смеючыся). Вось дык дзеўка!

ВАЛОДЗЯ (засмучана). Ну! Гм. Ну, як гэта сказаць? Ну, калі і цалавала, дык так, каб ніхто не бачыў. (Палохаецца, закрывае рот рукою. Потым сплёўвае). Цьфу! А ну яго! Што я пляту? Дзе, дзе там. Ніколі не цалавала. Гэта ж сорамна.

ПЯТРУСЬ (смяецца). Не ўмееш ты, брат, махляваць. Махні лепш рукою. Дай дзецям нацешыцца.

ВАЛОДЗЯ (*абурана*). Як жа гэта? Ніна мяне кахала, дык мы ж пасля пажаніліся. А яны што? (*Паказвае пальцам на Марысю і Рыгора*).

МАРЫСЯ (*цвёрда*). А я якраз Рыгора кахаю.

ВАЛОДЗЯ (*выпучыўшы вочы*). Што?!

МАРЫСЯ (*тупае нагою і крычыць*). Кахаю, кахаю, кахаю. І мы пажэнімся, пажэнімся, пажэнімся!

ВАЛОДЗЯ (*амаль што не плача*). Рыгор, як жа ж гэта?

РЫГОР (*сур'ёзна*). А так і будзе. Мы ўжо аб усім дагаварыліся.

ВАЛОДЗЯ. Дык ты, Марыся, што? Школу кідаць думаеш?

РЫГОР. Нельга так. Школу Марыся абавязкова павінна скончыць. Мы з ёю яшчэ маладыя, пачакаем.

МАРЫСЯ. А пэўна! І пачакаем і дачакаемся.

ВАЛОДЗЯ (*задумаўся*). Гм. Так. Так. А ты, Рыгор, што? На гаспадарцы пакуль застанешся?

РЫГОР. Што вы, дзядзя Валодзя! Я таксама еду вучыцца. Я ўжо ўсё афарміў. Бацька яшчэ здаровы. Сам пакуль з гаспадаркай управіцца. Хіба вы не разумееце, што ў сённяшні час нельга інакш? Не быць жа мне дурнейшым за іншых?

ПЯТРУСЬ (*са злосцю*). Не, браток! На гэта я не пазволю. Ты што, беляны аб'еўся? Гаспадарку кідаць? Рыгорка? Ну, зразумей. Кожны кавалак гэтай зямлі потам тваіх продкаў прапоены. І не толькі потам. Не раз наш род кроў за родную зямлю праліваў. Кіпцюрамі яе панам з горла выдзіралі. А ты хочаш вось так сабе ўсё гэта кінуць? Не! Ніколі не дазволю.

ВАЛОДЗЯ. Пятрусь! Пачакай! Гэта ж бы зусім нядрэнна было б. Глядзі! Абое вывучацца і тады мы іх возьмем і пажэнім. Га?

ПЯТРУСЬ. І што? Абое панамі будуць, як ты казаў. Родных бацькоў будуць цурацца? О, не! Не дазволю!

МАРЫСЯ. Дзядзя Пятрусь! Дзядзечка!

ПЯТРУСЬ (*тупае*). Не! Не! Не!

РЫГОР. Тата! Дык гэта ж не назаўсёды.

ПЯТРУСЬ. Што? Як гэта разумець?

РЫГОР. Я ж думаю, тата, сельскагаспадарчы тэхнікум канчаць. Скончу. Вярнуся. Вазьму тады гаспадарку ў свае рукі. Ох, татка. Я ж тут такія справы развярну. Мы ж з вамі разам...

ПЯТРУСЬ (*перабівае і кідаецца сыну на шыю*). Сынок! Ты гэта сапраўды? Не жартуеш?

МАРЫСЯ (*радасна*). Так! Так, дзядзечка. Мы ж так вырашылі.

РЫГОР (*з павагай*). Ну, ясна. Мяне ўжо прынялі на першы курс тэхнікума.

ПЯТРУСЬ (*крычыць*). Алёна, чуеш? (*Абнімае Марысю і Рыгора*). Дзеткі, дзеткі родненькія. Вось пацешылі вы мяне, старога. (*Плача, раптам ускаквае*). Валодзя! Чорт лысы! Мабыць, мы адначасна пажэнім гэтых парасят? Га?



ВАЛОДЗЯ (*смяецца*). А чаму ж не? З Рыгора добры муж выйдзе. Ён і працавіты, і гарэлкі не п'е.

АЛЁНА. Не так, як вы, хрычы старыя. Без гэтага чортавага зелля абыйсціся не можаце.

ПЯТРУСЬ (*уздымае рукі ўгору*). Эй! Валодзя! Дык мы ж тут яшчэ па чарцы калісь вып'ем! Вып'ем за нашых дзяцей. За ўсю вясковую моладзь. За будучыню і за нашу родную зямлю. Моцна мы ў яе ўраслі. Глыбока запусцілі карэнні. Не лёгка нас ад яе адарваць. Бо мы сяляне, мы ёсць соль гэтай зямлі. Ну, дзеткі! Ідзіце, цалуйцеся! Маладосць — буйнасць.

АЛЁНА (*з дакорам*). Пятрусь!

ВАЛОДЗЯ (*весела*). Нічога! Нічога! Дазваляем.

ПЯТРУСЬ. А я вам, сябры, пад сакрэтам (*звяртаецца да публікі*) яшчэ скажу, што, будучы маладымі, вы з гэтаю маёю Алёнаю, (*бярэ Алёну за руку*) ля таго самага масціка над рэчкаю так цалаваліся, што яшчэ сёння як успомню, дык мне горача робіцца.

АЛЁНА (*сарамліва*). Пятрусь, цішэй. Моладзь слухае. Ды і сорамна ж так перад усімі прызнавацца. Што людзі скажуць?!

УСЕ (*уваходзяць*). Маладых таксама трэба разумець.

КАНЕЦ



## СЯДЗІЦЬ КАМАР НА ДУБОЧКУ

(Беларуская народная жартоўная песня)

Весела




Сядзіць камар на дубочку,
На зялёненьк'м лісточку,
Ай, люлі, люлі, люлі,
На зялёненькім лісточку.

Сядзіць камар, напявае,
Чорных мушак забаўляе,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Чорных мушак забаўляе.

Наляцела злая бура,
Камарочка з ліста здула,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Камарочка з ліста здула.

Падляцелі тут дзве мушкі,
Ўзялі камара пад ручкі,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Ўзялі камара пад ручкі.



## КОЗАНЬКА БЕЛАЯ

(Беларуская народная песня)

Хутка




А козанька белая
Па надворку бегае.
Пераскочыла праз плот
Ды пабегла ў агарод.

Аб'елася цыбуліцы, —
Крычыць, бяжыць па вуліцы
Аб'елася часнаку,
Крычыць, бяжыць па таку.

А козанька белая
Па надворку бегае.
Аб'елася лебяды,
Крычыць, бяжыць да вады.

## ВОСЬ ЯКІ МУРЛЫКА

Словы О. Высоцкай. Музыка Д. Камінскага

Умерана

Вось я - кі мур -лы- ка,
два ву - сы вя - лі - кіх,
хвос-цік, як мя - цёл - ка,
кіп - ці, як і - гол - кі.

Вось які мурлыка:
Два вусы вялікіх,
Хвосцік, як мяцёлка, 2 разы
Кіпці, як іголкі.

Бегае, гуляе,
Шпулькі ганяе,
Цэлы дзень, як мячык, 2 разы.
Па кватэры скача.



## ПОЗДРАВИМ С ОКТЯБРЁМ

Словы З. Александровой. Музыка И. Кишко

Празднично, радостно

Спо- ём се-год- ня пес-ню о
на-шем Ок-тяб- ре. Так
ве- се- ло се- год - ня боль-
шим и дет - во - ре. По-
-ём, по - ём о
на-шем Ок - тяб - ре. По-




Споём сегодня песню
О нашем Октябре.
Так весело сегодня
Большим и детворе.
Поём, поём 2 раза.
О нашем Октябре.

Мы целый день играем,
Танцуем и поём
И всех мы поздравляем
С Великим Октябрём!
Мы всех, мы всех 2 раза.
Поздравим с Октябрём.





## ШПАК

Словы Я. Журбы. Музыка М Анцава.

Даволі хутка, весела




Сонейка заззяла,
К нам вясна прыйшла.
Снег ужо растаяў,
Рэчка загула.

З дальняе старонкі
Прыляцеў к нам шпак,
Сеў ён на бярозку
І спявае так:

— Дзеткі, выхадзіце
Сустракаць вясну!
З зімовага сну.

Я спяю вам песню
Дзе так дзіўна ясна,
Пра далёкі край,
Дзе красуе май.

## САЎКА ДЫ ГРЫШКА

(Беларуская народная песня).

Хутка

Саў - ка ды Грыш-ка ла-дзі - лі ду -

ду па - ве - ся - ліц - ца, каб пра - гнаць н

- ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду,

каб прагнаць ну - ду,

ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду,

каб прагнаць ну - ду.



## САЎКА ДЫ ГРЫШКА

Саўка ды Грышка ладзілі дуду
Павесяліцца, каб прагнаць нуду,
Дуду, дуду, дуду, дуду, 2 разы.
Каб прагнаць нуду.

Як разышліся музыкі, гуга!
Згінула гора, згінула туга,
Гугагага, гугагага, 2 разы.
Згінула туга.

Дзядок старэнькі, ёмкі ўзяўшы скрут,
Кіем на дзверы паказаў ім тут,
Тутутуту, тутутуту, 2 разы.
Паказаў ім тут.

— Вы сабе дуйце сваё гоцаца,
Толькі не страшце малога хлопца.
Гоцацаца, гоцацаца, 2 разы.
Малога хлопца.



## ВЕРАБЕЙЧЫК

Мелодыя народная

Весела

*mf*

Вось прыйшлі зі- мо-вы сцюжы

на два- рэ за- мерз-лі лу-жы;

ска- ча, ска- ча ве- ра- бей,

ён скл-- ка -е ўсіх дзя-цей

Ціў-ціў- ціў-ціў- ціў-ціў- ціў,

ён склі- ка - е ўсіх дзя-цей



## ВЕРАБЕЙЧЫК

Вось прыйшлі зімовы сцюжы,
На двары замерзлі лужы;
Скача, скача верабей,
Ён склікае ўсіх дзяцей:
Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,
Ён склікае ўсіх дзяцей.

Да дзяцей ён просьбу мае
І чырыкае, як знае:
Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,
Дайце есці — я ледзь жыў!
Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,
Дайце есці — я ледзь жыў!

Есці многа мне не трэба, —
Трохі зерняў, трохі хлеба
Кіньце, дзеткі, на зямлю,
Я вам песеньку спяю:
Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,
Я вам песеньку спяю!



## НАВАГОДНЯЯ ПЕСНЯ

Словы і музыка І. Каранеўскай

Весела




## НАВАГОДНЯЯ ПЕСНЯ

Дзень святочны прыйшоў,
Новы год к нам падышоў.
Мы насустрач яму рыхтаваліся,
Мы чакалі яго, дачакаліся.

Вось і ёлка прыйшла,
Нам вяселле прынясла.
Як прыбрана яна, упрыгожана,
Як святочна бліпічыць у агнях яна.

Дзед Мароз к нам прыйдзе,
Падарункі прынясе,
А за гэта яму мы падзякуем,
Сваёй песняй яго мы парадуем.



## ГЭЙ ТЫ, ВОЎЧАНЬКА

Умерана




Гэй ты, воўчанька,
Гэй ты, шэранькі,
Чаму ты, воўчанька,
Такі злосненькі?

Як жа мне не злаваць?
Няма ў чым зімаваць:
А ні буданькі,
А ні хатанькі.

За кусточкам сядзеў
Ды на свінку глядзеў.
Хацеў свінку схапіць, —
Пачалі мяне біць.

## КОТ - МУРЛЫКА




Кот-мурлыка — майстра наш —
Пайшоў з пеўнем на кірмаш.
Ён тавару накупіў,
Боты пеўніку пашыў.

За такую дабрату
Певень дзякуе кату,
Носіць ён яму штодня
На сняданак мышаня.

Кот паснедае ў садку
І падрэмле ў халадку,
Потым возьме малаток,
Па падэшве тук, так, ток.

Покуль боты шые кот,
Певень узляціць на плот
І спявае без канца,
Славіць ён свайго шаўца.

## МАЙ




Шчыра сонца пазірае.
Апрануўся ў лісце гай.
Ўсё смяецца, ўсё спявае. 2 разы.
Гэта май, прыгожы май.

Кветкі, зелень, шчасце, волю
Ўсім нясе з сабой вясна.
Вабіць лес зялёны, ў полі 2 разы.
Песня жаўранка чутна.

Птушкі гнёзды ўюць, спяваюць.
Ўсе вясёлы ў гэты час.
Шчыра ўсе вясну вітаюць 2 разы.
І зварот яе да нас.

Пойдзем, дзетка, ў луг зялёны,
Годзе спаць табе, ўставай.
Шчаснай песняй узбуджонай 2 разы.
Прывітаем светлы май!

*УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК*

# КОНСКАЯ КНІЖКА

Дзеючыя асобы:

1. НІНКА — вясковая дзяўчына, якая вучыцца ў горадзе, а цяпер прыехала на канікулы, 18 год.
2. ХВЕДАР — яе бацька, 56 год.
3. ТЭКЛЯ — яе маці, 50 год.
4. ВІЦЯ — студэнт, якога Нінка кахае, 22 гады.
5. ПЕЦЯ КАЧАНІК — сусед, за якога хочуць выдаць Нінку, 28 год.
6. ПАРАСКА — маці Пеці Качаніка, год 55.

*Вясковая кухня. На сцяне макатка, побач люстра. Адны дзверы вядуць у сені, другія ў наступны пакой. Перад люстрам* **Нінка** *чэшацца пільна, Хведар сядзіць пры стале, есць бульбу.*

ТЭКЛЯ (уваходзіць хутка з сенцаў у хату і пачынае злосна перастаўляць гаршчкі. Да Нінкі). Чаго ты тырчыш адвячорак перад люстэркам? Думаеш, прыедзе гэты твой свістун? Не прыедзе!

НІНКА. Прыедзе ці не прыедзе — гэта не ваша справа.

ТЭКЛЯ (голасна, нервова). Не мая справа?! А чыя ж гэта справа? Ну, глядзі ты, няхай яшчэ раз прыйдзе дахаты — замкну дзверы.

НІНКА (спакойна, не перастаючы часаць валасоў). Не замкнеце.

ТЭКЛЯ (наліла ў міску суп і нясе Хведару). Не замкну?! А от даю чэснае слова, што замкну дзверы гэтаму свістунові! (Ставіць міску на стол з такім размахам, што суп распырскваецца па стале).

ХВЕДАР (злосна б'е кулаком у стол. Да Тэклі). Спынішся ты ці не? (Потым звяртаецца павучальна да Нінкі). А табе сапраўды няма чаго цягаць яго дахаты. Ён табе не жаніх. Ды і што Пеця Качанік падумае?

НІНКА. Няхай сабе думае, што хоча.

ХВЕДАР. Ну, ну, толькі не так востра. Я табе не маці, магу яшчэ падняць спадніцу ды і дзягаю пацягнуць. (Пачынае есці).

*У дзверы нехта стукае. Тэкля кідае гаршчкі і пачынае хутка запярэзваць хвартух, Хведар перастае есці і пільна ўглядаецца ў дзверы. Стук паўтараецца.*

ХВЕДАР (голасна). Проша.



*У хату ўваходзіць* **Віця**. *Убачыўшы яго, Тэкля плюе злосна і выходзіць у другі пакой.*

ВІЦЯ. Добры вечар!

НІНКА (радасна). Добры вечар, Віця. Праходзь далей, прысядзь крыху. Даўно прыехаў?

ВІЦЯ. А толькі што. Апошнім ПКС-ам. (Сядае ля стала).

ХВЕДАР (хітра). Ну, дык што там у вас чуваць у горадзе? Га?

ВІЦЯ. А нічога. Тое, што і тут. Савецкі касмічны карабель на месяц заляцеў.

ХВЕДАР (са штучным зацікаўленнем). *Што ты кажаш? Аж на месяц заляцелі.* Ну, і што ж яны там убачылі на гэтым месяцы?

ВІЦЯ. Там пустыня, усюды толькі скалы.

ХВЕДАР (смяецца). Ха-ха-ха-ха! Скалы! Бачыш ты — скалы! А хто ж іх пазаносіў туды, тыя скалы? Ці таксама Саветы?

ВІЦЯ. Ніхто іх туды не насіў, самі ўзніклі.

ХВЕДАР. Самі кажаш? А гэта што за хвароба? Як свет светам, ніхто не бачыў на месяцы аніякіх скал, а тут раптам скалы ўзніклі! Глядзі ж, каб не пападалі вам на галаву тыя скалы, а то з такой вышыні як жарне — лоб можа растрапаць. (Устае, здымае з цвіка шапку). Ніхто там не быў і не будзе, усё гэта дурман для маладых людзей! (Выходзіць).

НІНКА. Ну, і як у цябе, Віця, з экзаменамі?

ВІЦЯ. Добра, усё ў парадку.

НІНКА (падыходзіць да Віці, бярэ яго за рукі, гаворыць паўшэптам). Добра што прыехаў, я ўжо не магла дачакацца. Хачу табе многае расказаць.

ВІЦЯ. Я таксама хацеў бы падзяліцца з табою радасцямі, турботамі і... маімі надзеямі.

НІНКА. Бачыш, у мяне бяда. Бацькі хочуць, каб пасля каляд выходзіла замуж. За Пецю Качаніка. Спакою не даюць мне з гэтым. Я ўжо... (У суседнім пакоі нешта зашалясцела. Нінка перарывае на паўслове).

НІНКА (хутка, пасля хвіліны маўчання). Ідзі ў кавярню і чакай мяне. Прыйду праз дзесяць мінут. Пагаворым або там, або на вуліцы.

ВІЦЯ. Добра. (Далікатна цалуе Нінку ў шчаку і выходзіць).

ТЭКЛЯ (уваходзіць у пакой). Што ён пайшоў так хутка?

НІНКА. А што павінен быў рабіць, калі вы ўсе паўцякалі.

ТЭКЛЯ. Бо няма аб чым з дурнем гаварыць і няма чаго дурня слухаць. Ці ў яго нешта талковае пачуеш? Скалы нейкія на месяцы ён бачыў. Цьфу! (Плюе злосна). І пайшоў як свіння, не сказаўшы нават «дабранач». Няма аніякай культуры. А нібы там яшчэ вучыцца, на нейкай там сваёй тэхніцы.

НІНКА. На палітэхніцы.

ТЭКЛЯ. А дай ты жыць, хто яго там вучыць, гэтакага дурня, на гэтай тэхніцы.

НІНКА. Я, мама, пайду да Гандзі Міколавай на паўгадзінкі.

ТЭКЛЯ. Чаго ты да гэтай Гандзі бегаеш кожны вечар? Пасядзіш у хаце, можа, во, Пеця прыйдзе.

НІНКА. Калі ён учора гаварыў, што будзе ў Гандзі.

ТЭКЛЯ. Ну, дык ідзі.

*Нінка выходзіць. Тэкля пачынае мыць гаршчкі. Уваходзіць Хведар.*

ХВЕДАР. Пайшоў ужо гэты, як ты кажаш, свістун?

ТЭКЛЯ. Пайшоў. Няхай ідзе к чорту, хутчэй ужо аддаць яе замуж, а то будуць лазіць тут усякія смаркачы.

ХВЕДАР. З ёю і дагаварыцца цяжка. Усё яшчэ нешта дурное ў галаве.

ТЭКЛЯ. А няма што з ёю і дагаварвацца. Самому трэба ладзіць усё ды годзе. Будзе вадзіць нас за нос, ды цягаць у хату такіх розных Віцькаў. Што ён жыццё ёй запэўніць?

ХВЕДАР. Сам сарочкі не мае.

ТЭКЛЯ (разважаючы). А Пеця, не кажы, хаця ён і выпіць любіць, але хлопец і ў свеце бывалы, і грошы ўмее зарабіць, і маці дапаможа. Параска даўно ўжо мне пагаварвала: «Каб толькі мой Пеця знайшоў добрую нявестку, усе сорак тысяч, што за хату ўзяла, аддала б дзецям. Няхай у горадзе дом купляюць ды жывуць».

ХВЕДАР. Ну вось, і пасагу даваць не трэба. Але што ж, калі ў яе ўсё яшчэ дурное ў галаве: а то невучоны, а то брыдкі, а то п'яніца. Які там з яго п'яніца!

ТЭКЛЯ. Эт, дурное.

*Тэкля ставіць у рад памытыя гаршчкі. Дзверы раптоўна адчыняюцца, уваходзіць Пеця Качанік.*

ПЕЦЯ. Добры вечар!

ХВЕДАР, ТЭКЛЯ. Добры вечар, добры вечар!

ТЭКЛЯ. Праходзь, праходзь, Пецька, далей.

ХВЕДАР. Прысядзь на крэсле.

ПЕЦЯ. То што ў вас чуваць?

ХВЕДАР. А нічога. Як бачыш, старына.

ПЕЦЯ. Нінкі няма?

ТЭКЛЯ. Нядаўна выйшла. Да Гандзі пайшла.

ПЕЦЯ. Я заглядаў да Гандзі, няма яе там.

ТЭКЛЯ (са здзіўленнем і абурэннем). Няма?!

ХВЕДАР. А не. Яна ж гаварыла, што да Антонавай пойдзе, ці што.

ПЕЦЯ. Пайду, пашукаю яе ў Антонавай (паварочваецца да дзвярэй).

ХВЕДАР. Пастой, пачакай, пагутар з намі.

ПЕЦЯ. А што тут з вамі гаварыць. (Выходзіць).

ХВЕДАР (зрываецца). Хвілінку, Пеця, зачакай, сказаць нешта хачу. Пеця. (Сядае на лаву, б'е кулаком у стол. Да Тэклі). Каб цябе пярун з тваім языком! Можа яна за тым сваім смаркачом пабегла. Ды навошта ты яе наогул з хаты выпускала!

ТЭКЛЯ. Ну, задушу паганую. Задушу! І што за дзіцё: ні паслухмянасці ніякай няма, ні розуму.



ХВЕДАР. Я казаў, што не трэба было яе ў школы пасылаць. Гэта горад яе распусціў так.

ТЭКЛЯ. Пайду, ды за каўтуны прывяду дахаты.

ХВЕДАР. Знойдзеш ты яе там!..

*Тэкля пачынае апранацца. Надзявае хустку, валёнкі і кажух. У той момант, калі яна збіраецца ўзяцца за клямку, дзверы адчыняюцца, і ў хату ўваходзіць Параска.*

ПАРАСКА. Добры вечар! А вы куды так выбіраліся?

ТЭКЛЯ. А ў царкву пайсці хацела.

ПАРАСКА (здзіўлена). У царкву? А сёння што за служба ў царкве?

ТЭКЛЯ. Не ведаю, Хведар казаў, што званілі ў царкву.

ХВЕДАР. Але, барабанілі.

ПАРАСКА. А гэта што за ліха. Я ўвесь час на панадворку і нічога не чула.

ТЭКЛЯ. А можа табе, Хведар, толькі так здалося?

ХВЕДАР. Можа і здалося.

ТЭКЛЯ. Праходзьце, суседачка, праходзьце, ды сядайце (распранаецца).

*Параска сядае на лаве ля стала.*

ПАРАСКА. А Нінкі няма ў хаце?!

ТЭКЛЯ. Але, няма, пабегла недзе да Гандзі ці што. Пасядзець.

ПАРАСКА. А ўжо ж. Маладой трэба часам і пабегчы. Яшчэ насядзіцца ў хаце.

ТЭКЛЯ. Яно гэта так. А што ж у вас чуваць, суседачка, новага?

ПАРАСКА. А нічога ні новага, ні старога. Прыйшла так, як мы і дагаварыліся, аб дзецях нашых пагутарыць.

ТЭКЛЯ. Але, пара ўжо абмеркаваць усё дакладна.

ПАРАСКА. Ведаеце ж, бацькі няма, дык мушу я яго заступаць. Але хаця і без бацькі — дрэннаму я яго не навучыла. Умее і грошы зарабіць і аб сабе задбаць.

ХВЕДАР. А гэта найважнейшае, каб умеў.

ПАРАСКА. Ой умее, умее. Гэта толькі злыя суседзі, каб іх паразносіла, розныя плёткі рассяваюць па вёсцы. Так, як гэтая Сонька Макарова. Калісь да мяне кажа: «Твой нідзе не працуе, толькі ходзіць па Беластоку і п'е». А каб ты спруцянела, думаю, за што ж бы ён ужо аж так піў, але ёй кажу: «А табе там што да яго, няхай твой паспрабуе не працаваць і піць, ці яму ўдасца».

ХВЕДАР. Эт, дурная баба.

ТЭКЛЯ. І ён добры, і яна добрая, не распушчаная, кавалераў ніякіх не мела. Дадуць сабе рады і ў вёсцы і ў горадзе.

ПАРАСКА. Напэўна, дадуць сабе рады, толькі я думаю, што трэба дапамагчы маладым стаць на ногі.

ХВЕДАР. Абавязкова трэба.

ПАРАСКА. Я думаю, каб купіць ім у горадзе хату.

ХВЕДАР. Хату?

ПАРАСКА. А чаму ж не? Я маю на кніжачцы 42 тысячы, думаю што і вы дасце нешта свайму дзіцяці.

ХВЕДАР. Як трэба даць, дык дамо. Чаму не?

ПАРАСКА. Я ўжо кажу, каб браў кагось, каго я не люблю — не дала б ні залатоўкі, але вас так люблю і люблю Нінку, хай сабе дзеці пажывуць. (Вымае з-за пазухі нейкую чорную кніжку, гаворыць плачлівым голасам). Я гэтую кніжку ўжо пяць гадоў для іх зберагаю, хай маладыя сабе карыстаюцца.

ХВЕДАР (пільна прыглядаецца да кніжкі). А што гэта за кніжка?

ПАРАСКА. Ну, гэтая ж, як яе там — пакао. Сорак дзве тысячы на ёй! Наце, гляньце.

ХВЕДАР (раскрывае кніжку і прыглядаецца, злосна прыжмурыўшы вочы). Гэта ж конская кніжка!

ПАРАСКА. Якая?

ХВЕДАР. Конская. На каня.

ПАРАСКА. На якога каня?

ХВЕДАР. Тут напісана: «Конь масці сівай, вышынёю 138 см».

ПАРАСКА. Конь масці сівай...

ХВЕДАР. Можа гэта ваш Сівы, што калісьці здох.

ПАРАСКА (перапалохана). Мой Сівы? Ну, добра, але чаму ў гэтай кніжцы пішацца пра майго Сівага?

ХВЕДАР. Бо гэта конская кніжка.

ПАРАСКА. Ну, а пра сорак дзве тысячы там нічога не напісана?

ХВЕДАР (яшчэ раз перагортвае кніжку). Не, нічога.

ПАРАСКА. Нічога?! (Хвіліну глядзіць перапалоханымі, аслупянелымі вачыма, пасля чаго ўздыхае на ўвесь голас). Дык ён прапіў усе грошы! Я ж яму дала, каб занёс на пакао, а ён мне конскую кніжку прынёс! Конскую кніжку! (Усхопліваецца з лавы і бегае па хаце, узяўшыся за галаву). А каб ты скруціўся, каб ты спух! Няма маіх залатовачак! (Хведар ускаквае з лавы, а Тэкля выпускае з рук гаршчок, які з грукатам валіцца на падлогу).

ХВЕДАР. Няма?!

ПАРАСКА (з плачам раскладаючы бязрадна рукі). Няма, суседачку, няма.

ХВЕДАР. Ну, дык чаго, баба, камусь галаву дурыш?! Думаеш я сваю дачку, вучоную і прыгожую, аддам за твайго дурня? Пайшла к чорту з маёй хаты!

ПАРАСКА (выходзячы). А каб ты лопнуў, каб ты скруціўся, як ты мяне мучыш усё жыццё, каб цябе... (Тэкля садзіцца на лаве, Хведар на парозе, хвіліну сядзяць моўчкі).

ТЭКЛЯ. Бачыш ты!

ХВЕДАР. Але.

ТЭКЛЯ. Чорт жа яго ведаў...

ХВЕДАР. Але.



ТЭКЛЯ. Каб хаця людзі не даведаліся, ды не разнеслі на языках.

ХВЕДАР. Але, людзі....

*Хведар і Тэкля сядзяць нейкі час ціха, потым адчыняюцца дзверы, і ў хату ўваходзіць Нінка. Хведар устае з парога і пачынае крычаць на Нінку.*

ХВЕДАР. Дзе ты лазіш увесь вечар? У хаце не ўтрымаеш яе ні на момант, хоць бяры і вяроўкай вяжы.

НІНКА. З Качанікам прастаяла, праводзіў мяне.

ХВЕДАР (яшчэ больш злосна). З Качанікам?! З гэтым лодырам, бяздзельнікам і злодзеем?

НІНКА (здзіўлена). З лодырам, бяздзельнікам і злодзеем?...

ХВЕДАР. Не паўтарай, як папугай, а гавары, калі ты з ім цягацца перастанеш!

НІНКА. Дык я ж з ім не цягаюся! I наогул яго сёння на вочы не бачыла.

ХВЕДАР. Дык чаго ў вочы ілжэш роднаму бацьку?

НІНКА. Бо вы заўсёды гаварылі, што лепшага ад Качаніка хлопца я не знайду пад сонцам.

ХВЕДАР (перакрыўляе). Гаварылі, гаварылі... Трэба мець свой розум у галаве, а не толькі слухаць таго, што табе іншыя скажуць. Дзе была, пытаю, цэлы вечар?

НІНКА. Я сустрэлася з..., з... з Віцем.

ХВЕДАР (злосна). З Віцем! (Лагодней). Гм, з Віцем. (Сядае на лаве, уздыхаючы цяжка). Такі цяпер ужо свет, што старыя бацькі ў дурнях астаюцца. А можа і сапраўды на месяцы паявіліся скалы, а можа і сапраўды Віця будзе добрым мужам?.. (Махае распачліва рукою). Э, выходзь замуж за Віцю. Хаця б і заўтра.

НІНКА. Татачка! (Кідаецца Хведару на шыю).

ЗАСЛОНА

## ЭДУАРД ГОЙЛІК



Нарадзіўся ў Верабейках (зараз БССР). Вучыўся ў Ваўкавыску, Свіслачы і Аўгустове. Быў студэнтам Варшаўскай кансерваторыі. Навуку перарвала вайна. У час вайны працаваў настаўнікам у Кіргізіі, потым падзяліў лёс многіх польскіх салдат. У Польшчу з Англіі вярнуўся ў 1947 годзе і пасяліўся ў Ольштыне, дзе пражыў некалькі год. Цяпер пражывае ў Беластоку і працуе ў настаўніцкай студыі. Быў музычным кіраўніком эстрады «Лявоніха».

Кампазітарскую працу пачаў больш 30 год таму назад.

Яшчэ ў часе вайны, на чужыне, узнік «Славянскі танец» — твор, у аснову якога ляглі народныя матывы з родных старон. Да найбольш каштоўных твораў Э. Гойліка трэба аднесці ольштынскія: «Польскую сюіту», «Вармінска-мазурскую сюіту», «У краіне Вармінска-мазурскай», «Малы канцэрт на габой у суправаджэнні сімфанічнага аркестра», і беластоцкія: «Рэмінэсцэнцыя» і «Сімфонія № 1 д-моль» з падзагалоўкам «З майго дзяцінства».

Апрача твораў для сімфанічнага аркестра апрацаваў некалькі мініятур для скрыпкі ў суправаджэнні фартэпіяна і кампазіцый для хору.

Э. Гойлік закаханы ў народную музыку. Часта вяртаецца ў сваёй творчасці да беларускіх матываў, пачутых у дзяцінстве. У апошні час займаецца апрацоўкай беларускіх народных песень, а таксама песень на словы мясцовых беларускіх паэтаў.



## БАЦЬКОЎСКІ ПАРОГ

словы: В. Швед, муз.: Гойлік

Марш

Дзе б толькі мя-не лёс не кі-нуў з да-
-ле-кіх і блізкіх да- -рог За-
-ўсё-ды знайду пу-ця- -ві-ну, на
ро-дны, бацькоўскі па- -рог Зна-
-ё- ма- -е ўсё тут з ма- -ле-нства, Пры-
-ро-да, усмешкі лю- дзей, А-
-днак што раз менш па-да- -бе-нства з тым,
што аглядаў тут раней.

## БАЦЬКОЎСКІ ПАРОГ

Словы: В. Швед  музыка: Э. Гойлік

Дзе б толькі мяне лёс не кінуў
З далёкіх і блізкіх дарог,
Заўсёды знайду пуцявіну,
На родны, бацькоўскі парог.

Знаёмае ўсё тут з маленства,
Прырода, усмешкі людзей.
Аднак штораз менш падабенства
З тым, што аглядаў тут раней.

Дарогі, дарогі... і тыя
Змяняюць свой від на вачах.
Уздоўж іх слупы — вартавыя
Трымаюць драты на плячах.

Пабег па дратах, як па жылах,
Пад стрэхі вясковыя ток.
Дзе цьмяна капцілка свяціла —
Святло залунала здалёк.

Чуваць гул матораў на нівах,
І песні чуваць мілы тон
Людзей працавітых, рухлівых,
Што выйшлі сабраць свежы плён.

О, колькі ж у вас прыгажосці,
Палі з ураджаем, лугі,
Мясц'ны маёй маладосці,
Бацькоўскі парог дарагі!



## НАД ЗЯМЛЁЙ

Allegro moderato  словы: А. Барскі, муз.: Э. Гойлік

Над зя-млёй бляск за-ры ра-ссы- па-е-
цца, І дры-жыць, і га-ры
У-смі- ха-е- цца Лес гу- дзе
і шу - міць, а-дга-ло- -са- -мі,
rit.
Луг шы- рокі зві- ніць у - жо ко-са -
мі. Мы-юць ро-са - мі тра-вы




## НАД ЗЯМЛЁЙ

Словы: А. Баркі музыка: Э. Гойлік

Над зямлёй бляск зар
　　Рассыпаецца,
І дрыжыць, і гарыць,
　　Усміхаецца.

Лес гудзе і шуміць
　　Адгалосамі,
Луг шырокі звініць
　　Ужо косамі.

Мыюць росамі твары
　　Аселіцы,
Жаўрукі над абшара
　　Вяселяцца.



## ВАЛЬС РАССТАННЯ

Moderato　　　　словы: А. Баркі, муз.: Э. Гойлік



## ВАЛЬС РАССТАННЯ

Словы: А. Барскі        Музыка: Э. Гойлік

Колькі ж раз мы праходзілі міма
І глядзелі у вочы сабе.
Твая стройная постаць, дзяўчына,
Незаменна у сэрцы жыве.

І чаму ж не злучылі далоняў
І не вышлі на сонечны шлях,
Як вясна бушавала па гонях,
Як квітнела чаромхай зямля?

І чаму ж не хадзілі у ночы,
Не глядзелі, як месяц гарыць?
І чаму ж твае губы і вочы
Я не мог цалаваць да зары?

Мне сягоння ніхто не паможа,
У жыцці не сустрэнемся больш.
На ўспамін аб дзяўчыне прыгожай
Аджывае і смутак і боль.

Я самотна выходжу ў прасторы
І іду да шырокіх далін;
Там, дзе ў рэчцы купаюцца зоры
І дзе мёдам так пахнуць палі.

І у небе далёка, далёка
Ты мне зоркай бліскучай маргай.
А я буду стаяць адзінока
І шаптаць: дарагая, бывай!



## ВЯТРАК

словы: В. Швед, муз.: Э. Гойлік

Allegro

mp

За вё-скай у по- -лі на ўзго-рку,

Дзе ўецца гасці- -нец — бальшак,

Аб долі за-ду- -маўся го-ркай

ста-ры, спарахне- -лы вя- -трак.

Аб долі за-ду- -маўся го- -ркай

Ста-ры, спа-рахне- -лы вя -трак.

## ВЯТРАК

Словы: В. Швед музыка: Э. Гойлік

За вёскай, у полі, на ўзгорку,
Дзе ўецца гасцінец — бальшак,
Аб долі задумаўся горкай
Стары, спарахнелы вятрак.

«Найбольш адзінокі на свеце,
Аджыў, як відаць, я свой век.
З мяне насміхаецца вецер.
Пакінуў мяне чалавек.

Не рвуцца ў палёт мае крылы,
Шчаслівых не ўбачыць ім дзён,
Не хопіць, напэўна, ім сілы,
Каб з месца крануць мой жарон».





## ЗІМА

словы: А. Барскі,
муз.: Э. Гойлік

Moderato

*mf*

Эх, зі- ма бе- ла- вежска- я,
бе- ла- я, Па кра- і- не рассы- па- ўся
снег. То- лькі дрэ-вы ста-яць а- ка-
ле- лы- я І су- му-юць аб цё-плай вя-
сне. І- рдзіцца ў со-нцы іскры-на-мі - Мі-
льё- на- мі дро-бненькіх зор. І
мгло-ю плы-ве над да-лі-намі, Як
у- зды-біць сняжынкі ві- хор.

## З І М А

Словы: А. Баркі          музыка: Э. Гойлік

Эх, зіма белавежская, белая!
Па краіне рассыпаўся снег.
Толькі дрэвы стаяць акалелыя,
І сумуюць аб цёплай вясне.

Ірдзіцца ў сонцы іскрынамі —
Мільёнамі дробненькіх зор.
Імглою плыве над далінамі,
Як уздыбіць сняжынкі віхор.

Эх, зіма белавежская, шчырая!
Выпаўняе далін берагі.
Завіруха дыхнула у шыры,
Лёг абрус на палі і лугі.

Не паспелі дубы аднаногія
Скінуць лісточкі са скроні.
У шуме дрыжачай трывогі,
Зацiснулі снег у далонях.

Эх, зіма белавежская, грозная!
Снег елкі па рукі засыпаў.
Бураломам прайшлася марозным
З акордамі воўкавых скрыпак.

Эх, зіма, ты, мая белатварая!
На спатканне з табою іду.
І прайдуся збялелым абшарам
У прыплыве эмоцый і дум.



## ВЯСНА МАЛАДОСЦІ

Andante          словы: А. Баркі, муз.: Э. Гойлік



Лю-блю вя- сну зя-лё-на-гры-ву- ю, У су-кні



краска-вай зя-лё- най, І мчыць па-



во-зкай па-ла-хлі-ва- ю, У-прогшы



со-тню ветраў — ко- ней. Імчыць па-



во-зкай пала-хлі-ва- ю. У - прогшы



сотню ветраў — ко- ней.

## ВЯСНА МАЛАДОСЦІ

Словы: А. Барскі | музыка: Э. Гойлік

Люблю вясну зялёнагрывую
У сукні краскавай зялёнай.
Імчыць павозкай палахліваю,
Упрогшы сотню ветраў — коней.

Эх, маладосць густачупрынная!
Ўстрахні красой — густымі косамі,
І песні — іскры над далінамі
Ссыпай са звонкімі калёсамі.

Замоўкні, стань ў цішы, паслухай,
Хмялей ад песень салаўіных.
І зноў парывам, завірухай
Імчы ў прастор зялёны — сіні.

## ЧАРОЎНАЕ ВІНО

Allegro moderato | словы: В. Швед, муз.: Э. Гойлік

mf

Пла- ну-еш бра- тка жа- ні-

цьбу, Дык ка-лі ласка не за- будзь — Пра-

сіць за стол вя-сельны ўсіх, — Вы-п'ем зда-

ро-ўе ма-ла- дых... Ві- но, ча-

ро-ўна- е ві- но — Ра- зго-ніць

кожны сум я- но — Ві- но —

## ЧАРОЎНАЕ ВІНО

Словы: В. Швед

музыка: Э. Гойлік

Плануеш, братка, жаніцьбу
Дык, калі ласка, не забудзь
Прасіць за стол вясельны ўсіх,
Вып'ем здароў'е маладых.
Віно, чароўнае віно,
Разгоніць кожны сум яно.

Калі ласкавы быў так лёс,
Што бусел нешта нам прынёс,
Мы чарку не адну віна
Асушваем тады да дна.
Віно, чароўнае віно,
Разгоніць кожны сум яно.

Як свет пакінуў сват ці кум,
Агорне нас жалобна сум,
Мы абавязак знаем свой
І вып'ем за душы спакой.
Віно, чароўнае віно,
Разгоніць кожны сум яно.

Да нас прыехаў нейкі госць
Вось на стале і чарка ёсць.
Мы скажам госцю: падымай
Ды і пра нас не забывай.
Віно, чароўнае віно,
Разгоніць кожны сум яно.



## ВЕРНАСЦЬ

Moderato

словы: А. Барскі, муз.. Э. Гойлік

mf

Я хле- -ба а-по-шні ку- -сок ра-здзя-
-лю, ка-лі пры-дзе бя- да. А-ле
пушчы, ду-боў і ку- стоў ні-ко-
-лі ні-ка-му не а- -ддам. А-ле
пушчы, дубоў і ку- -стоў ні-ко-
-лі ні-ка-му не аддам.

## ВЕРНАСЦЬ

Словы: А. Баркі музыка: Э. Гойлік

Я хлеба апошні кусок
Раздзялю, калі прыдзе бяда.
Але пушчы дубоў і кустоў
Ніколі нікому не дам.

Я пушчу бяссмерцем лічу,
Звінячым у шуме галін:
Калі яе песні не чуў,
Самотны хадзіў па зямлі.

Я хлеба апошні кусок
Аддам у няшчасці другім.
Але шум белавежскіх лясоў
Да болю душы дарагі.

## ШТОРАЗ ЛЕПШ ЖЫВЕЦЦА Ў ВЁСКАХ

Allegro

словы: В. Швед, муз.: Э. Гойлік

*mf*

До-ўга Ян быў не-жа- натым,
ўрэшце і я- го узя-ло,
Матац ыклам е-дзе ў сваты,
У су- седня- е ся- ло.
Ла- е Янку жо-нка Лі-за,
што ка- -ханку ён пры- браў,




## ШТОРАЗ ЛЕПШ ЖЫВЕЦЦА Ў ВЁСКАХ

Словы: В. Швед музыка: Э. Гойлік

Доўга Ян быў нежанатым,
Ўрэшце і яго ўзяло,
Матацыклам едзе ў сваты
У суседняе сяло.

Лае Янку жонка Ліза,
Што каханку ён прыдбаў,
А наш Янка тэлевізар
У святліцы пакахаў.

Серп і цэп свой як падаркі
У музей аддаў Рыгор.
Збожжа выжала жняярка,
Змалаціў яго матор.

Вось характар, дык характар,
Мае трактарыст Якім!
Як сядае на свой трактар
Чыстай ён не п'е зусім.

Замяняюцца палоскі
У шырокія палі.
Штораз лепш жывецца ў вёсках,
Так ніколі не жылі.



## МЫ ВЯСКОВЫ ЛЮД ЗДАРОВЫ

Allegro scherzando словы: В. Швед, муз. Э. Гойлік









## МЫ ВЯСКОВЫ ЛЮД ЗДАРОВЫ

Словы: В. Швед музыка: Э. Гойлік

Кажуць нам, не едзьце ў горад,
Там падзвычай многа хворых,
Там шалее грозны грып —
Вы набавіцца маглі б.

А у нашай вёсцы Грыпа
Дваццаць год жыве з Архіпам,
І хоць ён стары, як грыб,
Не хварэе наш Архіп.

Там у горадзе да зморы
Лекар бегае да хворых,
І заззычай потым ён
Сам хварэе многа дзён.

А у нашай вёсцы Грыпа
Дваццаць год жыве з Архіпам,
І хоць ён стары, як грыб,
Не хварэе наш Архіп.

Мы вясковы люд здаровы,
Быццам бы дубы ў дуброве,
Нас і сто ліхіх хвароб
Абяссіліць не змагло б.

Вось у нашай вёсцы Грыпа
Дваццаць год жыве з Архіпам,
І хоць ён стары, як грыб,
Не хварэе наш Архіп.



ІВАН ЧЫКВІН

# КАЛІ ХТО ЧУЖЫ

(П'ЕСА Ў 2-х КАРЦІНАХ)

*Дзеючыя асобы:*

МАКСІМ КАРП — гаспадар, год пад 50.
НАСТУСЯ — яго жонка, 48 год.
ВАЛОДЗЯ, 26 год. } — іх дзеці.
ОЛЯ, 28 год. }
ПЯТРО — муж Олі, трактарыст, 30 год,
АЛЯКСЕЙ — гаспадар, гадоў 37-мі, камуніст.
НІНА — настаўніца, 23 гады.

## КАРЦІНА І.

*Ля сцяны стаіць стол, пры ім некалькі крэсел. З правага боку — дзверы на двор, насупроць — у пакой Олі. Налева — акно. Настуся і Оля ў халаце стаяць каля стала ў чаканні: у сенцах чуваць нейкія крокі.*

### Сцэна 1.

НАСТУСЯ. Хіба хто чужы...

ОЛЯ. Але! Бо каб свой...

НАСТУСЯ. А ты ў халаце. Непрыстойна гэтак, калі хто чужы.

ОЛЯ. То я ж ужо... (выбягае ў свой пакой, праз хвіліну ўваходзіць Валодзя).

ВАЛОДЗЯ. Мама! Добры дзень, мама!

НАСТУСЯ. Валодзя прыехаў (Валодзя цалуе маці ў руку).

НАСТУСЯ. Прыехаў! А я ж... а мы з Волькай думалі, што гэта нехта чужы з самага ранку.

ВАЛОДЗЯ. А тата дзе?

НАСТУСЯ. Тата? А ты з бацькам не прыехаў? Ён жа ж паехаў па цябе.

ВАЛОДЗЯ. Праўда? Тады размінуліся. Я ішоў напрашчкі.

НАСТУСЯ. А ён гасцінцам на станцыю... (Голасна). Оля! Волька! (Уваходзіць Оля, падбягае да Валодзі, падаюць рукі).

ОЛЯ. А мы думалі... Ну, як? Што з дыпломам?

ВАЛОДЗЯ (радасна, паказваючы на кішэню). Тут дыплом. Вось пакуль што і канец. Колькі ж гэта за мною вучобы? (Лічыць у памяці). Сямнаццаць год!.. А што я ўмею? Як падрыхтаваны да жыцця?.. (Да Олі). Адыйдзі, адыйдзі крыху... (Тая адступае крокі два). Цяпер стань бокам... М-м-м! Добрая сястра!

НАСТУСЯ. Валодзя!

ВАЛОДЗЯ (жартуючы). Добрая, мама, сястра. Добрая...

ОЛЯ. Мама, чаго ён...

ВАЛОДЗЯ. Оля, памятай, твой брат хоча хлопчыка. (Сур'ёзна). А дзе Пятро?

ОЛЯ. Пайшоў касіць.

ВАЛОДЗЯ. А як жы вы жывяце? Што новага ў вёсцы? Бо пісьмы былі вельмі ж скупыя.

НАСТУСЯ. Я ж, сынок, непісьменная...

ОЛЯ, А я, ведаеш...

ВАЛОДЗЯ (з усмешкай). А Оля выйшла замуж — і брата ўжо можна забыць.

ОЛЯ. Табе смяяцца толькі.

ВАЛОДЗЯ. А што, няпраўда?

ОЛЯ. Бо і пэўна.

НАСТУСЯ. Не разумею, нічога не разумею. Заўсёды чагосьці нудзіць. Оля, ты не грашы, ты ж пад сэрцам носіш... (На панадворку чуецца «Тпру», праз хвіліну ўваходзіць Максім).

## Сцэна 2.

ВАЛОДЗЯ. Дык мы, аказваецца, размінуліся ў дарозе. З прывітаннем, тата!

МАКСІМ. Добры, добры дзень. А размінуліся... Ну, як жа ты там?

ВАЛОДЗЯ. Ды што, нічога новага ў мяне.

ОЛЯ. Наш Валодзя — ужо магістр.

МАКСІМ. Магістр, гаворыш... Пан, значыць... У сям'і чужы.

ВАЛОДЗЯ (здзіўлена). Які з мяне пан?..

МАКСІМ. А які з цябе гаспадар?

НАСТУСЯ (да мужа). Дык так сына сустракаеш?

МАКСІМ. Я — мужык! Інакш не ўмею! А калі яму не хочацца бацькі слухаць...

ВАЛОДЗЯ. Тата...

ОЛЯ. Чагосьці прыдзіраюцца заўсёды.

МАКСІМ (да Олі). Бацьку вучыць? Яйка?.. Паразумнелі! (Спакайней, да Валодзі). Што, прыехаў... на вёску. Ніякавата без гарэлкі сустракаць. Маці!.. (Сам выцягвае бутэльку з-за стала).

ВАЛОДЗЯ. Калі я не магу піць.

МАКСІМ. Настуся! Закусіць дай... Не можаш? Навучым. (Наліває чаркі).

ОЛЯ. Не пі, Валодзя, не пі.

НАСТУСЯ. Ён жа змучаны. Цэлую ноч быў у дарозе, галодны... а ты з гарэлкай да яго.

МАКСІМ. Ну?

ВАЛОДЗЯ. Не, тата, я піць не буду. Дзякую.

МАКСІМ (з агідай). У-у-у! Каб вас чорт пабраў! І выпіць з імі не можна. (Ідзе да дзвярэй). Маці, накармі сыночка, паклапаціся, каб ён выспаўся. Паглядзі, каб не правеяла ветрам яго, мух паганяй над ім. Чуеш, Настуся! (Выходзіць).



## Сцэна 3.

НАСТУСЯ (ківаючы ў роспачы галавой). Вось так заўсёды: без прычыны будзе, зялёны мак трасе. Распіўся... Ах, божанькі! (Хапаецца рукамі за галаву).

ВАЛОДЗЯ. А куды бацька цяпер пайшоў?

ОЛЯ. Да Пятра, мабыць, касіць.

ВАЛОДЗЯ. Бо тата гарэлку ў кішэню схаваў.

НАСТУСЯ. Праўда? От жа... (зноў ківаючы галавой).

ОЛЯ. П'юць і яшчэ як! Ох, Валодзя, Валодзя. Ты там жыў, вучыўся, нічога не ведаў, што тут робіцца. І я табе не пісала ўсяго, бо і нашто. Думала, прыедзеш — сам убачыш.

НАСТУСЯ. Другія людзі інакш жывуць. А мы тут кідаемся, як рыба на пяску. Зямля выцягвае апошнія сілы. Усё кругом, ад рання да змроку. А стары ўсё больш дзіцянее: што не скажаш — не так. У нас арганізавалі сяляне сельскагаспадарчы кааператыў, гаспадараць машынамі — лягчэй чалавеку. А ён не пайшоў. Я, кажа, смяяўся з калгасаў, буду смяяцца і з гэтага. І што ты з ім зробіш... Дый зяць, хай не будзе сказана ў ліхую гадзіну, не ўдаўся нам.

ВАЛОДЗЯ. Оля, ты плачаш?

НАСТУСЯ. Ты чаго?

ОЛЯ. Ай, мама... Вы наракаеце на Пятра, а хто мяне выдаў за яго?! «Убачыш, ён будзе добрым, ён любіць цябе...» І ўбачылі.

НАСТУСЯ. Чуеце вы? Я на сілу выдала яе за Пятра! Божанькі, дзе праўда?..

ВАЛОДЗЯ. А я ведаў Пятра са школьных год і не раіў выходзіць за яго. Ніхто тады не хацеў мяне слухаць. Не весела! Але плакаць перастань. (Оля выходзіць у свой пакой). Не весела тут, як я бачу, мама. Сваркі — штодзённая ваша справа.

НАСТУСЯ. Валодзя, сынок, уразумі бацьку. Ты ж разумнейшы, ты вучоны, уразумі, каб ён не піў так многа, каб ён па-другому стаў жыць... (Сын маўчыць, думае). А Пятро Олю не любіць. Ой, не любіць, ён, паганы.

ВАЛОДЗЯ. Хтосьці ідзе? (Уваходзіць Ніна).

## Сцэна 4.

НІНА (загледзелася на Валодзю). Прабачце... Добры дзень. Оля яшчэ ў хаце?

НАСТУСЯ (голасна кліча). Оля!

ВАЛОДЗЯ. Добры дзень, Ніна. Даўно мы бачыліся.

НІНА. Як на вялікдзень прыязджалі. Ну, віншую (поціск рукі) з магістрам.

НАСТУСЯ (голасна). Оля, Оля! Да цябе прыйшлі.

ВАЛОДЗЯ. А вы папрыгажэлі, Ніна... (Уваходзіць Оля).

НІНА. Я да цябе, Волечка!

ОЛЯ. Калі ласка, Ніна... Зойдзем у мой пакой, ці тут..

НІНА. Я толькі на хвіліну... Прышла дагаварыцца ў сувязі з гэтым курсам пячэння.

ОЛЯ (запрашае Ніну прысесці, садзіцца і сама). Ніна, то так, як мы і планавалі. Распачнем сёння а сёмай гадзіне, мабыць?..

НІНА. Ведаеш, колькі запісалася жанчын? Сорак тры асобы на 112 двароў.

ОЛЯ. Шкада, што іншыя застануцца на той час у хаце.

НІНА. А чаго ж, Оля, вымагаць ад старэнькіх бабуль? Запісаліся, зразумела, не ўсе, а толькі маладыя гаспадыні.

ОЛЯ. І гэта цешыць.

НІНА. А вы, цёця Насця, прыйдзеце паслухаць нас?

НАСТУСЯ. Куды мне да вас, маладых. Няхай ужо Оля... (выходзіць).

ОЛЯ. Дык збярэмся ў школе?

НІНА. Так, так, я ім ужо гаварыла. (Да Валодзі). Валодзя, дзякую за памяць аба мне.

ВАЛОДЗЯ. Гэта ад шчырай душы.

НІНА. А якія пісьмы, Оля, пісаў ён! Ага, я хацела б узяць тую кніжку

ОЛЯ. Зараз пашукаю. (Выходзіць).

ВАЛОДЗЯ. Колькі часу працягнецца сёння гэты ваш курс?

НІНА. Гадзіны дзве. У хаце ж дзеці плачуць, няма часу.

ВАЛОДЗЯ. Хіба не ў вас, Ніначка?

НІНА. Не ў мяне, але ў маіх вучняў.

ВАЛОДЗЯ. Пахвальная задача... А ўбачыцца можна будзе пасля...

НІНА. Нічагуткі, Валодзік, ты не змяніўся. Убачымся... (Уваходзіць Оля).

ОЛЯ. Уяві сабе, што не знайшла. Я яшчэ пашукаю.

НІНА. Ой, то я за той час пабягу дахаты, крыху прыбяру, а то так усё пакінула, як устала. Пашукай, Волечка... (Выходзіць, за ёю Оля. Праз хвіліну Оля ўваходзіць, кладзе на стол кніжку «Кухня польска»).

ОЛЯ (да Валодзі). Мы з мамаю ідзем у поле. Ніна прасіла гэту кніжку. Бачу, бачу, якімі вачыма ты глядзіш на яе. А яна апошнімі днямі «Не прыехаў, Оля? Не прыехаў Валодзя?» Калі вяселле?

ВАЛОДЗЯ (паказваючы на кніжку). Ты яе раней знайшла? Ой, Оля, Оля!.. Ну, ну, ідзі... (Оля выходзіць). Люблю яе... (Маўчыць нейкі час, разглядаецца па хаце, выглядае ў акно. Ходзіць). Дык я ў роднай хаце? Ага!.. Вось усё знаёмае. Тут стол стаіць, і ложак таксама, у куце вобраз запылены пад ручніком... Я — сын гэтай хаты і я — магістр. А мая мама — непісьменная. Якія полюсы! Ікона і непісьменнасць — трактар і вышэйшая адукацыя! А па сутнасці нічога тут няма дзіўнага. Ці ж можна параўнаць маю маладосць з іхняй!.. Ніна... Жаніцца. І застануся на вёсцы. Я — сын вёскі. Тата гаворыць «пан». Які з мяне пан?.. А які тут гаспадар? Уцякаць з вёскі, бо тут будзе цяжка?.. Ды і сварацца тут. І ў сям'і я чужы. (Нехта стукае ў дзверы). Так! (Уваходзіць Ніна).



## Сцэна 5.

ВАЛОДЗЯ. Я ледзь дачакаўся цябе, Ніна.

НІНА. Оля!

ВАЛОДЗЯ. Ніначка, прыкра мне — ні Олі, ні мамы ў хаце няма. Сядай.

НІНА. Як жа так! А кніжка?

ВАЛОДЗЯ. Яна ляжыць на стале. Оля з мамай пайшлі ў поле. Людзей саромеешся?

НІНА. Бо ўсё ж такі... Дзякую, Валодзя, за памяць аба мне. Які цудоўны туалетны набор! Знаеш, прыходзіць аднаго разу да мяне Оля убачыла яго і давай распытваць: адкуль, за колькі? Сорам было прызнацца.

ВАЛОДЗЯ. Вось табе і нарачоная! А ці ведаеш ты, што Оля спецыяльна не дала адразу табе кніжкі?

НІНА. Быццам гэта адна магчымасць, каб нам з табою пагаварыць.

ВАЛОДЗЯ. І то праўда... Ніна, дык як жа будзе?.

НІНА. Што, Валодзя?

ВАЛОДЗЯ. Ну, з гэтым... (цалуе яе).

НІНА. Ох, Валодзя... (Маўчаць). Табе Оля не гаварыла, што да мяне яе муж заляцаецца?

ВАЛОДЗЯ. Не можа быць? Пятро?

НІНА. Калі б не ўбачыў — зачэпіць! Уяві сабе, аднойчы нават дабіваўся да мяне ноччу.

ВАЛОДЗЯ. Што ты гаворыш?.. Што на гэта яна, Оля?

НІНА. Оля яго не кахае. Можа, мне і не выпадала б гэтак гаварыць, але знаеш, яны не сабе.

ВАЛОДЗЯ. Што ж гэта такое? Дзе прычына? Ніна, ты мне растлумач, што тут такое робіцца?

НІНА. Бачыш, мне здавалася і раней, што Оля не кахала Пятра. Гэта быў, хутчэй усяго, першы яе парыў. А бацька твой, дзядзька Максім, знаеш... вось і сабе падабраў такога зяця. Ён, пакуль яшчэ не быў трактарыстам, многа піў, а стаў трактар вадзіць — і горш таго. Дзядзька Максім паспяшыў... А на Олю Аляксей усё часцей заглядаецца.

ВАЛОДЗЯ. Ну, гэта хіба глупства... І я раіў ёй тады падумаць. Каб пахадзіла з ім даўжэй, сама ўбачыла б да канца яго характар.

НІНА. Хаця... ён хлопец быў прыгожы і характар у яго не быў дрэнны...

ВАЛОДЗЯ. А чаго цяпер да цябе чапляецца?

НІНА. Ды ўсё з такімі намёкамі: «Ніна, наша яшчэ не прапала. Ніна, я люблю настаўніц».

ВАЛОДЗЯ. На халеру тады ў іх дзіця будзе, калі ім... калі ім разыйсціся трэба.

НІНА. Што ты гэтым хочаш сказаць? Няўжо ты думаеш, што я пайду за Пятра?

ВАЛОДЗЯ (хутка). А я?.. Ні на адну хвіліну так не падумаў.
НІНА (пасля хвіліны маўчання). Ці гэта прызнанне? (Валодзя цалуе Ніну ў руку). Ой, хіба ідуць вашы з поля.
ВАЛОДЗЯ. Ну і што ж такога... (Уваходзіць Максім і Пятро).

## Сцэна 6.

ПЯТРО. О-о-о!.. Бачыце, бачыце іх... (Да Ніны). А можа, ты ўляпілася ў нашага студэнта? (Да Валодзі). Здароў! Ну!
ВАЛОДЗЯ. Добры дзень!
МАКСІМ. Дзе маці?
ВАЛОДЗЯ. У поле з Оляю пайшлі.
МАКСІМ. У поле... (Да Пятра). А чаго ад цябе хацеў той... Аляксей?
ПЯТРО. Пайшоў ён к чортавай мацеры. Я яму не парабак.
МАКСІМ. Агітаваў?
ПЯТРО. Я б яго... Да яго з трактарам.
МАКСІМ. На калі?
НІНА. Валодзя, пасля пагаворым.
ВАЛОДЗЯ. Добра, Ніначка. Ты ўжо ідзеш?
НІНА. Ага, пайду.
ВАЛОДЗЯ. Правяду цябе.
ПЯТРО. На заўтра... (Да Валодзі)... Гляньце, за ручку трымаецца. Ты яе не каляй... Глянь, якая яна ў нас. Сабе пашукаў бы... так сказаць... такую, як сам.
МАКСІМ. А чаго ж ты да яго прычапіўся? Ніна, прыходзьце да нас часцей.
НІНА. Дзякую, дзядзя Максім.
МАКСІМ. Мы вам вельмі рады...
ПЯТРО. І ён прыехаў. (Валодзя і Ніна выходзяць).
МАКСІМ. Ты што? А калі Валодзя захоча жаніцца з настаўніцай? Жанаты чалавек — фу! Ды Оля ў якім стане ходзіць...
ПЯТРО. У стане... Мала што...
МАКСІМ. А настаўніца мне падабаецца. Яна не такая, як нашыя... Сваймy дзіцяці, якое б яно не было, хацелася б як найлепш. А многа сёння выкасілі.
ПЯТРО. Мно-ога... (Уваходзяць Валодзя з Аляксеем).

## Сцэна 7.

АЛЯКСЕЙ (Да Пятра). Я прыйшоў яшчэ раз прасіць. Як жа так: я запланаваў усе работы, ты мне паабяцаў, а цяпер... І, па сутнасці, трактар не твой.
ПЯТРО. А я з вамі і гаварыць не хачу пасля таго.
АЛЯКСЕЙ. Ах, вось дзе балючае месца. Ну, тады што ж...
МАКСІМ. Дзе тыя кабеты? Хто зварыць? Мне есці, есці хочацца.
ВАЛОДЗЯ. Яны неўзабаве прыйдуць.



АЛЯКСЕЙ. Ну, тады што ж... зразумей, што партыйная арганізацыя паступіла з табою зусім лагодна. Як ні як — чалавек малады, табе жыць, вучыцца...
ПЯТРО. «Вучыцца»! А чаму ж гэта вы не вучыліся?
АЛЯКСЕЙ. Бачыш, які ты! Замест кніжкі і пяра, я вымушаны быў трымаць у руках гранату і стрэльбу. А потым... Хто зразумее? Вёска гарэла. Нашае ўсё пайшло з дымам. Толькі двое малодшых маіх брацікаў выпаўзла з агню. Ці ж мог я пасля ўсяго таго нармальна вучыцца, калі трэба было залечваць раны, ставіць хаты, будаваць школу, каб тыя малодшыя, што за намі раслі, каб яны маглі вучыцца. А ты?.. Глянь, вось твой равеснік, Валодзя, а хлопец з вышэйшай адукацыяй. Эх, маладосць!.. І што выйшла б, каб мы цябе аддалі пад суд?
ПЯТРО. «Мы! Мы!»
АЛЯКСЕЙ. Раз злавілі цябе на кражы, другі раз. Гаварылі, угаварвалі, даказвалі, да чаго гэта вядзе. Ты п'еш і, дзякуючы таму, што патрэбны нам у кулку ральнічым, не папраўляешся і цягнеш адтуль усё, што можаш. Адкуль у цябе такая цяга да грошай? Ты што, сапраўды хочаш пад суд?
ПЯТРО. Не страшце мяне судом. Не баюся я! «Суд»! «Суд»!
АЛЯКСЕЙ. Дзядзя Максім...
МАКСІМ. Што Максім? Максім тут не пры чым. Не хачу я ў вашыя справы рукі саджаць.
АЛЯКСЕЙ. Так... (Да Пятра). Твая філасофія пацерпіць крах.
ПЯТРО. «Філасофія»!.. Ніякай філасофіі я не маю. Мне абы грошы. За іх усё можна зрабіць. І больш я нікога і нічога не прызнаю. І ў ніякія палітыкі не гуляю, як вы, камуністы.
АЛЯКСЕЙ. Вось, вось, гэта якраз тая самая філасофія. Я ніколі не спяшаўся асуджаць чалавека, але гавару табе, што з такім падыходам да жыцця ты далёка не заедзеш. Грошы заўсёды былі і застануцца чужымі чалавеку. І грашовыя адносіны наскрозь чужыя. Ці ты калі падумаў, каб зрабіць што-небудзь другому чалавеку ад душы, не за грошы, па-чалавечы? Так вось тады мы паступілі з табою, думаючы, што ты паправішся. А ты за гэта гневаешся, не хочаш працаваць...
ПЯТРО (раптоўна). Вон! Вон! Я тут зараз на кавалачкі ўсіх... Вы ўсе так: ціхенька, ціхенька — і, як клешч за шкуру. Вы прыйшлі мяне навучаць. «Малады... пад суд...», а вас то не? Думаеце, я не бачу, хто ходзіць да маёй жонкі! Кругом вучоныя, паны... і таксама кусае адзін другога.
ВАЛОДЗЯ. Ты, Пятро, заўсёды быў гарачы. Ці ты падумаў калі-небудзь аб сабе: які ты?
ПЯТРО. І ты?.. Пано-ок! Я б вас усіх павывешваў?
МАКСІМ. Ну! Памалу! Рукі кароткія!
ПЯТРО. А вы якія? Святым хочаце быць? Не ўдасца... І ад Олі рукі далей трымайце, а то...

АЛЯКСЕЙ. Дзядзька Максім, я хацеў бы пагаварыць з вамі. Выйдзем з хаты... (Выходзяць, на адходнае Максім трасе кулаком Пятру. Пятро варожа глядзіць на Валодзю).

ЗАСЛОНА

## КАРЦІНА II.

### Сцэна 1.

*Пакой Олі. З правага боку ля сцяны яе ложак, Оля ляжыць на ім ніцма, плача; пры ёй маці, суцяшае яе. На сцэне, крыху збоку, стол, на ім буханка хлеба, накрытая абрусам, зверху ляжыць вялікі сталовы нож.*

НАСТУСЯ. І няма чаго плакаць... Перамелецца — мука будзе. І з Пятром будзеш жыць. Хутчэй мне вось унука дачакацца. А тады і Пятро паразумнее, усё будзе добра. Не плач!.. І я была ў тваіх гадах, і ў мяне ўсяк бывала. Маладая, застануся, бывала, адна ў хаце, а Максім пойдзе куды пасядзець ці нават выпіць, а я тут думку думаю... І плакаць часам надыйдзе такая ахвота... Але, хапала і для мяне... І на курс ты не пайшла. Настаўніца будзе гневацца. А трэба было пайсці. Оля, а не ведаеш, куды наш Валодзя пайшоў?

ОЛЯ. Не! Апошні раз бачыла яго перад абедам. Як гляну ў на мяне... такі чужы! І за што ён злосны на мяне!

НАСТУСЯ. Наш Валодзя добры! Можа табе так толькі здалося? Ён, мусіць, да яе пайшоў...

ОЛЯ. Можа і да яе... У іх жа хутка вяселле.

НАСТУСЯ. Вяселле, гаворыш? Бацькам — то не скажа... Няхай жэніцца. Вывучыўся, пара. А дзяўчына трапляецца, ой! Добрая, добрая...

ОЛЯ. А я, мама, не магу з ім жыць, не магу...

НАСТУСЯ. Як ты гэтак можаш гаварыць! Дурненькая ты! Хай Валодзя ажэніцца з настаўніцай, з Нінай, тады Пятро будзе цябе трымацца. А ты з Аляксеем не пачынай, не пазволю.

ОЛЯ. Ой, не, мама! Не так усё проста, як вам здаецца.

НАСТУСЯ (прыслухоўваецца). Ці не Пятро ідзе толькі... (Уваходзіць Аляксей).

### Сцэна 2.

АЛЯКСЕЙ (на парозе). Добры вечар... (Оля ўстае з ложка і сядае пры стале).

НАСТУСЯ. Добры вечар! Чаго вы хацелі, Аляксей?

ОЛЯ. Мама...

АЛЯКСЕЙ. Я прыйшоў да Олі... Мама, вы ж знаеце, што мы з Оляю да сябе не абыякавы...

НАСТУСЯ. Не называй мяне мамай, паганы. У Олі муж! Што вы вырабляеце? Што скажуць людзі? Не пазволю, каб мае дзіця... каб аб ёй пляткавалі.



ОЛЯ. Мама, ты нічога не ведаеш...

НАСТУСЯ. Вядома, я непісьменная. Тым мяне лёс пакараў. Але ты не рабі фокусаў. Муж з хаты — і да цябе прыходзіць Аляксей, як вам не сорамна? Вам тут не месца!

ОЛЯ. Як вы можаце выганяць з хаты...

НАСТУСЯ. І выганю! Пакуль я жыву, пакуль я маці твая!

АЛЯКСЕЙ. Оленька...

НАСТУСЯ. Пайшоў, паганы, адсюль! Глянь на яе! У яе хутка будзе дзіцё, а ты...

ОЛЯ. Мама, ты нічога не знаеш... Гэта наша дзіця... Алёшы дзіця. (Маці трывожна глядзіць на абоіх).

АЛЯКСЕЙ. Так, мама...

НАСТУСЯ. Ты! Шлюха! (Выбягае з крыкам). Хай толькі бацька даведаецца!.. Максім!

ОЛЯ (падбягае да Аляксея). Алёшык, ты гаварыў з бацькам?

АЛЯКСЕЙ. Знаеш, я нават не спадзяваўся, што дзядзя Максім захоча мяне выслухаць. Яны ж з Пятром, здавалася, жывуць у такім сяброўстве, а тут...

ОЛЯ. Вось бачыш. Алёшык, не прыходзь пакуль. Справа пойдзе ў суд. А цяпер ідзі, а то мама злуецца.

АЛЯКСЕЙ. Оленька, ты толькі не хвалюйся. Усё будзе добра. Ну, я пайду. (Цалуе яе, выходзіць. Оля нейкі час сама, сядзіць, ахапіўшы галаву рукамі. Потым уваходзіць Валодзя).

### Сцэна 3.

ВАЛОДЗЯ. Што здарылася? Ці вы тут штодзень так жылі? (Оля толькі гляне на яго і маўчыць). Мне гэта праціўна! Нейкія сваркі, нейкія недасказаныя думкі, затаеная злосць — на каго? Навошта? Што сталася з мамаю, што клікала на ўсю вёску...

ОЛЯ. Нічога! Прыйшоў у хату Алёша — мама і раскрычалася.

ВАЛОДЗЯ. Ах, Алёша!.. Значыць, гэта праўда, што ён з табою рамансуе! І хто б гэта падумаў, хто б гэта падумаў! Ты, дзяўчына, здаецца, і разумная, а вядзеш сябе, як тая з вуліцы... Оля, апамятайся!

ОЛЯ. «Апамятайся! Апамятайся»! Ці ты хоць крышку знаеш той праўды... і той няпраўды, якой я апутана? Не знаеш! Табе лёгка гаварыць! А мне... а мне... (пачынае плакаць) гэта трэба перажыць. Ну, зрабіла ў жыцці не той крок, ну выставіла сябе на пасмешышча... Але ці нельга мне папravіцца? А ты «апамятайся»... Валодзя, ты ж знаеш, які Пятро. Ён не мне...

ВАЛОДЗЯ. Што тады рабіць будзеш?

ОЛЯ. Развядзёмся.

ВАЛОДЗЯ. А калі ён не захоча?

ОЛЯ. Захоча...

ВАЛОДЗЯ. А што тата, мама?

ОЛЯ. Няхай што хочуць... Яны ж ведалі раней, што я... што я Алёшу кахала.

ВАЛОДЗЯ. Веру табе... І хачу цябе зразумець. Толькі ў гэтай справе ёсць адна заноза. У цябе ж будзе дзіця.

ОЛЯ. Валодзя, ты нічагуткі не знаеш! Ну, нічагуткі...

ВАЛОДЗЯ. Магчыма! Але ці ж ты хочаш застацца сама з маленствам на руках?

ОЛЯ. Чуеш?.. Ідзі, ідзі, бо, пэўна, мама ідзе. Цяпер — то пачнецца... (Уваходзіць Ніна).

## Сцэна 4.

ОЛЯ. Заходзь, заходзь, Ніна. А мы думалі — мама.

ВАЛОДЗЯ. Прысядзь у нас.

НІНА. Дзякую... А калі мама?

ОЛЯ. Ой, хоць ты з хаты ўцякай. Нічога не хочуць слухаць.

НІНА (да Валодзі). А ты вось дзе! А мы, здаецца, дагаварыліся ў другім месцы... Ну, нічога, нічога. Оля, а ты чаму не прыйшла на курс?

ОЛЯ. Не магла, Ніна. Не магла, не магла...

ВАЛОДЗЯ. Адны хочуць жаніцца, другія развод браць.

НІНА. Калі трэба, то што ж... Аба мне ўжо вёска гаворыць. Кабеты не даюць спакою: калі будзе вяселле, калі будзе... А Валодзя маўчыць, і я маўчу. Хаця ён намякае... праўда Валодзя?

ВАЛОДЗЯ. Ніначка, бачыш, такая справа: у Олі не ладзіцца...

ОЛЯ. Я вам нічагуткі не перашкаджаю.

НІНА. Ды я смяюся, Валодзя. Оля, нам няма чаго спяшацца. А першы дзень курсу, знаеш, удаўся. Жанчыны пытаюцца, спораць — як лепш, просяць паўтарыць тое ці другое. Каб так і далей было!

ОЛЯ. Ну, вось бачыш...

НІНА. Іду я па вуліцы і бачу — пераходзіць мне дарогу Хведараў, той з ЗМВ, і так яму няёмка, гэта ж мой былы вучань, і просіць праз мяне Валодзю, каб ён прыйшоў да іх у чацвер.

ВАЛОДЗЯ. Што ж, трэба памалу ўцягвацца ў жыццё, у яго справы, калі застаёмся на вёсцы. Пайду, пайду, пагляджу, якія ў іх планы.

НІНА. Наша моладзь не адными планамі жыве, ёсць у яе і нейкія дасягненні.

ВАЛОДЗЯ. Тым лепш, Ніначка...

НІНА (да Олі). У наступны раз прыйдзеш?

ОЛЯ. Ой, Ніна, ты шчаслівая! Пры табе твой жаніх — табе што! А я не магу абяцаць. Але калі будзе час — прыйду.

ВАЛОДЗЯ. Ты толькі цяпер не пераймайся многа.

НІНА. А Пятро ўсё-такі дрэнны чалавек. Замест таго, каб быць у хаце, то ён п'е ў каваля. Назбіраў п'яніц і выкрыкваюць, што аж на вуліцы чуваць.

ВАЛОДЗЯ. Зноў п'е?



ОЛЯ. Наробіць шуму...

ВАЛОДЗЯ. І тата там?

НІНА. Не, здаецца, няма.

ОЛЯ. Не хапала яшчэ таго, каб і тата сёння ўпіўся... (Раптоўна ўвальваецца ў хату п'яны Пятро).

## Сцэна 5.

ПЯТРО (стаіць, хвіліну маўчыць). Я думаў, што ў цябе ён... а гэта... паны. Нічога, мы... мы знойдзем Аляксея, мы яго знойдзем... Дзе бацька? Максім дзе, пытаю?.. Ён мне ад сёння вораг. Так, вораг! А што, бацька не можа быць ворагам?.. Ён не хацеў з намі выпіць... (Ідзе да Олі). Ну!.. А ты што? Разводу захацела?! (Глядзіць на Валодзю і Олю, якія стаяць разам). Згаварыліся! Няма доступу! І развядземся! Ад сёння! Захацелі мяне з'есці!.. (Да Олі). На!.. З'еш!

ОЛЯ. Валодзя...

ВАЛОДЗЯ. Пятро, Пятро, ты што...

ПЯТРО. Чаго! Гэта мая жонка... Я мала яе біў.

НІНА (да Валодзі, не голасна). Вывядзі яго...

ВАЛОДЗЯ. Ты што, біць яе збіраешся?

ПЯТРО. Я думаў — яна з Аляксеем... (набліжаецца да стала, дзе ляжыць нож).

ОЛЯ. Валодзя...

НІНА. Пятро, ты паслухай...

ВАЛОДЗЯ. У яе дз.ця будзе... Ці ты забыўся?

ОЛЯ. Валодзя, гэта не яго дзіця. Я даўно хацела сказаць... Ніна, гэта будзе дзіця Алёшы. (Валодзя моцна здзіўлены, але відаць, што ён рады гэтаму).

НІНА (толькі да Валодзі). Яна мне раней гаварыла...

ОЛЯ (да Пятра). Ён гэта добра знае... І ты тут чужы, я цябе ніколі не кахала.

ПЯТРО. Я знаў... я знаў... я знаў. Ты!.. (Ён раптоўна хапае са стала нож і кідаецца ў кірунку Олі. Валодзя спрытна падстаўляе нагу — Пятро падае, нож вылятае з яго рукі, Ніна хавае нож за сябе).

ОЛЯ. Звер!

ВАЛОДЗЯ. Што ўздумаў...

НІНА. Каб не ты, Валодзя...

ОЛЯ. Дзе Алёша?

НІНА. З нажом на жанчыну...

Падымаецца Пятро. На руках і нагах выпаўзае на двор. На сцэне маўчаць. Праз хвіліну Пятро кідае камнем у сцяну, аж акно адзываецца.

ОЛЯ. Валодзя, бяжы да Алёшы. Скажы яму, што так і так...

ВАЛОДЗЯ. Ніначка, я зараз... (хутка выходзіць).

*ЗАСЛОНА*

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Пішу да вас таму, што адзін хвакт да гэтага прымусіў.

Прыехаў да нас два тыдні таму прыгожанькай таксоўкай, абвешаны з усіх бакоў нейкімі скрыначкамі, як потым высветлілася, апаратам, які знімае, і чымсьці іншым, што бліскае, свой хлопец з «Нівы». З ім было яшчэ пару, якія гаварылі па-просту, але разбегліся ў розныя бакі.

Адзін з іх сказаў:

— Ну, маем часу толькі 5 мінут, да справы хлопцы!

— Вы Антось Рэдзька? — запытаў задыханы той, што быў абвешаны.

— Я, — адказаў яму. — А што такое?

Тады ён сказаў, што вельмі добра і што хоча правесці са мною інпарву. Я не ведаў, што гэта такое, але ён не быў злосны, і я супакоіўся. Папрасіў, каб адказваў на яго пытанні.

— Што вы, паночку, я чалавек цёмны, лепш няхай малодшыя адказваюць, яны больш вучаныя, — пачаў прасіць яго.

— Нам якраз трэба, каб вы адказвалі, вы ж былы дзеяч.

Праўда, я калісьці дзейнічаў і то моцна, а зараз толькі абсеў, ну, але калі былы дзеяч патрэбны, то ўжо тут не вырабішся.

— Ну, добра, пытайце, — кажу я.

Ну і ён пытаў:

— Вы былі ў Грамадзе?

— Чаму ж не, быў.

— Чаго дамагаліся?

— Ну многа хацеў... каб школа была, каб культуру развіваць, п'есы беларускія ставіць, каб людзі жылі па-людску і яшчэ многа іншых спраў... хто іх цяпер успомніць. Некалькі раз за тое, што я гаварыў, нават міліцыяй страшылі. Добра, што ў турму не папаў.

— Ну, так, — згадзіўся журналіст, — многа часу прайшло. То, значыць, вас паліцыяй страшылі?

— А як жа, хто яго ведае, як яе зваць, міліцыя ці паліцыя. Вы ўжо лепш ведаеце, — кажу.

— Ну, дзядзька, вельмі дзякую, пабягу, час на мяне. Зраблю толькі здымачак яшчэ.

Пасадзіў мяне на прызбу, пстрыкнуў, бліснуў і пабег.

А праз два тыдні паявіўся я ў «Ніве» пад загалоўкам «Антось Рэдзька, былы грамадоўскі дзеяч, расказвае аб сабе» даўжэзны артыкул са здымачкам маім. Усё было так прыгожа напісана, што я толькі па «Ніве» расказваю аб сабе, праўда, дату змяніў бо яшчэ ў той час, як усё апісваецца аба мне, я хадзіў без нагавіц, а мой бацька, таксама Антось Рэдзька, быў сапраўдным дзеячом Грамады. Ён тады, калі я размаўляў з рэдактарам, спаў на печы, а зараз ругаецца па матушцы на ўсю вёску.

А я быў у грамадзе, гэта значыць, радным грамадскай рады нарадовай, і два разы міліцыяй страшылі, бо па-п'янаму на сесіі дамагаўся, каб падаткаў не плаціць.

З павагай *Антось Рэдзька*



ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ «НІВЫ»

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

На днях быў у нас паэта. Стройны такі хлопец.

Усё сяло прыйшло на сустрэчу ад малога да старога.

Была і мая дачка Зіна. Ёй паэта вельмі спадабаўся. Не спіць цяпер па начах і піша вершы. Каб толькі па начах пісала, было б паўбяды, а то яе і днём да работы не запрэш. Усё вершыкі складае. Праўда, вершы піша цудоўныя, не горш чым той паэта, які быў у нас, і толькі аб каханні.

Я перапісаў адзін, які мне найбольш спадабаўся і пасылаю вам:

Прыедзь, прыедзь да нас паэта  
І раскажы мне аб каханні...  
Табе душа мая раздзета  
Заўсёды — вечарам і раннем.

Ты ўвайшоў у мае сэрца,  
Ну, проста ангел, проста з раю!  
А я б пабіла морду Верцы  
За тое, што цябе кахае.

Прыедзь, прыедзь да нас паэта!  
Да смерці я цябе кахаю,  
Табе душа мая раздзета,  
Бо ты, здаецца, проста з раю.

Напішыце, ці вершы аплаціцца пісаць? Ці гэты верш вам падабаецца і колькі за яго можа быць грошай, ну, напрыклад, каб вам прадаць? Ну і яшчэ напішыце, ці той паэта, які закруціў галаву маёй Зінцы, нежанаты?

Ваш *Антось Рэдзька*

## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Я чытаю «Ніву», пачынаючы ад апошняй старонкі і чуў, што вы святкавалі, а таксама таварыства сваю 10-тую гадавіну з дня нараджэння. Хачу яшчэ напісаць, што я сумленны член таварыства, бо купіў усе кніжкі, якія ёсць у таварыстве ў Беластоку і ўсёй сям'ёй чытаем. Усім захапляемся, а Зіна найбольш упадабала таго паэту, які ў нас быў і чытаў вершы. Ён сам казаў, што гэта цык і карэнні нейкія, але там не было ні аб цыклу ні аб карэннях, толькі адна распуста.

А Валодзя мой у мяне пайшоў па дзейнасці. Ён цяпер мае з 8 хаўнкцый і ёсць старшынёй гуртка. Розныя камедыі выстаўляюць, а як добра заробяць, то за тыя грошы п'юць, аж дым ідзе. Няхай п'юць на здароўе, бо гэта нікому шкоды не прыносіць і яшчэ ў павеце хваляць за тое.

На днях наведаў нас, гэта значыць, Валодзю, інструктар таварыства, які яшчэ чатыры гады таму назад многа паабяцаў і потым не паказваўся да нас.

Радасны гэты хвакт быў маім няшчасцем. Справа такая, што мой сабака ўзяў ды пакусаў таго інструктара. Інструктара ледзь адратавалі ад сабакі, а ён замест падзякі сказаў: «Такі сабака, як і сам гаспадар». І пачаў грaзіць мне. Кажа: «Ведаеце, за такія штукі ў каталажку садзяць». Бачу, справа нядобрая. «А як ведаеце, — далей гаворыць, — у нас цяпер старшынёй суддзя Ваяводскага суда. Ён з такімі тыпамі, якія таварыству шкодзяць, зусім не цацкаецца. О, божа мае ногі», — заенчаў. Я хутчэй кажу: «Валодзя, ідзі да Даркі па літра. Ён, нібыта, супакоіўся крыху. Выпілі дружна і інструктар, здавалася, быў задобраны. Выпіўшы апошнюю чарку, пачаў зноў грaзіцца: «Думаеце, — кажа, — мая нага такая звычайная. Як усе? Брат, нага мая даражэй золата. Без маіх ног таварыства даўно ляжала б на лапатках. Няма што, паведамлю ў Беласток, што мяне пакусаў сабака Антона Рэдзькі. Думаеце, суддзя вас за гэта па галоўцы пагладзіць?»

Мне стала страшна. Вось, думаю, дажыўся Рэдзька да таго, што пракурор за дурнога сабаку будзе цёгаў.

Прашу яго ласкаю, не рабі гэтага, даражэнькі. Мы тут усё наладзім. Праца твая нічуць не сарвецца. Не толькі той месяц звальнення, што табе доктар дасць, але і праз цэлае лета мой Валодзя вазіць цябе будзе маторам.

Ён не згаджаўся ні за што. Кажа: «Я пакусаны вашым сабакам, маю яшчэ па гуртках лазіць, а Валодзя толькі вазіць будзе. О не, так быць не можа. Няхай бярэ палавіну павета ды сам абслугоўвае. Інакш пабачым!» — прыгразіў. Я і сам не ведаў, што рабіць. Хто ж гэта бачыў, каб мне хлопца ад работы на цэлае лета адарваць!

Інструктар паехаў і маўчыць. Але я трывожуся яго маўчаннем. Цярпеў, цярпеў і не выцерпеў. Расказаў гэта ўсё свайму куму. Кум тады мне кажа: «Чудак ты, Антось. Інструктар больш за цябе баіцца. Няхай толькі пікне каму, што сабака пакусаў актывіста таварыства! Усе ведаюць, што сабака не кусае добра знаёмых. А як ты думаеш — сабака можа ведаць чалавека, які за дзесяць год паказаўся ў нас толькі два разы. Вось яго і запытаюць, чаму пакусаў. Цяпер пастукай сабе пальцам у лоб!»

Кум, па-мойму, сказаў разумна. Калі вы такія разумныя, як мой кум, будзе ўсё ў парадку, але перадайце суддзі, г. зн. нашаму старшыні, каб ён верыў мне, што я для таварыства адданы чалавек.

*Антось Рэдзька*

## 30 ПЕСЕНЬ АГАТЫ КАРПЮК



Агаце Карпюк з Капітаншчыны, Гайнаўскага павета, ужо амаль 80 год. Шмат песень, якія пачула яна ў сваім жыцці, захавала ў сваёй памяці да сённяшняга дня. Настаўніца Анастасія Майсеня, якая запісала тэксты ніжэйшых песень, мае ўражанне, што Агата Карпюк — гэта невычарпальная крыніца для запісу народнай творчасці. Яе песнямі быў захоплены вядомы кампазітар і папулярызатар беларускага фальклору ў Польшчы Эдуард Цюкша з Лодзі, які запісаў іх музыку. Дзве гадзіны спявала Агата Карпюк. На нейкі момант Э. Цюкшы здалося, што старая жанчына сама, як казахскі акын, стварае словы і музыку песень. Ён паказаў пальцам на адну з ужо праспяваных і запісаных у яго блакноце песень і папрасіў па-беларуску, каб «цётка праспявала яе яшчэ раз». Песня была выканана другі раз без памылкі.

Такіх таленавітых людзей паўднева-ўсходняя Беласточчына мае яшчэ многа. Ад некаторых з іх песні ўжо запісаны, але праца гэта яшчэ толькі запачаткавана.

Ніжэй змяшчаем першых 30 песень Агаты Карпюк у запісе Эдуарда Цюкшы.

## СОКОЛЕ, СОКОЛЕ ВЫСОКО ЛЕТАЕШ...

Со-ко -ле со- ко-ле, вы-со- ко ле-та-еш,
a d e7 a7
A A D E A

вы-со-ко ле- та-е вон па- рань-ку ма-е
d a d e7 a
D A D E A

а я сам а-дзін на све-ці му-шу со-бе
d a d a d a d
D A D A D A D

па-ру шу- ка- ці
e7 a e a
E A E A



## СОКОЛЕ, СОКОЛЕ ВЫСОКО ЛЕТАЕШ...

— Соколе, соколе, высоко летаеш,
Высоко летае, вон параньку мае.
Я сам адзін на свеці,
Мушу пары шукаці.
З'ездзіў я коніка,
З'ездзіў я і другого;
Скажы дзеўко праўду,
Чы будзе што з таго?
— Я табе казала,
І твоему роду,
Ні хадзі да мэне,
Ні рабі заводу.
У мэне пасагу ні будзе,
Возмут мэне і так добры людзі,
Мне твого пасагу
Ні вельмі патрэба,
Заплаціт мне пан бог
З высокаго неба.
Ты ў мэне пасаг сама,
Як на небі зара.
— Цяпэр ты кажэш,
Што зара ясна;
А послі скажэш —
Доля нішчасна.
Ні дажанеш ты,
Дажне маці,
Было без пасагу
Ні браці.

Я Ў ПОЛІ СОСНА...

Я у по - лі со - сна тон-ка і га-

dm a7 c7

D A A C

ло - сна Яш-чэ не вы - ро- сла

f dm gm

F D G

А ўжэ за-муж по - шла я-шчэ не вы-

a7 dm

A D D

ро- сла а ўжэ за - муж по - шла.

gm a7 dm

G A D



## Я Ў ПОЛІ СОСНА...

Я ў полі сосна,
Тонка і галосна,
Я яшчэ не вырасла,
А ўжэ замуж пошла.
Аддай мэне, тату,
Да новае хаты,
У валіку дружыну.
Я па новай хаці,
Люблю пахажаці,
На шырокім полі
Люблю жыто жаці.
Там у лесі клён явор шыбае,
Брат сястрэ пытае;
— Як се маш, сястронко,
Чы добрая доля?
— Доля мая, доля,
Ні магу сказаці,
У якой долі парадзіла маці.
Пазазу я долю,
У горад прадаваці,
Знают, што ліхая,
Ні схочуць купляці.
Кашуля бела,
Кроўлю акіпела,
Хустачка ядбабна
У руках затлела.
Фартушок беленькі,
Ад слёз мокрэнькі,
О то ж табе, сястро,
Новая хата,
Радзіна багата!

**ТАМ ЗА ЛЕСАМ, ЗА БОРАМ...**















## ТАМ ЗА ЛЕСАМ, ЗА БОРАМ

Там за лесам, за борам,  
Там сонечко іграло,  
З месецом размаўляло.  
Пыталасё сонцэ месеца:  
— Чы рано сходзіш?  
Чы позно заходзіш?  
— Я ў пору сходжу,  
У пору заходжу.



## ЯК ПАШЛА Я Ў ДРУЖЫНУ

Як па- шла я ў дру- жы-ну,
бы-ло мне ця-жко жы-ці
са-мі се-лі ве-чэ- ра-ці
я па во- ду па- шла



## ЯК ПАШЛА Я Ў ДРУЖЫНУ

Як пашла я ў дружыну,
Было мне цяжко жыці,
Самі селі вечэраці,
Я па воду пашла.
Я з вадою ішла,
У сенях падслухала:
Хто-то ў хаці гаманіт,
Маці з сынам гаварыт:
— Чом ты водкі ні п'еш?
Чом ты жонкі ні б'еш?
— Як я ее буду біці,
Калі мне сэрцэ баліт.
Як я ее браў,
Як мак расцвітаў.
А цяпэрка што з ее стало,
Што я сам не пазнаў.
Я ее браў,
Як розавый цветок,
А цяпэрка вана стала,
Як беленькі платок.



## ПЫТАЕ СЫН БАЦЕНЬКА

Пы-та-е сын ба- цень-ка

на што ка- -ня ся- дла-еш

і так га-ло- снень-ко пла-чэш



## ПЫТАЕ СЫН БАЦЕНЬКА...

Пытае сын баценька:
— Нашто каня сядлаеш?
І так галосненько плачэш.
— Для цябэ, мой сыніку,
Для цябэ, мой родненькі,
Бо ты пойдзеш у салдаты,
Панісеш галованьку,
У чужую старонаньку,
Панісеш свае рукі
Пад маскоўскіе вывукі.
Панісеш свае ногі.
На жалезны дарогі.
Пытае сын матулі:
— Нашто кашулю шыеш,
Так жаласненько плачэш?
— Для цябэ, мой сыніку,
Для цябэ, мой родненькі,
Бо ты пойдзеш у салдаты.
Панісеш галованьку
У чужую старонаньку.
Пытае брат брацíка:
— Нашто каня сядлаеш
І так жаласненько плачэш?
— Для цябэ, мой брацíку,
Для цябэ, мой родненькі,
Бо ты пойдзеш у салдаты.

## ОЙ, МОЙ БАЦЕНЬКУ-СОЛОВЕЙКУ

Ой мой ба- цень -ку со - ло- вей - ку Вы-да-еш мэ - не ма- -ла - дзень - ку Вы-да-еш мэ - не ма - ла - ду - ю Зра-бі мне ло - жэ за - ла - то е



## ОЙ, МОЙ БАЦЕНЬКУ — СОЛОВЕЙКУ

— Ой, мой баценьку —
соловейку,
Выдаеш мэне маладзеньку,
Выдаеш мэне маладую.
Зрабі мне ложэ залатое,
Прыкуй зазульку галосненьку,
Каб рано ўстала
І закавала,
Мэне маладую прабудзіла;
У мэне свікруха, ні матуля,
Сама рано ўстане ні збудзіт,
Зайдзе да суседа мэне судзі:
— Мая нівестка сапліва
І да работы леніва.
Як мяла хату — задрымала,
Як нісла смеці, то ўпала.

*

Ой, мой баценьку — салавейку,
Выдаеш мэне маладзеньку,
Выдаеш мэне ні жалуеш,
На проці ночы высылаеш
І проводн'ка ні даваеш.
Правадзі мэне хоць до бору,
Сам завэрнешся дадому.
Правадзі мэне з музыкантамі,
А сам заварнісе з слёзанькамі.

## МІЛА МІЛАГО ЗНІНАВІДЗІЛА










Міла мілаго знінавідзіла,
Завяла ў сад той павесіла,
Ну сухой гале той на яблыні,
Пашла да карчмы, разгулялася.
Прышла дадому, задумалася.
Села за сталом і піша пiром:
— Ох, худо худо з плахім мужом жыці,
А яшчэ хужэй, як такого німа.
Пайду ў сад, прыведу назад.
Устань, міленькі, ужэ дзень беленькі,
Ранішня зара, уставаці пара.
Ужэ ж ты тут пташачок наслухаўсе.



## СІДЗІТ КАСЕЧКА












## СІДЗІТ КАСЕЧКА

Сідзіт Касечка
За новым сталом,
Слёзанькі ўціраe,
А кала іе бацэнька іе
Розуму навучае:
— Пойдзеш, Касенько,
У чужые людзі,
Будзь, ты, пакорненька,
Схіляй галоўку
Часцюсенька,
Кланяйся нізюсенька.





## ПІЛІ ЛЮДЗІ ГАРЭЛІЦУ

Пі - лі лю - дзі га-рэ - лі - цу
гу-сі чы - сту во - ду
На - ка - жы-це дай-це знаці
да ма - е - го ро - ду.

## ПІЛІ ЛЮДЗІ ГАРЭЛІЦУ

Пілі людзі гарэліцу,
Гусі чысту воду.
Накажыце, дайце знаці,
Да маего роду.
Ні скажэце, белы гусі,
Што я тут гарую,
Но скажэце гусі,
Што я тут пануею.
Ой, зарву я з рожы кветку,
Пушчу на воду,
Плыві з рожы кветка
Да маего роду.
Плыла, плыла з рожы кветка,
Пры беразі стала.
Вышла маці воду браці,
Кветачку пазнала.
— Чы ты мае, роднэ дзіця,
Сем нідзель ляжала,
Што твая з рожы кветка
На вадзе завяла?
— Ні ляжала, мая мамо,
Ні дня, ні гадзіны.
Папалася злому мужу,
У валіку дружыну.
Ні ляжала
Ні дня, ні мінуты,
Высушылі галованьку
Мужыковы рукі.



## ОЙ КАБ Я ЗНАЛА, ШТО БУДУ ЎМІРАЦІ...

Ой каб я — зна - ла што
бу - ду ўмі - ра - ці па-
сла - ба б я мі - ла-го я -
ва - ра ру - ба - ці

## ОЙ, КАБ Я ЗНАЛА, ШТО БУДУ ЎМІРАЦІ...

Ой, каб я знала, што буду
ўміраці,
Паслала б я мілаго явара
рубаці.
Явара зрубалі, труну
збудавалі,
Стаіт тая труна дваццаць
штэры рокі
Дваццаць штэры рокі,
Пяты наступае.
Труна прамаўляе:
— Дакуль я парожня буду
стаяці,
Час-пара ва мне ўжэ ляжаці.
Палажыла б брата —
Будзе смутна хата,
Палажыла б матку —
Ні будзе парадку.
Палажыла б мілаго —
Ні будзе другого.
Мус самой уміраці.
Умру ж я ўмру,
Буду дзівіцісе:
Ой, чы будзе па мне
Мой мілы журыц'се.
Мілы зажурыўсе,
А як цело з хаты —
На другой жаніўсе.



## ПА-ПОД ХМЕЛЁМ...

Па под хме-лем, па под хме-лем,
па под ле-шчы-но - ю
Чы ні ба-чыў, па-не бра-це
Дзеў- чы - ны ма - е

C G F F E C F G A H C F C G C

## ПА-ПОД ХМЕЛЁМ...

— Па-под хмелём, па-под хмелём,
Па-под лешчыною,
Чы ні бачыў, пане браце,
Дзеўчыны мае?
— Хоць бачыў, чы ні бачыў,
Ні буду казаці.
Асядлаю канічэнька,
Паеду шукаці.
Хоць найду, чы ні найду —
Ні буду тужыці,
Асядлаю канічэнька,
Паеду служыці.
Ваду коня да Дунаю,
Конь ні хочэ піці.
Задзірае галавоньку
Хочэ мэне ўбіці.
— Чом ты, конь, вады ні п'еш?
Чом ты ні каштуеш?
— Чом ты, мой сыну, у дома ні начуеш?
Як я маю, мая маці,
Дома начаваці;
Прыдзе ночка асенняя —
Нет з кім размаўляці.

— Маеш, сынку, маеш, сынку,
Каня вараного,
Прыдзе ночка асенняя —
Гавары да ёго.
— Я да ёго гавару,
Вон да мэне ні гаворыт,
Здумаю аб дзеўчыне,
Мне сэрдэнько боліт.

*

— Чом ты мэне, мая маці,
Рано ні збудзіла?
А ўжэ мая кампанія
З месца вырушыла.
— Том я цябэ, мая дочко,
Рано ні збудзіла;
Ішоў мілы папарэдзі,
Каб ты ні тужыла.
— Ты думаеш, мая маці,
Што я па ём ні плачу.
Як выду ў чыстэ поле —
Сцежанькі ні бачу.
Ты думаеш, мая мамо,
Што я па ём ні журусе;
Як я выду ў чыстэ поле
Ад ветру валюсе.



## ПАСЕЮ РУТАНЬКІ

Па-сею ру-танькі штэ-ры за-га-нонь-кі
Мая ру- тка збу-я-ла
Ма-я ру - тка збу-я-ла

## ПАСЕЮ РУТАНЬКІ...

Пасею рутанькі
Штэры загаsucceededнонькі.
Мая рутка збуяла.
Як я была ў атца і роднай
маткі,
То я гуляць гуляла.
Я пашла за хлопа,
Як за сена копа,
То я гуляць перастала.
Плыве чоўнычок
Край маго акенка,
Німа каму прыпыніці.
А дзе мой міленькі
Штэры нідзеленькі?
І німа каму забараніці
Ой не вон не,
А мне маладую б'е,
Яшчэ кажэ волы гнаці.
Пажану я волы
На зелёны лонкі,
Там хлопцы будут валы пасці
А я, маладая, буду спаці.
Рычат валы рычат
На зялёной уліцы.
Мая міла ў полі спіт
Накрылі, накрылі,
Два дубовы дылі
На ёй белы рукі,
Бо умарла.



## ДЗЕУЧЫНОНЬКА МАЛАДА ПРАЗ ЛЕС ВАНДРАВАЛА...

Дзеу-чы-нонь-ка ма-ла-да праз лес
ван-дра-ва-ла е-шчэ не св:- та-ло
пе-ра-воз за-во-ла - ла
пе-ра-воз за-во-ла - ла

D F# G
G F# D D F#
G A D
A A D

## ДЗЕЎЧЫНОНЬКА МАЛАДА ПРАЗ ЛЕС ВАНДРАВАЛА...

Дзеўчынонька малада
Праз лес вандравала,
Шчэ ні світало,
Перэвозчыка завалала,
— Перэвозчыку малады,
Перэвезі мэне чэрэз воду,
То я табе заплачу.
З тамтае стараны вады
Перэвозчык вазе,
А дзеўчына плачэ:
— Ой, божэ мой, божэ,
Чым перэвоз заплачу.
Чы таляра міняці?
Чы вянэчка траціці?
Ой, божэ, чым перэвоз
заплаціці.
Дурна ты, дзевонька.
Ні траці вянэчка,
Як вянэчка згубіш,
Другого ні знайдзеш.
А таляры зменіш,
Другого набудзеш.



## ТАМ ПАД ГАЁМ ЗЕЛЁНЕНЬКІМ

Там пад га-ём
там пад га-ем зе-лё-нень-кім сла-ла дзеў-
ка лен бе-лень-кі сла-ла дзеў-
ка лен бе-лень-кі.

## ТАМ ПАД ГАЁМ ЗЕЛЁНЕНЬКІМ

Там пад гаём зелёненькім,
Слала дзеўка лен беленькі.
Слала, слала, прысцілала,
К сырой землі прыпадала:
— Зямля мая сырусенька,
Узяла отца і матулю,
Вазьмі і мэне маладую,
Як вішню садавую!
Вазьмі мэне адразочку,
Як вішаньку із садочку.

*

Ішлі ляхі на тры шляхі,
А жаўнеры на чатыры.
Там аднаго ляха ўбіто
На зелёной прынакрыто.
Кала его німа нікого
Толькі стоіт конік яго.
Выбіў землю капытамі,
Выеў траву з карэнямі.
Выпіў воду ў Дунаю.
— Ні стой, коню, надо мною,
Біжы, біжы дарогаю,
А но ведай, каторaю,
Як прыбіжыш пад варота,
Стукні - грукні ў варота.
А там выдзе стара жона,
То маці мая.
Вазьмэ цябэ за грывоньку
Павадзе на стаянку.
Будзе табе аброк даваці,
Будзе праўды пытаці.
Ні скажы, коню, што я лежу
Скажы, што я служу.
Выслужу панночку,
У чыстом полі магілочку



## СКОЧУ Я Ў САДОЧОК...

Ско-чу я ў са-до-чок, вы-шчы-кну лі-сто-чок
А з та-го лі-сто-чка ста-ло тры са-доч-ка.

## СКОЧУ Я Ў САДОЧОК...

Скочу я ў садочок,
Вышчыкну лісточок.
А з таго лісточка
Стало тры садочка.
У першом садочку
Зазуленька куе.
А ў другом садочку
Салавец свішчэ.
А ў трэцём садочку
Яра рута сходзіт.
Там маці сына
За ручэньку водзіт.
Водзіт вана водзіт,
Праўданькі пытае:
— Скажы, сыну, праўду,
Хто табе мільнейшы.
Міла жонка, чы родна
сестронька,
Чы міла цёшча, чы родна
маценька!
— Міла мне жонка,
Міла мне сестронька.
Як сестронька была,
Беленько хадзіла.
Міла мне цёшча,
Бо добра гасціна.
Маці мне мілейша,
Бо мэне радзіла,
Як мною хадзіла
Ніздарова была.
Як мэне радзіла
То ўсю ноч ні спала,
Белую сарочку
На смерць гатавала.
Гадуй маці дочку
У чужу стараночку.
Хто ж табе, старэнькой,
Вымые сарочку?
Гадуй маці сына
Сабе на пацеху.
Хто табе, старэнькой,
Пасцеле пасцельку?
Паколь дочка слала,
Лёгкенько ўздыхала:
Каб мая матуля
Здарова ўстала.
Як нівеста слала,
Цяжанько ўздыхала:
Каб мая свікруха
Назаўтра ні ўстала.



## СКАЖЫ, ДЗЕЎКО, ПРАЎДУ

Ска-жы, дзеў-ко, пра- ўду,
чы да- ла пры- на- ду?
чы ты мэ- не ве- рно лю-біш,
чы на я- ку- ю здра-ду?

## СКАЖЫ, ДЗЕЎКО, ПРАЎДУ

— Скажы, дзеўко, праўду,
Чы дала прынаду?
Чы ты мэне верно любіш,
Чы на якую здраду?
— Цябэ люблю, сам то пан
бог знас,
Бодай яму цяжко было,
Хто нас разлучае.
— Ніхто ні такі,
Як мой сусед блізкі.
Бадай яму цяжко было,
Як каменю плыўсці.
Камень пад вадою,
Біда за бідою,
Цяжка, цяжка, дзеўчынонь-
ко,
Разлука з табою.
Як у полі лозы
Пабілі марозы.
Паб'ют цябэ, разлучнічку,
Дзівоцкіе слёзы.
Дзівоцкіе слёзы
Нігды ні мінают,
Як упадут на бел камень,
Камень разбівают.
Ест у полі ліпа,
Лісце напускала.
Пад таею ліпіною,
Дзеўчына плакала.
Адным вочком плачэ,
Другім дзівілася.
Як здумае а хлапчыні,
Ёй сэрдэнько вяне.



## ОЙ У ГАРОДЗЕ РАСЦВІЛІ ГВОЗДЗІКІ...

Ой у га-ро- дзіе рас-цві- лі
гвоз-дзі- кі ку-піў Я-сень- ко Ка-сень -
цы ча-ра- ві - кі

У гародзе расцвілі гвоздзікі,
Купіў Ясенько Касеньцы чаравікі.
Ой, купіў, купіў, каб здарова схадзіла,
А на лето сынка ўпавіла.
Ой, купіў, купіў на шырокіх корках,
Как пахаджала па шырокіх падворках.

## ПА МОРЫ, ПА ДАЛІНЕ...

Ох па моры па да -

лі - не го-лу- бы ле -

та - ют Я - шчэ жы-ця

не за-жы-ла ўжэ ле-та мі- на-ют



## ПА МОРЫ, ПА ДАЛІНЕ...

Па моры, па даліне
Галубы летают.
Яшчэ жыця ні зажыла —
Ужэ лета мінают.
Ні гуляла я ў атца - маткі,
Замужом — ні буду.
Па чом, па чом свае лета
Спамінаці буду?
Ні я ў лецёх, ні я ў дзецёх,
Ні я ў раскашоньцы,
Толькі смутку, клопату,
У маёй галавоньцы.
Пашлі мае лета,
Лета круга света,
Запрагайце, хлопцы,
Коні вараные,
Жэньце, даганяйце
Лета маладые.
Гналі, гналі коні
Гналі па вальносці.
Даганілі лета
У Каралёвом Мосце.
— Варнецесе, лета мае,
Хоць да мане ў госці.
Ні вэрнемсе, бо німа да чого.
Было лета шанаваці
Як здароўя сваго.
Было замуж ні спішаці,
Мужа выбіраці.
Выбірала сабе мужа.
Якого хацела, хацела.
Цяпер мая галава
Штодня то ні цэла.

## ЧОРНА ХМАРА ІДЗЕ

Чор-на хма-ра і- дзе дроб-ны дож-джык

dm a⁷ dm f c⁷
D A D F C

і- дзе з на-ше-го ка- хан- ня

f a⁷ dm gm
F A D G

ні- чо- го ні бу- дзе

a⁷
A D

## ЧОРНА ХМАРА ІДЗЕ

Чорна хмара ідзе,
Дробны дожджык ідзе,
З нашаго кахання,
Нічога ні будзе,
Як мы любілісе,
То ўсе журылісе.
Як мы пэрэсталі,
То ўсе рады сталі.
Як мы любілісе
Чатыры гадочкі,
Чатыры гадочкі, чатыры ні-
дзелі.
У адной нідзелі абое пабалелі.
Дзіўчынонька лежыт
У батэнька ў каморы.
Малады казачэнько —
У зелёнай дуброві.
Дзіўчынонька лежыт,
Піці — есці носят.
Казачэнько землі
Есці — піці просіт.
— Ой, сыра земля, сыра,
Дай мне ты піці,
Можэ я абпакіну
Аб дзеўчыне тужыці.
А ў нідзелю рано
Усе звоны звонят.
То таго казака
З дубровы харонят.
Паглядзі маці,
Чы по половіні,
Чы по половіні,
Будзе по дзеўчыні,
— Поховай нас маці ўпоруч
головамі,
Каб была размова
На том свеці з намі.

## ЧЫ Я Ў САДУ НІ КАЛІНА БЫЛА















## ЧЫ Я Ў САДУ НІ КАЛІНА БЫЛА

Чы я ў саду ні каліна была?
Чы я ў саду ні зелёна была?
Узялі мэне парубалі,
У пучэнькі павязалі —
Така доля мая.
Чы я ў радзіні ні дзіўчына была?
Чы я ў радзіні ні хароша была?
Узялі мэне замуж аддалі
І ліхога мужа далі.
Така доля мая!
Чы ні было ямы ўваліцісе мне?
Чы ні было рэчкі ўтапіцісе мне?
Прычапіўсе гіда, брыда,
Поцылаваў — цяпер біда.
Така доля мая!



УСЁ СЕЮ ЛЕНОК...

Усе се - ю ле - нок

F A

усе се - ю ле - нок

c7 C F

Вы - хо - дзят ка - на -

dm a7 dm

D A D

пель кі

a7 dm

A D



## УСЁ СЕЮ ЛЕНОК...

Усё сею ленок, (біс)
Выходзят канапелькі.
Лецят птушкі,
Лецят птушкі
Канапелькі кляваці.
— Пусці, мамо, пусці
Варабэйкі ганяці.
— Ні пушчу, дочко,
Варабэйкоў ганяці,
Бо ты будзеш
З Ясеньком размаўляці
— Хоць ты ні пусціш,
Но й ні разлучыш,
Я Яся люблю,
І за яго пайду,
І за ім буду жыці.
А ты мане ні навучыш.



## ЧЫЯ ТО РУТАНЬКА...















## ЧЫЯ ТО РУТАНЬКА...

Чыя то рутанька
Па край тыну стаяла?
Туды дочка хадзіла
Цвет з каліны ламала.
І да лічка прыкладала,
Свае матуленькі пытала:
— Матуленьку мая,
Чы я буду такая,
Як калінанька сяя?
— Будзеш, доньку, будзеш,
Як у мэне пабудзеш.
А як ад мэне пойдзеш,
То спадзе з лічка краса,
Як ад сонечка раса.
Спадзе з беленького,
Як ад сонечка ясненького.



## ОЙ, ДАЙЦЕ НАМ МЕЧ, МЕЧ

Ой, дай - це нам меч

em am

E H A

меч ой дай - це нам

em

E D C E H

меч меч па - ру - ба - ці печ печ час

am em am

A E A

ка-ра- ваи вы - ма - ці час

em em am

E E D C E A

ка - ра - ваи вы - ма - ці

em h[7] em

E H E

## ОЙ, ДАЙЦЕ НАМ МЕЧ, МЕЧ

Ой, дайце нам меч, меч;
Парубаці печ,
Час каравай вымаці.
Слаўнае сёла Ясенька,
Яшчэ слаўнейшэ Касіна.
Слаўная маці Ясенька,
Яшчэ слаўнейша Касіна.
Спякла каравай,
Як калясо.
Пасадзіла зяця,
Як месяца.
Кала ёго дочку,
Як зорачку,
А сама села і пасідзела
І на дзіцей паглідзела.



## А МУОЙ БАЦЬКА ДОБРЫ...



















## А МУОЙ БАЦЬКА ДОБРЫ

А муой бацько добры
Кажэ мніэ жэніццэ;
Коб я ожэніўсе
То й ні валачыўсе.

А я хлопэц добры,
То й ні волачусе.
Дзе я дзіэўкі зачую.
Там пэрэначую.

Як я ожэніўсе,
То я зажурыўсе,
Трэбо купіць ложкі, міскі,
А до того тры калыскі.

Однэ крычыт, мамо,
Другіэ крычыт, тату,
Жыонка крычыт маладая:
Ідзі, ідзі з хаты.

Ідзі, ідзі з хаты
У поле араці,
А я пуойду маладая
Яшчэ погуляці.

## МАЛА ПТАШАЧКА НІВАЛІКА

dm b gm
Ма-ла пта-ша -чка ні-ва- лі-
D F B G

b f dm gm
ка па ра -кі-ці -ні
B F D G

d° dm dm
ска -ча Ду-рная дзеў-чы
H D D

b gm b f
-на ро-зу -му ні -ма
F B G B F

dm gm d° dm
по ка -ва-ле -рах пла -ча
D G H D

### МАЛА ПТАШАЧКА НІВАЛІКА...

Мала пташачка, ніваліка
Па ракіціні скача,
Дурная дзеўчына,
Розуму німа —
Па кавалерах плача.
А я ні плачу, а я ні хачу,
Самі слёзанькі льюцца.
Ад міленького лістаньку німа,
А ад нілюбого шлюцца.



## ОЙ, ЧЫЯ ТО МАТУЛЯ...

Ой, чы - я то ма- ту-ля

се- ю ноч - ку ні спа - ла

па у- лі - цы ха -дзі-ла

ка-ра -вай -ніц пра -сі - ла



## ОЙ, ЧЫЯ ТО МАТУЛЯ

Ой, чыя то матуля,
Сею ночку ні спала,
Па уліцы хадзіла,
Каравайніц прасіла:
— Каравайнічкі мае,
Прыхілецесь да мэне
І да маго дзіцяці —
Каравая зрабіці.
Караваю, божы дару,
На цябэ ўсяго много трэба:
Мішок мукі пшанічное,
І цэбэр воды крынічное,
Мішок солі ангельской.
Ой, каравай хорошы,
Бо харошы каравайнічкі гібалі.
Ой, вясёлы каравай
Наш, вясёлы,
Бо вясёлы каравайнічкі рабілі.
Ой, чубаты каравай,
Наш, чубаты,
Бо чубаты каравайнічкі рабілі.
Ой, цыцаты каравай,
Наш, цыцаты,
Бо цытаты каразайнічкі рабілі.

*

Ой хочацца, хочацца,
Што з барэлачкі точыцца,
А з барэлачкі ў раток,
Каб ні балеў жыватолк.

*

— Каравайнічкі, суседкі,
Вас папрашано і пастаўлено
Рабіці ні стаяці.
— Наш цело прыпацело,
Гарэлкі захацело.
А дзе той гаспадар,
Што кунжарава галава?
Вон кунжэркамі патрасе,
Нам гарэлкі прынясе.

## У ПРЫЕЗДНАГО СВАТА

У пры- е-здна-го сва-та чар-ча-на-я ха-та

чэр-чы- кам вы-сы- па -на

ка -лі- наю вы-ты- ка - на

## У ПРЫЕЗДНАГО СВАТА

У прыезднаго свата
Чарчаная хата,
Чэрчыкам высыпана,
Калінаю вытыкана.

У прыезднаго свата
Абдзертая хата,
Вон пра тое ні дбае,
Шчэй клуню абдзірае.

## ДРУЖКАМ

Гожы, дружкі, гожы,
Як у саду рожы,
Як у саду вішні,
Как усе ў замуж вышлі.
Ой, знаці, знаці,
Што дружкі багаты,
Квіткі чырвоны,
Пазатыканы.



## ПАЛАЖУ КЛАДКУ...

Па-ла-жу кла-дку ду-бо -ву ду-бо -ву

Час вам дзе-вань-кі да до-му да до - му

## ПАЛАЖУ КЛАДКУ...

Палажу кладку
Дубову, дубову.
Час вам, дзеванькі,
Дадому, дадому.
Палажу кладку,
Тоненьку, хібненьку.
Час вам, дзеванькі,
На пасцель беленьку.
А ты, Касеньку, тут застань;
Прыедзе Ясё, ручку дай.



## ТРАВА, МУРАВА...

Тра - ва му - ра - ва

чом ты ні зе-лё - на

Чом ты дзеў-чы- но

сму-тна ні ве-сё - ла

## ТРАВА, МУРАВА...

Трава — мурава,
Чом ты ні зелёна?
Чом ты, дзеўчыно,
Смутна ні весёла?
— А як я маю весёла быці,
Любіў Ясенько —
ні хочэ гаворыці.
Вон ні гаворыт, —
А мне сэрдэнько боліт,
Вон ні гадае, —
Яму сэрдэнько вяне.





## ПАЕХАЛА Б НА КЕРМАШ

gm a7 dm
Па - е - ха-ла б на кер - маш
G A D

gm a7 dm
а ў ма - не гро - шы ні маж
G A D

gm dm
Мі - лы жы-то пра-да- е
G D

gm a7 dm
а мне гро-шы ні да- е
G A D D

## ПАЕХАЛА Б НА КЕРМАШ

Паехала б на кермаш,
А ў мане грошы ні ма ж.
Мілы жыто прадае,
А мне грошы ні дае.
Чэрэз грэбальку ішла,
Як зазуленька кула.
Усе людзі дзівавалісь,
Што я боса ішла.
Нагнуласе я пад стол,
Ляжыт чобат і пастол,
Нагнулася і ўзяла,
Набулася і пашла.
— Чаго, міла, надулась,
Чом у кажух ні адзелась?
— Коб у цебэ быў так дух,
Як у мэне ест кажух.

# НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

(выбраныя з кнігі «Белорусский юмор»)

### Патрапіў

Выйшаў на сцэну спявак, зацягнуў жаласную песню, пяе і аглядваецца, ці не разжаліў каго-небудзь. І бачыць: у самым куточку стаіць бабка і плача. Скончыў ён спяваць, збег са сцэны, падыходзіць да бабкі і пытае:

— Што, бабка, заплакала?

— Як жа ж мне не плакаць, паніч: пеў ты якраз, як мая каза бляяла калі на яе ваўкі напалі.

### Розніца невялікая

Прынесла цётка ігруш валасному старшыні. А ён ёй гаворыць:

— І навошта прынесла? Свае б дзеткі паласаваліся

— Ешце, пане начальнік, а дзеткам скажу, што свінка з'ела.

### Усё ўмее

— Адчыняй браму!

— А хто едзе?

— Той, хто ўсё ўмее.

— Усё ўмее, а яму браму адчыняй!



### У дарозе

— Сядай, дзядзечка, паедзем.

— Няма калі: ісці трэба.

### Спытаў

Ішоў па дарозе гарадскі паніч, а следам маладая сялянка вяла старую кабылу ды пры гэтым весела падпявала.

— Мусіць, цябе нехта пацалаваў, што такая вясёлая? — гаворыць паніч.

— А што, пацалунак дадае вяселля? — пытае дзяўчына.

— Яшчэ б, — адказвае паніч, асабліва, калі «ён» цалуе «яе».

— Ну, дык пацалуй маю кабылу, а то яна вельмі сумная.

### Прызналася

— Чаму гэта малако, што вы прыносіце, нечым пахне?

— Не ведаю, пані. Гаспадыня ўжо і ветэрынара клікала, каб ён паглядзеў карову, толькі ён сказаў, што карова здаровая.

— А можа, лепш было б тую ваду ў студні праверыць, якую вы ў малако даліваеце?

— Што вы, панечка, хто ж гэта будзе ваду з студні цягаць! Гаспадыня дадае ваду з сажалкі, у якой каноплі мокнуць...

### У натарыуса

— І навошта вы з сабою сведку прывялі? У нас у канторы сведкі заўсёды знойдуцца.

— Так, але яны мяне, можа, і не ведаюць?

— Ведаюць! У нас такія сведкі, што ўсіх павінны ведаць.

### Грашовая падзяка

Адвакат выйграў складаны працэс. Кліент дзякуе яму за добры вынік справы.

— Пане адвакат! Як мне выказаць вам сваю ўдзячнасць? Чым я змагу вам аддзякаваць?

Адвакат:

— Няма аб чым гаварыць, даражэнькі! З таго часу, як выдумалі грошы, такіх пытанняў не задаюць!

### Не выбачыць

Ад мужа ўцякла жонка. Але хутка яна вярнулася і просіць у мужа прабачэння. А муж і гаворыць:

— За тое, што ўцякла, магу выбачыць, але за тое, што вярнулася, — ніколі!..

## Добрая рада

Вельмі непрыгожая пані наняла фурмана і пытаецца ў яго:
— Ваш конь не панясе, ён не палахлівы?
— Нічога, сядайце, ён не будзе аглядвацца.

## Выгадна...

— Паслухай, цыган, ты ж мне прадаў сляпую кабылу.
— Табе ж выгадней, — адказвае цыган, — будзе есці салому, а падумае, што сена.

## Не пазнаў

Вяртаючыся з кірмашу, мужык прылёг на дарозе і заснуў, ды так моцна, што не пачуў, як боты сцягнулі. Едзе па дарозе нейкі чалавек, убачыў сплючага і як закрычыць:
— Забірай ногі!
Адурэлы мужык глянуў спрасонку на свае босыя ногі і кажа:
— Праязджай! Гэта не мае, мае ў ботах.

## У курсе справы

Бацька: Спадзяюся, вы разумееце, што набываеце, беручы маю дачку за жонку?
Зяць: Толкам не ведаю, кажуць, быццам пяць тысяч рублёў.

## Паміж сяброўкамі

— Як табе падабаецца мая новая сукенка?
— Цудоўная! Твая краўчыха так шые, што і на калодзе добра ляжыць.

## Бедная старушка

— Вы чаго, бабуся, плачаце?
— Як жа мне, галубок, не плакаць, у царкві сказалі, што на тым свеце «будзе плач і скрыгат зубамі». А чым жа я буду скрыгатаць, калі ў мяне і зуба ніводнага ням

## Дзе ж тут логіка?

Селянін прыехаў у горад і бачыць на дзвярах аднаго дома надпіс: «Уваход забаронены».
— Ох, і разумныя ж гэтыя гарадскія, — кажа ён, — спачатку робяць дзверы, а пасля пішуць, што праз іх хадзіць нельга.



## Добры чалавек

Калгасны канюх дзядзька Апанас любіў размаўляць сам з сабою. Аднойчы ў яго запыталі:
— Чаму вы самі з сабою размаўляеце?
— З добрым чалавекам добра і пагаварыць, — адказаў той.

## Выдатны стралок

— Васіль можа са стрэльбы папасці ў муху з дзесяці метраў.
— Не можа, быць!
— Далібог! Толькі ён муху рысуе на ўсю сцяну.

## Без апраўяржэння

Муж: Твая рэўнасць, Алеся, неабгрунтаваная. Я ўчора позна вярнуўся са сходу і быў усхваляваны, таму што дакладчык адпусціў некалькі шпілек па майму адрасу.
Жонка: Роўна дзве.
Муж: Адкуль ты ведаеш?
Жонка: Знайшла іх прыколатымі да твайго свэтра.

## Супакоілася

— Ведаеш, бабка, некаторыя вучоныя мяркуюць, што сонца пагасне праз 80 мільярдаў год.
— Як ты сказаў? Праз колькі?
— Праз восемдзесят мільярдаў!
— Ах ты, свавольнік, як напужаў, мне здалося, што праз восемдзесят мільёнаў...

## Паспачуваў

Фотарэпарцёр вечарам узяўся праяўляць плёнку.
— Што гэта я на ёй нічога не бачу?
Маленькі сын, пазіраючы на бацьку, сказаў:
— Я яе днём глядзеў і нават тады нічога не бачыў.

## Напужаў

Доктар: З гэтай хваробай, даражэнькі, вы можаце пражыць яшчэ шэсцьдзесят год.
Хворы: В-о-о-ох! Значыцца, мне стала горш?
Доктар: Чаму?
Хворы: У мінулым годзе вы сказалі, што з маёй хваробай можна пражыць сто год.

## Шчырае прызнанне

Суддзя: Вы прызнаеце сябе віноўным у тым, што ўкралі ў суседкі мокрую бялізну з вяроўкі?
Падсудзімы: Так, прызнаю, не мог жа я чакаць, пакуль яна высахне.

## «Цуда»

Бабка Тэкля расказвала пра вялікае цуда, якое яна сама бачыла.
— Было гэта даўным-даўно. Сяджу я неяк у хаце, і раптам паяўляецца стары. «Я, — кажа, — цудатворац і хачу вас папярэдзіць, што праз некалькі мінут загарыцца ваша хата». Я перапужалася. «Што хочаш бяры, толькі зрабі, каб гэтага не здарылася». І што вы думаеце — хата не загарэлася...

## Супакоіў

— Паслухайце, ваш чамадан ледзь трымаецца на паліцы, ён зараз зваліцца на мяне.
— Не хвалюйцеся. У ім няма шкляных рэчаў.

## Расчараванне

З рыбака — няўдачніка ўсе смяяліся. Але аднойчы яму пашанцавала: выцягнуў з ракі грамаднага шчупака. Ён падумаў — падумаў і выпусціў яго назад.
— Чаму? — пытае ў яго таварыш.
— Усё роўна не павераць, скажуць, купіў.

## Чорт прынёс

Нявестка ўбачыла праз акно, што ідзе свёкар, і кажа паціху:
— Ізноў яго чорт нясе.
Зайшоў свёкар у хату, а маленькі Гаўрылка пытае:
— Раскажы, дзедка, як ты да нас дабраўся.
— Ды вось ішоў памаленьку...
Гаўрылка, не разумеючы:
— А мамка сказала, што цябе чорт прынёс...

## Апраўданне

Майстар неяк заўважыў рабочаму:
— Нешта ты, браток, позна пачынаеш працу!
— Нічога, — апраўдваецца той. — Затое я рана яе канчаю



## Прынцыповая

У жанчыны пытаюць:
— Колькі вам год?
— Трыццаць.
— Але ж вы і год таму назад гаварылі тое ж.
— А я ад сваіх слоў ніколі не адмаўляюся.

## Тупая брытва

Сеў бацька брыцца. Правёў раз-другі па намыдленай шчацэ. Не бярэ.
— Ну і тупая брытва, — кажа ён.
— Няпраўда, — запратэставаў сынок. — Брытва вострая. Я ёю сёння некалькі каляровых алоўкаў завастрыў.

## У сталоўцы

— Чаму ў вас чай не салодкі?
— А вы яго памяшалі?
— Памяшаў.
— А ў які бок мяшалі?
— Якое гэта мае значэнне? Ну, направа.
— А цукар пайшоў налева.

## Аматар музыкі

Спазніўшыся на канцэрт, грамадзянін спяшаецца на сваё месца і пытае ў суседа:
— Што выконваюць?
— Пятую сімфонію Бетховена.
— Ужо пятую? Здарова ж я спазніўся!

## У пральні

Кліент: Якую вы мне кашулю аддалі? Яна ж брудная.
Работнік: Супакойцеся, грамадзянін, яна такая і была.

## На экзамене

Прафесар пытае ў студэнта:
— Чаго вы так хвалюецеся? Баіцеся маіх пытанняў, ці што?
— Ды не, пане прафесар, я баюся сваіх адказаў...

## Кахаючы муж

Жонка: Ох, Коля, калі ты быў жаніхом, ты абяцаў насіць мяне на руках...
Муж: Ты забываешся, дарагая, што важыла тады ўдвое менш.

# ЗМЕСТ

30 ПЕСЕНЬ АГАТЫ КАРПЮК